УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
Л33

Укладанне, прадмова і каментар
Сяргея Чыгрына

**Лейка, К.**
Л33 Пан Трудоўскі : з літаратурнай спадчыны / уклад., прадм., камент. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 128 с.
ISBN 978-985-7119-31-8.

Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры пад адну вокладку сабраны адшуканыя ў архівах і бібліятэках асобныя творы пачынальніка беларускай літаратуры, аўтара «Нашай нівы» ў 1911–1921 гадах — паэта, празаіка і драматурга Кандрата Лейкі (1860–1921).

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-31-8**
© Лейка К., 2015
© Чыгрын С., уклад., прадм., камент., 2015
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2015

## Слова пра Кандрата Лейку

Недалёка ад горада Слоніма знаходзіцца маленькая вёсачка Збочна са старажытным гарадзішчам. У гэтай вёсцы ажно ў XIX стагоддзі ў беднай сялянскай сям'і Тодара і Тэклі Лейкаў нарадзіўся сын Кандрат, які некалі напіша ў аўтабіяграфіі: «Нарадзіўся я ў 1860 годзе, 17 верасня, здаецца».

Дзяцей тады ў сялянскіх сем'ях было многа. У сям'і Лейкаў, акрамя Кандрата, гадаваліся яшчэ тры браты. Бацька часта хварэў, таму работнік з яго быў слабы. А маці вызначалася працавітасцю, вельмі любіла дзяцей, была ласкавай і добрай.

Чытаць Кандрата навучыў яго родны дзядзька Раман. З гэтага часу будучы пісьменнік і педагог на ўсё жыццё палюбіў кнігу і ніколі з ёй не расставаўся. Хутка хлопчыка аддалі ў Азярніцкае вучылішча, якое знаходзілася недалёка ад Збочна. Кандрат вучыўся старанна, кожны дзень з палатнянай торбачкай бегаў у школу. Ён стаў любімым вучнем настаўніка вучылішча Восіпа Міхайлавіча Вікторскага.

Адначасова з вучобай трэба было Кандрату дапамагаць сям'і, бо хлеб тады здабываўся нялёгка. Кандрат разам з сябрам Сымонам наймаліся ў пастухі. Да ўсходу сонца хлопчыкі гналі статак у поле. А халодная раса балюча шчыпала босыя ногі. Даводзілася грэць нагу аб нагу. А калі з-за лесу паказвалася сонейка, сябры залазілі на вялікі камень і грэліся. Кандрат часта распавядаў што-небудзь цікавае, нават выдумляў сам на хаду, а Сымон слухаў. Беларускія хлопчыкі тады марылі пра шчаслівае жыццё, пра будучыню.

У Кандрата Лейкі часта балелі ногі. Халодная раса студзіла ступні, а потым нылі калені, што ноччу немагчыма было заснуць. Ён падыходзіў да матулі, якая саграvала сыночку ножкі, гладзіла іх сваімі мазолістымі рукамі, лячыла іх народнымі сродкамі, бо, каб выклікаць доктара, не хапала грошай.

Азярніцкае вучылішча Кандрат закончыў паспяхова. Настаўнік Восіп Вікторскі, бачачы, што хлопец вельмі здольны да вучобы, выкарыстаў усе мажлівасці, каб паслаць яго вучыцца ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю за казённы кошт. І Кандрат Лейка паехаў вучыцца.

Пасля вучобы ў 1879 годзе яго накіравалі працаваць настаўнікам у мястэчка Косава Слонімскага павета (цяпер гэта Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці), якое знаходзіцца за 35 вёрст ад роднай вёскі Збочна. Неўзабаве цяжка захварэла маці. У моцную завіруху на санях сын з Косава дабіраецца ў родную вёску. Маці застаў яшчэ жывою, але нічым дапамагчы ён ёй не змог.

Пазней сваёй маці Кандрат Лейка прысвеціць два апавяданні «Успамін» і «Таклюся-сухотніца», якія друкуюцца ў гэтай кніжцы. Ён так моцна любіў сваю маці, так верыў у яе высокую маральную чысціню і справядлівасць, у яе прыродныя разумовыя здольнасці, што даверыў ёй, простай сялянцы, у апавяданні ўзнімаць важныя пытанні таго часу. Кандрат Лейка пісаў: «Перад Таклюсяй цяпер неразгаданаю загадкаю стаяла тры цікавыя пытанні:

Першае: калі паміж людзьмі будзе праўда?

Другое: ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі?

Трэцяе: калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?..»

Удзячны сын паставіў на магіле маці ў вёсцы Збочны дарагі чыгунны помнік. Гэты помнік захаваўся да сённяшніх дзён.



Пяць гадоў працаваў Кандрат Лейка настаўнікам у Косаве. Тут ён пачаў пісаць на роднай мове свае першыя вершы, датаваныя 1883 годам. Працаваць у Косаве было цяжка, дый не пераставалі балець ногі. А калі ён звярнуўся да доктара, той параіў яму памяняць месца жыхарства на цёплы і сухі клімат. І ў 1884 годзе наш зямляк пераязджае ў Харкаўскую вобласць на Украіну. Там ён спачатку працуе настаўнікам у Лініўскім пачатковым народным вучылішчы, а праз год быў пераведзены ў Аснавянскае народнае вучылішча.

У 1887 годзе ў двухпавярховым доме сваякоў украінскага пісьменніка Рыгора Квіткі-Аснаўяненкі ў Харкаве адкрылася вучылішча для сляпых дзяцей. Праз пяць гадоў вучылішча пераехала ў новы трохпавярховы корпус на Сумскую вуліцу. Гэты корпус быў пабудаваны на ўзор дрэздэнскай школы для сляпых дзяцей на грошы, якія былі сабраныя жыхарамі Харкава, а таксама за кошт мясцовага ўніверсітэта. Начальнікам вучылішча ў новым корпусе быў прызначаны беларус Кандрат Тодаравіч Лейка.

З вялікай любоўю Кандрат Лейка ўзяўся за справу выхавання сляпых дзяцей. Ён уважліва вывучаў іх псіхалогію, распрацаваў сваю методыку навучання. Для дзяцей, якія не бачылі, праводзіліся экскурсіі ў поле, у лес, ажыццяўляліся паездкі ў Палтаву і ў Кіеў. Найбольш таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак па сваёй ініцыятыве ён пачаў навучаць музыцы.

Шмат увагі наш зямляк удзяляў фізічнаму выхаванню сваіх гадаванцаў, бо лічыў, што з дапамогаю гімнастычных практыкаванняў можна пазбавіцца дэфектаў каардынацыі цела дзіцяці. На кожным пасяджэнні папячыцельскага савета Кандрат Лейка паўтараў адно і тое: «Гаспада! Прашу вас асігнаваць дадатковыя сродкі на спартыўныя снарады для вучылішча». А яму адказвалі: «Еще чего придумали! У нас приют для слепцов или обезьяний цирк?» Але сродкі Лейка знаходзіў. І на пляцоўцы каля вучылішча з’явіліся турнікі.

Становішча навучальнай установы пагоршылася тады, калі старшыня папячыцельскага савета прафесар К. А. Андрэеў быў пераведзены на службу з Харкава ў Маскву. З ад'ездам прафесара на вучылішча пачалі выдаткоўваць менш сродкаў. Тады Кандрат Лейка вырашыў прыдбаць свой агарод. Выхаванцы самі засейвалі градкі, а восенню збіралі ўраджай бульбы, морквы, капусты, буракоў, цыбулі, якіх хапала на ўсю зіму.

У 1897 годзе вучылішча выпусціла 6 першых вучняў. Але ўсе яны паехалі да сваіх бацькоў і далей вучыцца ніхто з іх не пайшоў. Усё гэта бачыў іх начальнік і вельмі перажываў. Ён пачынае выношваць новыя планы падрыхтоўкі сваіх выхаванцаў і рыхтуе іх да паступлення ў гімназіі і ва ўніверсітэты. Вучылішча пачынае працаваць па праграме пачатковых класаў гімназіі.

Працуючы ў Харкаўскім вучылішчы для сляпых дзяцей, Кандрат Лейка прайшоў спецыяльныя курсы ў Пецярбургу, а таксама слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. Ён вельмі часта выступаў у друку з артыкуламі на розныя педагагічныя тэмы. Друкаваўся ў пецярбургскім часопісе «Слепец», а таксама ў харкаўскай перыёдыцы — газеце «Губернские ведомости» і «Южный край». Некаторыя свае артыкулы падпісваў псеўданімам «Мрачный».

У 1893 годзе ў Харкаве Кандрат Лейка выдае сваю першую кнігу на рускай мове «Русская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления». Але ў Харкаве Кандрат Лейка не забываў і родную мову. У гэты час ён піша шмат паэтычных твораў, прысвечаных птушкам, хатнім жывёлам, а таксама сатырычныя вершы.

Ішоў студзень 1905 года, і ў вучылішча для сляпых дзяцей уварваўся вецер рэвалюцыі ў Расіі. Вучні і настаўнікі абмяркоўвалі падзеі ў сваім горадзе, цікавіліся навінамі і нелегальнай літаратурай. Кандрат Тодаравіч патураў ім. Аб



гэтым даведаліся мясцовыя ўлады і звольнілі яго з займаемай пасады за «опасное вольнодумство в вопросах воспитания слепых детей». На яго месца прыйшоў нехта Захараў — чалавек далёкі ад педагогікі і выхавання. Пры ім усе новаўвядзенні, якімі ганарыўся Лейка, хутка зніклі, а вучылішча ператварылася ў «богоугодный приют». Аднойчы нават каля кабінета новага начальніка адбыўся пратэст. Хлопчыкі і дзяўчынкі патрабавалі, каб у вучылішчы было ўсё, як пры Кандрату Тодаравічу Лейку, найперш — прагулкі па горадзе, спартыўныя мерапрыемствы, экскурсіі.

Цяжка сёння адказаць: ці дабіліся былыя гадаванцы нашага земляка сваіх патрабаванняў, але Кандрат Лейка ў вучылішча больш не вярнуўся.

Гэтая навучальная ўстанова для сляпых дзяцей існуе ў Харкаве і сёння. Але называецца яна інакш. Цяпер гэта абласная спецыяльная гімназія-інтэрнат для сляпых дзяцей імя У. Г. Караленкі.

Пасля Харкаўскага вучылішча для сляпых дзяцей Кандрат Лейка пэўны час працуе выкладчыкам рускай мовы ў Елісаветградскім камерцыйным вучылішчы, а пасля ў адной з прыватных жаночых гімназій.

У 1911 годзе наш зямляк пераязджае ў горад Валкі Харкаўскай губерні і ўладкоўваецца на працу ў мясцовае павятовае ведамства на пасаду загадчыка навучальнага аддзела. Гэта быў самы плённы і шчаслівы час для Кандрата Лейкі. Праўда, калі не лічыць смерць ягонай маладой жонкі. Яна памерла падчас родаў у 1916 годзе. Дактарам удалося выратаваць толькі сына Віталя, і яго на выхаванне забрала на Палтаўшчыну Анастасія Васільеўна Пеліпенка — родная сястра жонкі Кандрата Лейкі.

У Валках Кандрат Лейка наладжвае шчыльныя сувязі з Бацькаўшчынай. Ён перапісваецца з беларускімі дзеячамі і літаратарамі Лявонам Дубяйкоўскім, Гальяшом Леўчыкам,

Янкам Купалам, з рознымі беларускімі таварыствамі і камітэтамі, а таксама з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў. Шмат піша і перакладае з украінскай мовы на беларускую. Свае творы дасылае ў Вільню, а з кастрычніка 1911 года друкуецца ў «Нашай ніве» — апавяданне «Успамін» і верш «Зязюлька». На старонках «Нашай нівы» з'яўляюцца яго апавяданні «Кульгавы дзядзька Раман», «Таклюся-сухотніца», «Лес шуміць», «Панас Крэнт», «Абмылка», «Пан Трудоўскі», верш «Навальніца» і іншыя творы. Друкуецца таксама ў «Беларускім календары на 1916 год», у «Гомане», «Беларускай думцы», пазней — у «Нашай думцы».

У сваіх апавяданнях і вершах Кандрат Лейка апісваў унутраны свет сваіх герояў, расказваў пра сацыяльныя канфлікты рэчаіснасці. Творы яго па-свойму філасофскія і псіхалагічныя, а таксама разнастайныя па жанру і тэматыцы. Некаторыя з іх, асабліва вершы, напісаны з гумарам, з баечнай мараллю, з элементамі фальклору. Максім Гарэцкі некалі напіша пра Кандрата Лейку: «Надта здольны нашаніўскі апавядальнік».

У 1912 годзе ў Вільні асобнай маленькаю кніжачкай выходзіць з друку п'еса Кандрата Лейкі для дзяцей «Снатворны мак», якую ён прысвяціў вясковым дзецям Слонімскага павета. Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

У 1917 годзе хвароба ног, на якую захварэў у юнацтве, дала пра сябе знаць. А праз год Кандрата Лейку спаралізавала. У чэрвені 1918 года пляменнікі перавезлі яго ў горад Здалбунаў на Валынь да роднага брата Івана.

Пісьменнік моцна перажываў, што быў прыкаваны да ложка і не змог бачыцца са сваім маленькім сынам Віталем, якога часта наведваў на Палтаўшчыне. Ды і матэрыяльнае становішча стала жахлівым. Валынь перайшла пад Польшчу,



і пенсію, якую Кандрат Лейка атрымліваў праз Ровенскае казначэйства, палякі адмянілі. Таму апошнія тры гады ў Здалбунаве жыў ён за кошт дапамогі сяброў з Беларусі і Беларускага камітэта ў Варшаве. Землякі клікалі Кандрата дамоў у Гародню альбо на Слонімшчыну, але сіл вяртацца ўжо не было. «Падацца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі — о, яка б гэта была для мяне радасьць, шчасьце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыцьцё мяне зусім задавіла, а аб Маці-Айчыне магу цяпер толькі ў салодкіх марах успамінаць...» — пісаў Кандрат Лейка ў адным са сваіх пісем Лявону Дубяйкоўскаму («Наша ніва», 1999, № 6).

Перад самай смерцю ён паспеў паслаць у Беларускае навуковае таварыства восем сшыткаў сваіх твораў з надзеяй, што таварыства выдасць іх асобнаю кнігаю пад загалоўкам «Засеўкі». Пра кніжку ён марыў і ў 1914 годзе, калі атрымаў ліст ад Янкі Купалы, які паведамляў, што Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні хоча выдаць асобнаю кнігаю ягоныя творы. Але вершы і апавяданні Кандрата Лейкі асобным зборнікам свет так і не пабачылі, а многія з іх проста згубіліся. Ды і сам пісьменнік памёр у верасні 1921 года ў Здалбунаве на Украіне, дзе і быў пахаваны.

Магіла нашага земляка знаходзіцца на адных са старых могілак Здалбунава. За ўсе гэтыя дзесяцігоддзі ніхто з беларускіх літаратараў там ніколі так і не пабываў. Толькі мне ў пачатку 1990-х гадоў пашанцавала адшукаць і сфатаграфаваць яго магілу. Магіла беларускага пісьменніка ўжо зраўнялася з зямлёю і зарасла травою і кустамі. Толькі дзякуючы жалезнаму крыжу з шыльдачкаю ўдалося яе знайсці. На крыжы на ўкраінскай мове напісаны словы:

Нудьга його задавила
На чужому полю.

В чужу землю положила —
Така його доля.

*К. Лейко*

Світла память про Вас
Завжди буде жити
В серцях наших.

*Родичи*

Увесь час Кандрат Лейка хацеў вярнуцца на сваю Радзіму, памерці на роднай зямлі. Але гэта яго мара так і не збылася. Сёння ўпершыню мне ўдалося сабраць творы Кандрата Лейкі і выдаць асобнай кнігай, каб вярнуць яшчэ адно імя пачынальніка нашай беларускай літаратуры.

*Сяргей ЧЫГРЫН*

# Паэзія



## Бусел

Бусел, бусел, галяндач,
Пайшоў жыта аглядаць;
Яшчэ жыта зеляно,
Буслу ногу адняло.
Скача бусел на кію,
Кляне доленьку сваю.

*1883*

## Песня ластаўкі
*(прыляцеўшы з выраю, седзячы ў гумне)*

Параелі, параелі,
Пералушчылі, —
На Каляды, на Вялікдзень,
На запушчыны.
Чым я буду, чым я буду
Гадаваць дзіцят?..
Накраду я, накраду я
Ў гаспадынь зярнят,
Накармлю я, накармлю я
Маладых птушат.

*1883*

## Сарока

Сарока-белабока
Па хаце скакала,
Рагатала, вярцелася,
Дзетак забаўляла.
На ёй бела фартушына,
Чорненька сукенка,
А гаворыць і шчабеча
Дробна, як паненка...

*1883*

## Журавель

Даўгашыі журавель
Скляваў лешку канапель,
Гоны спелае пшаніцы,
Загон цэлы сачывіцы...
Ой, я таму жураўлю
Калом спіну пераб'ю,
Каб ён болей не лятаў,
Ў полі збожжа не кляваў.

*1885*

## Птушкі

От, вароны — стары жоны
Пайшлі жыта жаці,
А галачкі-цыганачкі
Снопікі вязаці.
Даўгашыі жураўлі
Усе выйшлі касіці,
Верабейкі-малойчыкі —



Пакосы сушыці.
Ластавачкі з плісачкамі
У дудачку граюць,
А малінкі, канарэйкі
Седзячы спяваюць.
Жаўтабрушкі з кулікамі
Па шляхах вандруюць,
А арлы з-за гор далёкіх
Усімі кіруюць.

*1885*

## Муха

— Цэлы дзень лятаю,
Гарую,
Працую,
А долі не маю, —
Жалілася муха,
Седзячы
І гледзячы
Воліку ў вуха.
— Усе мяне лаюць,
І б'юць,
І таўкуць,
Са свету зжываюць:
Я ж усіх навокала
Паважаю
І кахаю.
Дык за што жэ, волік,
І бяду,
І напасць
Я цярплю, саколік?
— А за тое маеш
Плягу

І знявагу,
Што усіх кусаеш, —
Вол тлумачыў мусе.
І тут укол,
Зуд і боль
Ён пачуў у вусе.

*1885*

## Дзед і баба

— Ідзі, ідзі, дзедку,
Ды ў лес па маліну,
А калі не пойдзеш,
То, дальбог, пакіну.
— Ой, не кідай, бабка,
Ой, не кідай, любка,
Варчліва галубка:
Прынясу маліну
І добру дубіну
На бабіну спіну.

*1885*

## Пчолы

Пайшлі ў вуллі непарадкі,
Не слухаюць пчолы маткі.
— Трэба матку нам прагнаці
І новы жыццю ўклад даці;
Тако ж труцняў цэлу роту
Трэба выгнаць на работу,
Годзе ім салодка спаці,
Хай мяды ляцяць збіраці...
Гэтак пчолы ўсе крычалі



І, з’яднаўшысь, бунтавалі.
Матка збітая упала,
Захварэла і сканала.
Труцні ў поле паўляталі
І там з голаду прапалі,
Пчолы, што ў рабоце млелі,
Цяпер у вуллі сядзелі,
Урад вольны закладалі,
Новых радчых выбіралі.
Ішлі спрэчкі і гамоны,
Вулей стаў быдта шалёны.
Адзін кажа: «Гэдак будзе!»
Другі крычыць: «Не, не будзе!»
Справа гук: «Давайце матку!»
Злева: «Выгнаць іх дзеля парадку»...
Калоцяцца, спрачаюцца,
А работы чураюцца.
Прайшло лета — няма ладу,
Ні прыплоду, ні ураду.
Мёды ссяклі, соты спрэлі,
Пчолы ўзіму пакалелі...
Напрадвесну вулей пусцеў,
Толькі чарвяк у кутку сядзеў.

*1885*

## Ядзерац

Ляці туды, ядзерац,
Скуль мой будзе маладзец.
Як паляціш, то пушчу,
Не паляціш — утаплю.

*1885*

## Верабей

От гаробчык, спрытны хлопчык,
Каля хат сягае,
Сюды-туды, ўбок, назад,
Ножкі выхіляе.
Дзяўбе з ранку да вечара —
І тут, і там кража,
А спытайся: ці наеўся?
— Чуць жыў, — ён адкажа.

*1886*

## Над калыскаю

Ой, люлечкі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
Ды ў чырвоных ботах,
Сталі сакатаці.
Трэ ім есці даці:
Адной піражка,
Другой тваражка,
А трэцяй гарошку,
Каб бавіла Зоську.

*1886*



## Павук

— Па ўсіх кутках, вуглах хаціны
Насцялю я моцнай павуціны.
Мушак, мух-зладзеек налаўлю
І ўсіх насмерць перадаўлю...
Увесь сок з іх высмакчу я жыва
І баль зраблю сабе на дзіва!
Гэтак гаварыў павук малому сыну,
Снуючы ў хаце прэнтко павуціну.
— Глядзі, глядзі, гэн з венікам у хату
Зайшла кабета, — сказаў сыночак тату.
Павук спалохаўся і ўвесь дрыжаў,
Бо чуў, што для яго канец настаў.
Тут жонка стала чысціці хаціну,
Змятаць і рваць вісеўшу павуціну.
Павук булдыхнуўся аб землю галавою
І тутака растоптан быў нагою...

*1886*

## Рабко

Рабко верна у нас служыць
І жыве сабе, не тужыць:
Удзень грэецца на сонцы,
Ноччу дрыхне на саломцы.
Пільнуе ён гумно, садок,
З двара не ступіць ні на крок,
Але тады толькі брахне,
Як хто ў бок нагой штурхне.

*1886*

## Песня працаўнікоў

Дзе ты, шчасце,
Дзе ты, доля, —
Куды запрапалі?
Цэла жыцце
У дзень і ноч
Мы ўсе вас шукалі.
Пяском жоўтым,
Снегам белым
Вас пазасыпала
Ці вятрамі
І віхрамі
Вас пазамятала?
У шырока
Выйдзем поле
І станем гукаці, —
Маўчыць поле,
Шчасце, доля
Не хочуць нас знаці.
Цэла жыцце
Плач ды слёзы,
Мука, гнёт, няволя;
Як умрэмо,
Паны кажуць,
Будзе лепша доля.

*1889*

## Зязюлька

Верба як зазелянела,
К нам зязюлька прыляцела,
Села сабе на суку
І крычыць: куку, куку!



— Скажы, зязюлька, на прывет:
Колькі жыць я буду лет?
— Куку — раз, куку — два,
А больш і няма...
Сціхла, як бы скамянела,
После — фырк — і паляцела...
З той пары я стаў хварэць,
Тужыць, плакаць і балець.
Ужо з год, як я хварэю,
Мала ем і часам млею.
Да двух лет не дацягну,
Зараз лягу я ў труну.
Бач: зязюлька не салгала,
Шчыру праўду мне сказала...
Як зямлёй ў труну ударыць,
На магіле крыж паставяць,
Пад тым крыжам вы схіліцесь
І за мяне памаліцесь.

*1911*

## Навальніца

Выступала цёмная хмара,
Неба аблажыла.
Стоўбам віхры закруцілі
І бура завыла.
Разлеглася тая хмара
Над полем цвітучым,
Згусцілася, раскацілася
Перуном бліскучым.
Доўга, доўга чорна хмара
На небе стаяла
І вадою з грудзей поўных
Землю аблівала.

На захадзе весялуха
Дугою сплывала,
А сялянка перад крыжам
Пацеры шаптала:
— Божа шчыры! Хай народ твой
Міне твая кара,
Хай не вернецца ніколі
Тая чорна хмара...

*1914*

## Напрадвесну

Іграй, бацька,
Скачы, маці, —
Будзем весяліцца...
Прыйшла воля,
Няма гнёту —
Чаго ж нам журыцца?
Знікла панства,
Счэзла хамства —
Сталі ўсе братамі.
Засвяцілась ў небе зорка
Новая над намі,
Замкі зняты,
Ланцуг упаў,
Астрогі разбіты —
Канец цемры,
Нам да свету
Дзверы ўсе адкрыты.
Роднай мовай,
Роднай песняй
Адусюль павеець,
Ўсё святое,
Ўсё былое



Нам душу сагрэець.
Так танцуйце
І гукайце
Усім, браткі, людзям,
Што мы выйшлі
З-пад няволі —
Пад ярмом не будзем.
Па вяселлі —
Да работы!..
Жыццё паднаўляці,
Каб у брацтве
І у шчасці
Усім пражываці.

*1918*

* * *

От плісачкі з ластаўкамі
Пайшлі жыта жаці,
А аўсянкі, канаплянкі
Снопікі вязаці.
Салавейчыкаў з драздамі
Выгналі касіці,
А малінак, канарэек —
Пакосы сушыці.
Качачкі з вудачкамі
Пайшлі малаціці,
А жураўлі з петухамі
Рыбіцу лавіці.
І вароны, і сарокі
На скрыпачцы граюць,
А буслы з індыкамі
Седзячы спяваюць.
Вераб'і і жаўтабрушкі

Па шляхах гуляюць,
А крукі з каршунамі
Радай запраўляюць.

*1919*

## Апошнія хвіліны

Няма ўжо тых,
Каго любіў,
З кім працаваў,
Бяду дзяліў...
Адных даўно
Ўзяла зямля,
Другіх згубіў
Ў дарозе я.
Хто быў — няма,
І след прапаў.
Застаўся я —
Бог пакараў.
Адзін, адзін...
Гнію, як пень,
І смерці жду
Штоноч, штодзень
Адзін... без сіл...
А мук — гара.
Не варта жыць,
Канаць пара...

*1921*

# Проза



## Успамін

Ніяк не мог забыці смерці сваёй мацеры...

Тады быў ён ужо настаўнікам і служыў у мястэчку, за пяць міль ад сваёй роднай вёскі.

Стаяла той год надта халодная зіма. Снегам завеяла ўсе дарогі, і людзям не было па іх ні праезду, ні праходу.

Раз пад вечар, у страшную завіруху, адчыніліся дзверы, і да яго ў пакой увайшоў дзяцюк з бацькоўскай вёскі па імені Тарас.Тарас прывітаўся і кажа:

— Я прыехаў да цябе, Кандратка, з нядобрай весткай: твая, братка, маці памірае і надта жадае перад смерцю цябе бачыць. Паедзем...

Ён апрануў цёплую адзежу, узяў з сабой колькі медзякоў, і паехалі...

Худая, як шчэпка, Тарасава кабылка ледзьве-ледзьве паўзла па снезе: санкі перакідаліся з гурбы на гурбу і не раз у выбоінах выварочваліся ўверх дном. Снег абляпіў адзежу белай карой. Холад прабіраў да касцей, і яны дрыжэлі ад сцюжы.

Прыехалі да Збочнага (гэтак называлася тое сяло) аж на другі дзень пад вечар. Ён з трывогай увайшоў у хату. Як жа яму памятны тых колькі цяжкіх хвілін... Маці ляжала на печы пад радном і крэпка стагнала. Вочы яе ўваліліся, твар пасінеў. Яе надта мучылі колікі ў грудзях і ў баку. Яна ледзьве пазнала сына.

У хаці было так сцюдзёна, што ажно вада ў вядры замерзла. Вокны запушыліся ад марозу, пад запечкам бляяла нядаўна акаціўшаяся авечка, вуглы замерзлі і

абледзянелі. Куды ні кінеш вокам, адусюль глядзіць беднага, беспрытульнасць.

Ён нагнуўся да мацеры і пацалаваў яе халодны твар. Яна расплюшчыла свае запаўшыя вочы і, глянуўшы на яго, сказала:

— Як я рада, сынок, што ты прыехаў... Але як жа ты пакінуў сваю школку? Каб не было табе якой бяды ад начальства?!

— Не, не будзе, — супакойваў сын.

— Ты, дзіцятка, адзін з нашага роду выйшаў у людзі, — ізноў загаварыла да яго хворая маці, — над адным табой свеціць сонца, а мы ўсе гніем тут, як у яме... Якое наша жыццё? Няхай Бог крые ўсякага чалавека ад жыцця такога...

Бедная! Ёй здавалася, што настаўнікам — надта ўжо вялікае шчасце...

После ўзяла яго руку і кажа:

— Сыночак! Ты адукаваны, ты ведаеш усе пацеры і псальмы: папрасі, дзіцятка, Маткі Боскай, каб я ачуняла ад гэтай хваробы. Мне хочацца пажыць яшчэ гадкі два або тры, каб глядзець на тваё жыццё.

Тут маці заплакала.

У яго сэрца рвалася на часткі, хацелася памагчы, аблягчыць яе мукі, але чым і як? «Не тое, што доктара, — думаў ён, — але нават і фельчара няма блізка. Праўда, у павятовым горадзе можна знайсці доктара, але ён за выезд бярэ вялікія грошы, а дзе іх узяць, калі сам зарабляю на вучыцельстве не больш як 12 рублёў у месяц...»

— Як памру, — ізноў загаварыла маці аслабеўшым голасам, — пастаў, сынок, на маёй магілцы белы крыжык...

Гэта былі яе апошнія словы...

Ён пахаваў яе на прыгорку паміж роднага поля, каторае яна, працуючы праз усё сваё жыццё, аблівала гарачым потам і горкімі слёзамі...



Праз многа лет, служачы настаўнікам, назбіраў ён крыху грошай, паставіў на матчынай магілцы белы крыжык і гэтак споўніў апошняе яе жаданне...

Спі ж, маці, моцным, ціхім сном пад сваім белым крыжыкам... Прасыпацца не варта, бо і цяпер на той зямлі беларускай, як за твайго жыцця, людзі не ведаюць шчасця і мучацца, як грэшнікі ў пекле...

*1911*

## Ганулька

— Ты ж ведай, — тлумачыў бацька свайму сыну Рыгору, — Ганулька табе не пара. Агонь з ядлаўцом не ўжываюцца. Глядзі, каб не зрабіў абмылка, бо абмылак у жаніцьбе — гэта засмарга на горла.

— Або Ганулька, або ніхто, — адрэзаў сын.

— Ну, няхай будзе, як ты хочаш, — згадзіўся стары, — глядзі толькі, як выйдзе што кепска, каб не карыў бацькоў.

На другі дзень пад вечар Янка Бядак з жонкаю сваёю сядзелі ў хаце. Ганулька мясіла ў дзяжы цеста. У гэты час адчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшоў Якім Снопка, з баханчыкам хлеба пад пахаю і бутэлькаю гарэлкі ў руках.

— Пахвалёны, — сказаў Якім, знімаючы з галавы пляскатую як блінец шапку.—Ці жывы, ці здаровы?

— Жывем памаленьку, — адказаў Янка. — Як вас там Бог мілуе?

— Нічога, да пары цягаемся сяк-так, дзякуй Богу, — адказаў Якім.

— Што скажаш нам, Якімко? — спыталася гаспадыня, зацікавіўшыся тым, што бачыла ў руках.

Якім паставіў на стол бутэльку, паклаў хлеб дый кажа:

— Я сват прысланы,

Каб быў стол засланы.
Прыйшоў я па тую кветку,
Што бачыў на полі ўлетку.
Кветка тая — крулёўна
Ваша Ганулька шаноўна!

— За каго ж, Якімко, ты сватаеш нашу дачку? — спыталася маці.

— За Рыгора Табарчука, — адказаў сват.

— За Рыгора! — жахнулася Бедачыха. — Не можа быць. Тут, мусіць, абмылак які. Ці ж гэдакі багач захоча з намі радніцца?

— Мусіць, захацеў, калі заслаў да вас свата і сказаў, каб не варочаўся дадому, покі не даб'юся ад вас слова, якое яму трэба мець. Дый што аб гэтым талкаваць. Вы адкрыта скажыце: згодны аддаць за Рыгора сваю дачку ці не. Я лішне мовы не люблю, не першы раз сватам.

— Чаго ж не згодны? — адказаў бацька. — З мілаю душою аддамо.

— Лепшага зяцька нам і не трэба, — дадала маці.

— Ну, дык цяпер вып'ем за здароўе і шчасце маладых, — сказаў сват і пачаў наліваць у чаркі гарэлку.

Выпілі па адной, потым па другой, закусілі хлебам з соллю. Вот маці, павярнуўшыся да дачкі, і кажа:

— Мы цябе, дачка, запіваем за Рыгора Табарчука, дык пайдзі ў камору, вазьмі там чырвоную стужку і павяжы сватаву бутэльку, як звычай патрабуе таго.

Ганулька накрыла дзяжу, абмыла рукі і, падышоўшы да стала, адрэзала:

— Слухайце, бацька ды маці і ты, дзядзька Якім, я за Рыгора замуж не пайду. Лепей зарэжуся альбо павешуся, а жонкаю гэдакага дурня не буду.

Сказаўшы гэта, Ганулька грукнула дзвярамі і выйшла ў двор.

— Ты, Якімко, не звяртай увагі на тое, што напляла дачка мая. Ведама, яна яшчэ маладая, не можа сцікаваць усяго як след, дык і фанабэрыцца.



— Нічога, — адказаў Якім, — я дзявоцку натуру добра ведаю, не першы раз сватам. Яны заўсёды спярша брыкаюцца, а потым здаюцца і становяцца мяккімі, хоць вяроўкі з іх ві.

— Не яе воля, — сказаў бацька, — за каго захочам, за таго і пойдзе!

— Яно праўда, — аказалася зноў маці. — Гаворачы, Якімко, паміж нас, Рыгор Ганульцы нашай не пара: ён і сабою няздольны, і ў галаве, як кажуць людзі, недахват, але што зробіш. Недастаткі нашы...

— Якія вы дзіўныя людзі, — перабіў Якім. — Ну, няхай сабе Рыгор дурань, што вам гэтага? На што вам яго розум? У бацькі Рыгоравага закапана тры скрыні чырвонцаў. Усё гэта па смерці старога дастанецца Рыгору — от дзе хундамант, а на іншае што напляваць: з гаспадаркаю ўправіцца як найлепей сама Ганулька. Я ўсё гэта добра ведаю, не першы раз сватам.

— Матку-праўду сват сказаў, — пацвердзіў бацька і дадаў: — Ну, старая, прынясі стужку і заквяці бутэльку. Хай іх Бог благаславіць.

Бедачыха прынесла з каморы стужку і павязала на сватаву бутэльку.

— Божа, пашлі ім шчасце і найлепшую долю! — сказала маці, засоўваючы пляшку свату за пазуху. Якім разгладзіў далонем бараду, пажагнаўся з гаспадаром і гаспадыняю і, злажыўшы на галаву шапку, стаў выходзіць з хаты.

— Скажы, сваток, — прасіла Бедачыха Якіма, — Рыгору і яго бацькам, што мы дзякуем за гонар, што Ганулька вельмі жадае выйсці замуж за Рыгора.

— Не вучы мяне, кабетка, я сам добра ведаю, што мне трэба сказаць, не першы раз сватам, — адказаў Якім і выйшаў з хаты.

Як толькі пасля адыходу свата Ганулька вярнулася ў хату, бацькі зараз прыняліся яе вучыць і настаўляць на розум.

— Якая ты, Ганулька, дурная, — уразумляла маці, — такія важныя людзі заслалі свата, а ты не звяртаеш ніякое ўвагі, дый мала таго, яшчэ напляла глупства, асароміла сваіх бацькоў. Хто гэдак робіць?

— Гэдак робяць тыя, якіх бацькі насілам выдаюць замуж за нялюбых, — адрэзала дачка.

* * *

Ганулька аб нечым размаўляла з дружкамі.

— Пара, доньку, ехаць да цэркві, — сказала маці Ганульцы, — выходзь з-за стала.

— Добра, матухна, еду, — адказала Ганулька і выйшла з покуці на сярэдзіну хаты. Каля яе поруч стаялі дружкі, а наперадзе маленькі брацік трымаў у руках абразок, якім бацькі павінны былі благаслявіць дачку, адпраўляючы да шлюбу.

— Ну, — сказала старшая дружка, — выходзьма.

— Зараз, сястронка, — сказала Ганулька, — падай толькі мне чарку.

Дружка падала чарку. Ганулька дастала з-за пазухі бутэлечку з нейкаю жоўтаю настойкай, наліла ў чарку і як бачыш выпіла, а бутэлечку кінула пад печ.

— Перад шлюбам нешта п’е, — спалохаліся жанкі, якія былі ў хаце.

— Ці ж гэта можна? Ці не атруту якую выпіла?! — ускрыкнула маці.

— Не палохайся, матка, нічога страшнага тут няма,усё робіцца як трэба, — разважала маладая. — Я выпіла добрае настоечкі, бо сёння апошнія перад шлюбам мае запоіны.

Радасны настрой у гасцей упаў, усе чакалі нечага нядобрага. Бацькі стаялі як у ваду апушчаныя.

— Гэй, музыка! — раптам ускрыкнула Ганулька, — грай вясёлую, каб аж дух захватвала, буду скакаць, бо надта рада, што аддаюць замуж за багатага! Ну!..



Музыка зайграла. Ганулька, узяўшыся ў бокі, пусцілася па хаце вырабляць усялякія выкрунтасы, спяваючы:

Мяне замуж выдаюць,
За чырвонцы прадаюць,
Вянчаць хочуць з касавокім,
Гнілым дурнем крывабокім.
Хутчэй, маці, на пагубу
Выпраўляй мяне да шлюбу...
Не, матуся, я не здамся,
За чырвонцы не прадамся.
Лепей жыцця я рашуся,
Чым з нялюбым абнімуся.
Грай, музыка, рэж да ладу,
Буду скакаць, покі ўпаду.
Мы, дзяўчаты, ніц не варты,
Наша жыццё — адны жарты.

Дайшоўшы скокамі да дзвярэй, Ганулька ўздыхнула і ўпала, як зрэзаная сярпом кветка.

*1912*

## Таклюся-сухотніца

*Беларускія тыпы*

Аж жаль бярэ, як узглянеш на Таклюсю: худая, адны косці, твар асунуўся, пазелянеў, вочы заваліліся глыбока пад лоб, грудзі высахлі, рукі цялёпаюцца, як шчэпкі, хоць у труну кладзі.

— Сухотніца! — кажуць людзі, з жалем гледзячы на Таклюсю, — і ў чым толькі яе душа дзержыцца?

Запаўшыя ў падлоб’е глыбока вочы, смутны задумлівы твар, зморшчаны лоб і моцна сціснутыя вусны — усё гэта яўна дасвячае, што ў сваёй душы Таклюся носіць нейкую вельмі дакучную думу, ад каторае яна ніяк не можа адвязацца і каторая кіруе ёю, куды захоча. Ад

гэтай дакучнай думкі, што, як п’яўка, смокча яе сэрца, яна, мусі, і высахла.

Якая гэта думка апанавала Таклюсіным сэрцам і ссушыла яе самую, — аб гэтым мы даведаемся потым, пачакаўшы крыху, а цяпер паглядзімо, як жыве наша сухотніца.

Хоць на ўзгляд Таклюся паказваецца шчуплаю і благою, але на ўсём сяле лічыцца першай работніцай, вельмі здатнай да ўсякай гаспадарскай справы. Кожны дзень яна ўстае яшчэ дзе да пеўняў і з пацерамі прымаецца за работу: гатовіць страву для сваёй сям’і, прадзе кудзелю або шые дзецям сарочкі ды нагавічкі. Уецца ў сваёй цёмнай хатцы, як пчолка ў вулейку, і, за што ні возьмецца, работа ў яе проста кіпіць і спорыцца.

Нудна гудзе ў Таклюсіных руках пузатае верацяно, трашчыць у печы, разгараючыся, удушлівы ядловец, храпуць на запечку пад старым радном заснуўшыя хлопцы, а над гэтымі галасамі, як звон над кірмашным гоманам, нясуцца поўныя жалю, поўныя надзеі і цёплага чуцця словы Таклюсіных пацераў: «Езу добры, Божа міласцівы! Змілуйся над намі, людзьмі нямоцнымі, адпусці нам нашы цяжкія грахі і адкрый нам сваю святую волю...»

Зімой Таклюся дагледзіць як найлепей сваю худобу — кароўку і волікаў, накорміць у пару авечак, зазаве ў хату азябшых парасятак і абагрэе іх пад запечкам, а затым не забудзе і сваіх хлопчыкаў: таго да школкі выправіць, улажыўшы яму ў радняну торбачку кавалачак хлеба ды дзве-тры бульбачкі, другога пашле да панскага двара на падзённую работу, каб зарабіў які-небудзь грош, а самых маленькіх, што яшчэ на запечку сядзяць без нагавіц, пазабаўляе і ўпару накорміць-напоіць, а калі трэба, то крыху і прыстрашыць...

Улетку, управіўшыся каля хаты, Таклюся з усходам сонца спяшыць на поле жаць. Перш яна жне сабе, а потым, як падгоніць свой каснік да палавіны палеткаў, наймаецца да багатых гаспадароў або да панскага двара, каб зарабіць сабе крыху грошай на розну патрэбу.



Усюды — ці на сваёй, ці на чужой постаці, Таклюся ў рабоце перша; ніхто не ўмее гэтак хутка і роўна жаць, як яна, ні ў кога сноп не выйдзе гэтакім тугім і зграбным, як у яе.

— Не жне, а грае!.. — кажуць людзі, зайздросліва гледзячы на Таклюсіну работу.

У рабоце Таклюся мала гаворыць, больш маўчыць і аб нечым усё думае. Якая думка ляжыць у яе на сэрцы, ніхто не ведае, але па яе вачах і па твары ўсякі можа дагадацца, што думка гэта вельмі цяжкая і неадвязная. Іншы раз у Таклюсі зразу апускаюцца рукі, серп падае на зямлю, плечы выпростваюцца, і яна, уставіўшы ўперад у сінюю імглу свае запаўшыя вочы, пачынае горка плакаць; і слёзы буйнымі круглымі каплямі коцяцца з яе вачэй на калючае ржышча...

— Бог з табой, Таклюська, чаго ты плачаш? — дапытваюцца жанкі.

— Ах, мае вы сястронкі, — адказвае яна, — як жа мне, бяздольнай, не плакаць... Чым мае сіроты будуць жыць, як я памру? Па аднаму загону зямлі, і таго кожнаму не хопіць, а запасу ў гаспадарцы няма ніякага... Прыйдзецца ім, бедным, з торбай па свеце ісці... Божа мой, божа мой!..

Як толькі пройдуць гэтыя, нет ведама скуль нахлынуўшыя, цяжкія, журлівыя хвіліны, — Таклюся зноў бярэцца за сваю работу, і зноў людзі дзівуюцца, як яна хутка і зграбна жне...

Працавітая і надта разумная кабета Таклюся, але не даў ёй Бог добрай долі.

Вельмі рана, чуць не на парозе жыцця, спаткала яе няшчасце. Як толькі выйшла замуж, а гэта было на васямнаццатым року яе жыцця, зараз па шлюбе пан паслаў яе гаспадара на віціну, плыты сплаўляць па Шчары ад Слоніма да Прусаў.

У той рок якраз надта рана пачалася зіма, ужо на крыжа дуў з поўначы востры вецер і злятаўся снег, а з Пакроў пачалі замярзаць рэчкі. Плыты па Шчары плылі ціха, з задзержкай і прыплылі на месца не ў той тэрмін, што трэба было паводле дагавору. За гэту няспраўнасць цівун абвінаваціў Таклюсінага гаспадара і, каб скараць, звялеў пасадзіць яго на тыдзень у лядоўню і кожын дзень, разлажыўшы на аполку, секчы розгамі ў тры навароты. Гаспадар ледзьве жывым вярнуўся дамоў і хоць пасля гэтага жыў яшчэ доўга, але работніка з яго добрага ўжо ў гаспадарцы не было. Ён большым часам ляжаў на печы і стагнаў ад ламоцця, што гнула яго ў дугу і крышыла яму рукі ды ногі. І ўсю работу па гаспадарству прыйшлося вынасіць на плячах адной Таклюсі...

Пайшлі дзеці. Тут зноў бяда: слабейшыя ўміралі, трэба было хаваць, а лепшанькіх і дужэйшых, як толькі падрасталі, зараз забіралі ў маскалі, на царску службу; і зноў Таклюся-сухотніца аставалася адна на гаспадарцы і павінна была ўсюды сама паспяваць: і ў дома, і ў полі, і на агародзе. Цяжка доля, але што зрабіць? Паплача кабета, патужыць, пажаліцца людзям на сваю нядолю і зноў бярэцца за работу — ідзе жаць, грабіць сена або малаціць.

Кожын чалавек, якое б ні было цяжкае і цёмнае яго жыццё, заўсягды можа знайсці ў ім дзеля сябе нешта такое, што хоць на адну хвіліну асвеціць і сагрэе яго сэрца. Быў гэты божы дар і ў Таклюсі: яна надта любіла лес, сіне неба і ўсю красу божага свету. Вясной, як толькі што распусцяцца дрэвы, яна выйдзе сабе з сваёй хаты, абапрэцца каля варот на плетнік і доўга-доўга любуецца маладым, адно што распусціўшымся ляском, што расце за сялом, недалёчка ад сялібы, або з вялікім напружаннем слухае спевы салаўя ці кукаванне зязюлькі. Стаіць Таклюся зачаравана красой маладой вясны, стаіць, не шавеліцца, як прыкаваная, і ніяк не



хочацца ёй адарваць вачэй ад маладога зялёненькага лясочка і ісці ў курную цёмную хату... Іншы раз гэта любаванне веснавымі чарамі вызывае ў Таклюсі смутак і канчаецца слязамі. Глядзіць сухотніца на зялёны лес, на сіняе неба і абліваецца горкімі слязамі.

— Чаго ты, Таклюська, плачаш? — пытаюцца ў яе суседкі.

— Ой, жоначкі, не магу вытрываць, ад цяжкага жалю сэрца рвецца на кускі... Глядзіце, колькі на свеце ёсць красы, радасці, ласкі і іншых Божых дароў, а людзі спавіты жалем, як поле туманам увосень, замучаны горам, цяжкаю бядою ды розным здзірствам... Гаспадар мой замучаны ўмірае: вунь Макрына, Кароцькава дзяўчынка, ляжыць колькі лет хворая, без ног, у дзеда Якуба стараста прадаў апошніх авечак за няўплату падатку... Куды ні ўзглянеш — усюды плач, слёзы, крыўда, знішчэнне. Людзі, як ваўкі, душаць адзін другога. Дужэйшы, каб мог, гатоў слабейшага ўтапіць у лыжцы вады... Божа мой! Дзе ж праўда, любоў, ласка і радасць?.. — І зноў запаўшыя вочы Таклюсі напаўняюцца горкімі слязамі...

Сама Таклюся не адукавана — не ўмее ні чытаць, ні пісаць, але ў другіх людзях адукаванне надта высока цэніць і з усіх сіл стараецца, каб сваіх дзетак давесці да розуму і зрабіць іх пісьменнымі. Як адно што падрасце каторы яе хлопчык, яна на апошні грош справіць яму лапцікі, пашые сярмяжку і пашле да школкі з наказам:

— Глядзі ж, сынок, слухай там настаўніка і добра вучыся, ды будзь асцярожны, каб чым не прашкапіцца.

Апрыч таго, яна вельмі любіць слухаць чытанне і часта вечарамі загадвае сваім хлопчыкам уголас чытаць ёй розныя гісторыі.

— Пачытай мне, сынку, трошкі, бо надта мяне нуда апанавала, можа, крышку развеюцца мае чорныя думкі...

Адзін хлопчык, запаліўшы лучыну, свеціць, а другі бярэ кніжку і пачынае чытаць... Таклюся прадзе кудзелю і слухае.

Але, каб добра чуць, што хлопчык чытае, ёй трэба надта моцна напрагаць слух, бо енк і стогны хворага гаспадара, лежачага на печы, ды завыванне на дварэ мяцеліцы перасільваюць і глушаць слабы голас чытача.

Вот кончыў хлопчык чытанне, звярнуў кніжку і заціх. Таклюся і кажа:

— Здаецца, я вельмі добра слухала, як ты, сынку, чытаў, а зразумець усяго ніяк не змагу: у гэтым тваім чытанні ёсць многа чаго цёмнага...

— Ты не сцікавіла ўсяго, — адказвае сын, — бо гэта кніжка расейская...

— Скажы ж ты мне, сынок, — дапытваецца далей маці, — ці не растлумачваў вам у школцы настаўнік або бацюшка, чаму гэта нідзе няма кніжак, надрукаваных нашай мовай, той, што вось мы гаворым з табою?..

— Яны кажуць, што наша мова мужыцкая: яе трэба забываць; у школцы нам не пазваляюць гаварыць па-нашаму. Калісь я перад вучыцелем абмыліўся і ў расказе замест «кусок» сказаў па-нашаму «кавалак». Настаўнік стаў кпіць з мяне і назваў «лапцем». Хлопцы доўга смяяліся...

— Божа наш! — дзівуецца сухотніца, — у касцёле гавораць па-польску і яшчэ па-нейкаму; у школцы ды ў валасным праўленні — па-расейску, а чаму ж гэта нідзе не гавораць па-нашаму?.. Якія ж мы няшчасныя, нам няможна нават маліцца па-свойму; мы павінны забываць сваю родную мову... Дзе ж гэта праўда?..

Больш у гэты вечар нічога не гаварылі. Патушылі лучынку і ляглі спаць. На дварэ, пад вокнамі, усю ноч круцілася і выла, як адурэўшая, мяцеліца, а на печы цяжка стагнаў хворы гаспадар.

У гэту ноч Таклюсі сніўся вельмі цяжкі і страшны сон. Ёй паказалася, што каваль Пранук перавярнуўся ў чорта, вырас ад зямлі да самага неба і ў сваіх вялізных ручышчах дзяржыць вялізныя абцугі, нагрэтыя ў гарне да чырвацення. Лапамі гэтых абцугоў каваль абшчаміў цэлую грамаду людзей і душыць іх, прыпякаючы так, што аж цела ў небаракаў шыпіць і збягаецца ў пузыры... Тут Таклюся надта спалохалася і раскрыла вочы.



— Згінь ты, мара, прападзі!.. — шаптала яна, жагнаючыся, і больш ужо ў гэту ноч не змагла заснуць...

У нашых людзей ёсць шмат яшчэ чаго нявытлумачанага і вельмі загадачнага. Іншы працаўнік жыве ўсё сваё жыццё ў калу ды ў бядзе, не бачыць праз слёзы божага свету, у нудзе плавае, у жалю захлябаецца; здаецца, гледзячы на гэтага ўбогага чалавека, што ў душы яго апрыч думкі аб працы ды праклацця на сваё цяжкае жыццё больш нічога няма. Але не: часта бывае, што ў глыбокіх тайніцах сэрца гэтых забітых людзей жывуць вялікія мыслі і чуцці, абхватваючыя сабою долю ўсяго народа з усімі яго няўзгодамі і пажаданнем.

Вот гэткая і Таклюся: жыве ў бядзе ды ў цемнаце, працуе, як вол пад ярмом, а мыслямі абыймае жыццё ўсяго свайго народа і хоча разгадаць усе тайніцы яго долі і ведаць яго будучыню.

Перад Таклюсяй цяпер неразгаданаю загадкаю стаяла тры цікавыя пытанні:

Першае: калі паміж людзьмі будзе праўда?

Другое: ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі?

Трэцяе: калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?

Гэтыя тры пытанні вострым клінам забіліся ў галаву Таклюсі, і яна ніяк не можа ад іх адвязацца. Як цені, яны ўсюды ходзяць за ёю і просяцца на разгадку.

— Каб найшоўся які-небудзь мудрагель, — гаворыць яна сваім суседкам, — і растлумачыў мне ўсё гэта як трэба, можа, у мяне палягчэла б на душы, а то надта цяжка.

І як толькі сустрэне Таклюся якога-небудзь старога маскаля або жабрака ці пісьменнага старца — зара закліча іх да сябе і пачынае дапытвацца, калі людзям будзе лепш жыць на свеце. На гэта Таклюсіна пытанне адны маўчаць і цяжка ўздыхаюць, а другія гавораць надта многа, але яшчэ ніхто сваёй адповеддзю не прывёў яе да поўнага здаволення.

*1912*

## Сляпы дзед Якаў

Летнім днём хадзіў я па лесе. Ды вось у другой палове дня сонца закрылі хмаркі. Цяжка стала арыентавацца ў незнаёмых мясцінах. Недзе далёка глуха адазваўся гром. Я затрывожыўся, пачаў шукаць дарогу, не знайшоў яе і пайшоў у напрамку, дзе неба было яшчэ светлае. А гром і чорная хмара набліжаліся. Я спяшаўся, пачало змяркацца. Як жа ўзрадаваўся, калі заўважыў адзінокую хаціну, а каля яе старога чалавека. Падышоўшы да яго, я прывітаўся, але ён няўцямна глядзеў на мяне. Прыгледзеўшыся, зразумеў, што ён сляпы. Пачаўся дождж, гром сатрасаў прасторы, маланка рэзала неба. Гаспадар запрасіў мяне ў хаціну, накарміў і прапанаваў пераначаваць у яго. Пасля вячэры ён сказаў, што сляпы ад нараджэння, што яго гадаваў змалку дзядзечка, а затым вучыў рамёствам, каб можна было самастойна пражыць. Найперш вучыў яго шавецкай справе. Сляпы дзед Якаў (так звалі гаспадара хаціны) успамінаў: «І першы блінец у бабы атрымаўся камяком, — сказаў тады мне мой дзядзечка. — Вельмі ты яго сцягнуў, але нічога, падправіўшы, можна будзе скарыстаць яго ў справе. Маладзец, Яша!»

Гэтая першая пахвала так усцешыла і падбадзёрыла мяне, што я з падвоеным стараннем узяўся за справу. Ад лапцяў я перайшоў да чаравікаў, якія плёў са



скураных палосак, потым шыў боты. Калі ж падрос і ўвабраўся ў сілу, дзядзечка стаў вучыць мяне гнуць дугі. Гэтае рамяство таксама паспяхова ў мяне пайшло. Дзядзечка быў вельмі задаволены мною, і кожны раз, калі я падаваў яму закончаную работу, ён з радасцю паўтараў: «Сапраўды Бог дае мудрасць сляпому».

Навучаючы мяне рамяству, каб даць мне магчымасць у будучым самому здабываць на пражытак, дзядзечка клапаціўся таксама і аб маёй душы, стараўся і ёй даць спажытак. Ён быў чалавек набожны, і набожнасць у яго была не напускная, як гэта бывае ў большасці калек, а сардэчная, цёплая. Я ў дзяцінстве чамусьці вельмі не любіў маліцца, і гэта дзядзечку моцна засмучала. Аднак ён ніколі не прымушаў мяне насільна да малітвы, і калі яму казалі, што я, як нехрыст, ніколі лба не перахрышчу, ён звычайна адказваў: «Пачакайце, з'явіцца настрой — сам стане маліцца, а з-пад палкі якая ж малітва?» Але пры зручным выпадку дзядзечка заўсёды напамінаў мне пра неабходнасць быць удзячным Тварцу за Яго вялікія літасці да чалавека, і гэтыя намёкі не праходзілі бясследна.

Памятаю, былі мы аднойчы з дзядзькам на полі. Дзень быў вясенні, цёплы. Навокал нас пяшчотна шапталася жыта сваімі каласкамі, у траве звінелі тысячы розных насякомых. Сонейка песціла і ласкала зямлю, ветрык асвяжаў і бадзёрыў нас. «Дзядзечка! — усклікнуў я ў захапленні. — Як тут добра!»

— І заўваж, Яша, што ўсю гэтую раскошу пасылае Бог людзям; між тым некаторыя з іх так няўдзячны, што нават ніколі не моляцца Яму, не дзякуюць за Яго шчодрасці.

Гэтыя словы цяжкім папрокам пранікі ў маё сэрца. Мяне ахапіў сорам, я адчуў віну, што ніколі не маліўся. Пасля гэтага, бывала, кожны раз, як толькі дзядзька пачне маліцца, я станавіўся за ім на калені і шэптам паўтараў малітву. З таго часу на працягу ўсяго майго

жыцця ў цяжкія хвіліны малітва служыць для мяне самым лепшым суцяшэннем.

Нямала такіх добрых зярнят кінуў дзядзечка ў маё маладое сэрца і сваім чытаннем. Бывала, у доўгія зімовыя вечары, як толькі змеркнецца, дзядзечка сядаў каля лучынкі і чытаў мне розныя казкі, апавяданні, жыцці святых, Евангелле. Асабліва мне падабаліся біблейскія апавяданні, калі дзядзя чытаў пра патрыярхаў, пра вандраванні іўдзеяў, я з прагнасцю лавіў кожнае яго слова, і ад гэтых апавяданняў веяла нечым ціхім, закалыхваючым, на душы рабілася лёгка і прыемна.

Час ішоў. Я вырас, узмужнеў, увабраўся ў сілу. Разам з прабіўшымся вусам з'явіліся думы і жаданні, уласцівыя даросламу чалавеку. З таго часу нібы дэман пасяліўся ўва мне і стаў каламуціць маю душу. Ува мне бурлілі і клекаталі нейкія мяцежныя, дзікія сілы. Я стаў неспакойны, зласцівы, грубіў дзядзьку, псаваў работу. Бедны дзядзечка, колькі ён перанёс ад мяне непрыемнасцяў! Бывала, толькі сяду за работу, у галаву чарадою паўзуць адна за другой самыя нездзяйсняльныя, неспакойныя, часта нават грэшныя думкі. Я задумаюся, аддамся марам, а работа валіцца з рук. «Якаў! — крычыць дзядзька, — ты зноў паляцеў на нябёсы, а работу кінуў».

— Праваліся ты, дзядзечка, скрозь зямлю разам са сваёю работай, — агрызаюся я, — надакучыла мне твая работа горш паранай рэпы.

— Утаймоўвай сябе, Якаў, — павучае дзядзечка, — уціхамірвай свой бурны дух; гэта кроў у табе бунтуе, бушуе, пачуцці бурляць.

Мяне бярэ злосць, і, каб яшчэ больш раздражніць дзядзьку, зацягну якую-небудзь разухабістую песню; але песня хутка абрываецца, і я, апусціўшы галаву, зноў пачынаю соладка марыць.



Колькі ні ўгаворваў дзядзечка, я не сунімаўся. Выбіўшыся пад напорам бурліўшых ува мне сіл са сваёй вузенькай звычайнай каляіны, я ўжо не мог зноў уціснуцца ў яе і шукаў для сябе больш вольны і шырокі шлях. Мне хацелася жыць поўным жыццём, як жывуць усе дарослыя, але цемра, мой вечны вораг, адсякала мае крылы і не давала мне ходу. І ніколі слепата не здавалася мне такой цяжкай пакутнай немаччу, як у гэты час. Я ўзненавідзеў сябе, праклінаў свой лёс, раззлаваўся на людзей і ў рэшце рэшт, змучыўшы сябе, вырашыў пайсці ад дзядзькі, каб у бадзяжным жыцці заглушыць абцяжарваючыя мяне пакуты. Як пайсці і куды пайсці, я аб гэтым не думаў, але цвёрда вырашыў пайсці.

Хутка здарыўся выпадак выканаць гэтае жаданне. Неяк раз дзядзечка паехаў у горад. Да нас зайшоў адзін стары жабрак, паглядзеў на мяне і пытае: «Сляпенькі?»

— Так, — кажу, — дзядуля, нічога не бачу.

— Па людзях жабруеш?

— Не, сяджу дома, працую.

— Значыць, сам сябе корміш, — кажа дзед. — Што ж, гэта добра, толькі сляпому і без працы можна пражыць добра, таму што да сляпых людзі вялікае спачуванне маюць.

— Дзядуля, вазьмі мяне з сабою, — прашу яго, — тут вельмі мне надакучыла. —Што ж, малойчык, пойдзем, — згадзіўся стары, — пражывем як-небудзь: зімой добрыя людзі шчодрасцямі сваімі пракормяць, а летам авечак пасвіць будзем, я ж пастух і хаціну сваю маю, у лесе стаіць. Жыву адзін, як палец.

Пайшлі мы. Памятаю, была вясна. Сонейка грэла мне спіну і патыліцу, пад нагамі плюскала ў лужынах вада, па баках дарогі звінелі веснавыя ручаіны. Абагрэтыя цёплым сонейкам і суцешаныя пяшчотным ветрыкам мы ішлі бадзёра. Дзед Акім крочыў наперадзе, абапіраючыся на сваю высокую кульбаку, а я за ім семяніў

дробнымі крокамі, трымаючыся за вяровачку, прывязаную да яго пояса.

Прайшлі мы поле, прайшлі вялікі лес і пад вечар спыніліся на начлег у нейкай вёсачцы. Гаспадары трапіліся людзі добрыя, гасцінныя, яны добра накармілі нас і ўклалі на цёплай мяккай пасцелі спаць. Нічога, думаю, для пачатку нядрэнна, калі і далей так будзе, жыць можна. І пайшлі мы з Акімам бадзяцца па вёсках. У гэтым бадзяжным жыцці я знаходзіў тады для сябе шмат цікавага, займальнага. У адной вёсцы раскажуць табе якую-небудзь найцікавейшую гісторыю, у другой пачуеш і вывучыш вясёлую песню, у трэцяй якая-небудзь баба-знахарка возьмецца рознымі зёлкамі ды нашэптваннямі лячыць цябе і паабяцае, што праз дзень-два станеш відушчым. Усё гэта пацяшала, супакойвала мяне, і тое лютае шаленства, якое мучыла мяне ў дзядзечкі, стала мала-памалу слабець. Праз некалькі дзён вандравання нашага па шырокіх палях, дрымучых лясах і бедных вёсачках мы ў рэшце рэшт паспяхова дабраліся да Акімавай хаціны, гэтай самай хаткі, дзе я з табою, саколік ты мой, маю прыемнасць гаварыць. Як толькі зямля вызвалілася ад снегу і на пагорках зазелянела траўка, мы з Акімам рушылі ў вёску пасвіць авечак. Весела мне было ў полі хадзіць за статкам. Усюды шыр, раздолле! Бегай, гуляй, колькі тваёй душы патрэбна. І галоўнае задавальненне ў тым, што, даўшы нагам поўную волю, не дрыжыш за цэласць ілба або носа, бо навокал прастора і няма на што натыкнуцца.

Падыдзеш, бывала, са статкам да лесу; тут дрэвы ціха шумяць, салаўі ў кустах заліваюцца пошчакам, дзятлы стукаюць, як кавалі, па ствалах дрэў, а ў паветры носіцца пах сасны, — рай зямны ды толькі! І ніколі я не забуду гэтага шчаслівага часу! Хутка для мяне адкрылася яшчэ адна прыемнасць.



Сяджу я неяк з Акімам на пагорку пад бярозкай і напяваю сабе песенку:

Ой не шумі, дубровачка,
Не шумі, зялёная;
Не плач, не плач, удовачка,
Не плач, маладая!

Акім выслухаў і кажа: «Слаўна ты, Яша, спяваеш. А вось, калі б хто табе падыгрываў на дудачцы, яшчэ лепш выйшла б, жалю больш было б. Некалі я нядрэнна іграў, трэба было б зараз паспрабаваць, успомніць старое». Тут Акім пайшоў да кустоў, зрэзаў бузінку, зрабіў дудачку і зайграў. І як зайграў! Дудачка, як жывая, пішчала, смяялася, стагнала, плакала. Я заплакаў ад задавальнення, абняў Акіма і кажу: «Дзядзечка, навучы мяне так іграць, век за цябе буду Бога маліць». Пад восень я іграў не горш за Акіма. Пасля гэтага я ўжо ніколі не разлучаўся са сваёй дудачкай, і вясковая моладзь не раз на гулянках пад яе гукі, якія я па-майстэрску здабываў, рэзала вясёлы танец.

Пражыў я ў Акіма без гора і клопатаў гадоў шэсць ці сем. Затым да мяне ціха, як злодзей ноччу, падкралася гора, захварэў я на гарачку. Цэлы месяц гарэў і мучыўся, як грэшная душа ў пекле; думаў, што смяротны час настаў. Але, відаць, такія, як я, і Богу не трэба, ачухаўся неяк. Пасля папраўкі першым маім жаданнем было наведаць дзядзьку. У горы чалавек заўсёды ўспомніць тых людзей, што зрабілі яму дабро. Мой намер адобрыў і Акім. Мы рушылі.

Застаў я дзядзьку паміраючым. Нейкая замыславатая хвароба, якой не маглі зразумець самыя лепшыя знахаркі, канчаткова разбіла яго сілы. Ён ляжаў на лаве, накрыўшыся, і ціха стагнаў. Голас яго апаў, дыханне слабела. «А, вось і блудны сын з’явіўся, — сказаў дзядзечка, убачыўшы мяне, — рады, рады бачыць цябе, уцякач. Каб здаровым быў, зарэзаў бы сытае

цяля і павесяліўся б з табою, але гора маё — смерць прыйшла, паміраць трэба. Але што ты, Яша, так схуднеў, асунуўся? Кроў, пэўна, ужо перабрадзіла; ну што ж, жыццё зараз пойдзе раўней». Затым дзядзечка распытаў, дзе я быў, што рабіў. Я расказаў усё, не тоячыся. Выслухаўшы мяне, ён сказаў: «Прывольнае, Яша, было тваё жыццё, бяда толькі, што карысці ў ім, у гэтым тваім жыцці, не бачу. Адно хіба добра, што навучыўся іграць, жаль толькі, што на дудачцы, а не на скрыпцы. Музыка, Яша, для цябе тое ж, што для мяне зараз стогн. Як стогн аблягчае мой боль, так і музыка ў цяжкія хвіліны можа аблегчыць тваё гора, яно выльецца з грудзей тваіх разам з гукамі. А зараз, — сказаў дзядзька слабым голасам, — выслухай, Яша, што я табе скажу і пастарайся словы мае назаўсёды захаваць у сэрцы. Яша, памятай, што жыццё дадзена не для асалоды, а для працы. У працы штодзённай здабудзеш хлеб, — запавядаў Бог яшчэ Адаму, і кожны чалавек, як самы сільны, так і самы слабы, павінен працаваць. Павер, Яша, што няма таго калекі, які пры жаданні не знайшоў бы сабе працы. Кульгавыя, сляпыя, бязрукія — усе могуць працаваць, калі захочуць. Працуй і ты, Яша, працай ты здабудзеш сабе хлеб надзённы і заслужыш літасць у Бога, так як Ён абяцае працаўнікам і абцяжараным сваё суцяшэнне. Яшчэ раю табе, Яша: не наракай на лёс, не траць надзеі, спадзявайся на дапамогу Божую і ў цяжкія хвіліны маліся. Малітва — гэта першае тваё суцяшэнне. Ёсць у цябе зараз яшчэ адно суцяшэнне — гэта дудачка, весялі сябе ў час адпачынку, але не злоўжывай ёю, Яша, не рабіся скамарохам».

Пасля гэтага дзядзечка апусціў галаву, цяжка ўздыхнуў і замоўк. Калі я схіліўся да яго, каб пацалаваць, то губы яго былі ўжо халодныя, як льдзінкі.

Пахаваўшы дзядзьку, мы з Акімам вярнуліся дадому. Праз год ці два памёр і Акім, і вось з таго часу



ўжо больш за трыццаць гадоў я жыву ў гэтай хаціне і займаюся сваім рамяством — гну дугі і забяспечваю імі ўсё Белавежжа».

Дзядуля замоўк. А потым доўга шчыра маліўся. На двары па-ранейшаму раздаваліся дзікія акорды навальніцы: з лесу даносіўся скрып, трэск, стогн дрэў. У хаціне стаяла непраглядная, як чорнае сукно, цемра. Цяжка мне стала, калі я падумаў, што гэты адзінокі, пакрыўджаны лёсам стары ўсё сваё жыццё праводзіць сярод падобнай непрагляднай і неабдымнай, як сусвет, цемры; і мне захацелася суцешыць, сказаць штосьці пяшчотнае, прыемнае гэтаму небараку, але калі я схіліў галаву да старога, ён ужо моцна хроп.

На другі дзень, раніцай, калі я адыходзіў, старэнькі выйшаў на ганак праводзіць мяне. Раніца была без дажджу. Лес, акутаны злёгку туманам, стаяў ціха, маўклiва. Па небе плавалі калматыя воблачкі — рэшткі хмары, разарванай і раскіданай начной навальніцай. На ўсходзе пунсавела вузенькая палоска неба. Калі я пацiснуў на развітанне старэнькаму руку, ён звярнуўся да мяне з пытаннем: «А скажы, сокал мой, як ты думаеш, у вечным жыцці сляпенькія будуць бачыць?» Я не ведаў, што адказаць на гэтае пытанне старэнькаму, але, успомніўшы яго вячэрнюю малітву і не жадаючы загубіць у ім апошнюю надзею, сказаў словамі Пісання: «Тады памерлыя ўстануць нятленныя і ўсе зменяцца і праведніцы прасвяцяцца, як сонца, у Царстве Айца іх...» — «Вось гэта хораша сказана, — узрадаваўся стары, — усе зменяцца і прасвяцяцца, як сонца. Значыць, і ў сляпенькіх, калі яны ўдастояцца Царства Божага, цяперашнія цёмныя вочы прасвяцяцца, і яны ўбачаць святло — радасць. Божа, якая гэта будзе раскоша!» — радасна ўсклікнуў стары і са ззяючым тварам паплёўся ў свой закануранак.

А пунсовая палоска на ўсходзе ўсё ярчэй і ярчэй разгаралася, рассяваючы ранішні халодны туман і

гуляючы залатымі іскаркамі ў кроплях, рассыпаных дробным жэмчугам па галінках дрэў.

## Пан Трудоўскі

Каля шырокага, абсаджанага бярэзінаю гасцінца, што йдзе з Ваўкавыска да Гродны, на ўзгорку раскінуўся невялічкі маёнтачак. У самай сярэдзіне яго відзён маленькі, пад старою прадзіраўленаю страхою, панскі дамок з драўляным скрыўленым ганачкам, а трошкі адступіўшы ўніз, пад высокімі прыгожымі таполямі стаяць, ці, праўдзівей, ляжаць, другія будынкі: гумно, абора і стайня. Страха з іх ужо даўно спаўзла і раскідана ветрам па полі, сцены пакрывіліся і ўраслі ў зямлю, кроквы згнілі і зваліліся. За домікам, вышэй на ўзгорку, відзён прысохшы і абломлены ветрам і людзьмі садок.

Некалі гэты маёнтачак быў абгароджаны парканам, але як уздаражалі дровы, дык суседзі вясковыя разабралі патрошку паркан на топліва і цяпер на тым месцы, дзе калісь была агароджа, стаяць адны пачарнеўшыя гнілыя слупкі, каторыя служаць нямымі сведкамі таго, як нішчыцца і марнее гэты маленькі маёнтачак.

Дзе ж уласціцель гэтае адзінокае, убогае гаспадаркі? Ён тутака жыве ў пакоях свайго старога доміка, — гэта пан Трудоўскі, стары вясковы вучыцель.

Зусім ён ужо знядужаў, сагнуўся ў дугу і ледзьве-ледзьве цягне ногі. Выйдзе стары вучыцель на ганак, сядзе на ўслончыку і, доўга-доўга ўздыхаючы, дзівіцца на свае палеткі ды сенажаці і хочацца яму, старому, пайсці туды паглядзець, як жыта каласуе, ці вяліка парасла на лузе трава, але не можа, бо няма ні каплі сіл. Яшчэ нядаўна пан Трудоўскі ўставаў штодня і абходзіў сваю ўласнасць, паказваючы парабкам, як трэба лепей гараць, касіць, сеяць, а цяпер з ганка не можа



спаўзці — зусім перасталі яго слухаць ногі. Божа мой! Як старасць знушчаецца над людзьмі...

Жыве пан Трудоўскі не адзін, а са сваёю паняю Зосяю. Старой і яна ўжо зрабілася — зморшчылася, згорбілася і зусім знядужала.

Цяжка і нудна жыць старым у адзіноцтве без блізкіх людзей, каторым можна было б адкрыць сваю збалелую душу, але што зрабіць, пакуль трымаецца душа ў целе, трэ да апошняга часу нясці на сабе цяжар свайго лёсу.

Сядзяць абое старыя ў сваім цёмным маленькім пакоі на скрыпучых з прадзёртымі падушкамі крэслах, сядзяць кожан дзень зранку да вечара і маўчаць. Дый аб чым ім гаварыць? Тое, што было, прайшло навекі і як у ваду канула, цяперашняе нуднае і не дае ніякай тэмы для размовы, а тое, што будзе, — цёмнае, як хмара і апрыч магілы ды крыжа там нічога больш няма, аб ім не тое што гаварыць, але нават і ўспамінаць не варта. Моўчучы, старыя і мову забылі, толькі ўздыхаюць ды стогнуць... Іншы раз, як толькі палепшае здароўе, стары вучыцель, выпіўшы чарку-другую слівянкі, любіць услых думаць пра сваё пройдзенае жыццё. Збоку, слухаючы яго, здаецца, што ён з кім-небудзь гаворыць, але не: гэта ў яго такі нораў услых думаць.

От сядае сабе пан Трудоўскі з жонкаю асеннім вечарам ля стала, на каторым стаіць бутэлька, дый гаворыць сам сабе:

— Божа мой, як хутка праляцело маё жыццё!.. Ці ж даўно я быў яшчэ бязвусым панічом? Ах, маладасць — вясна жыцця, куды ты так хутка ўцякла? Ці е на свеце якія чары, каторымі можна было б цябе, маладасць, вярнуць назад? Ці е такія коні, каторымі можна было б цябе дагнаць? Не, адзін раз у року дрэва цвіце, — адзін раз на жыццю і маладасць бывае... Такое назначэнне даў Бог усяму свайму стварэнню... Паня, налі мне чарачку, трэ выпіць за маладасць!

Выпіўшы чарку слівянкі і трошкі пасядзеўшы, пан Трудоўскі зноў думае ўслых:

— У нашым жыцці бываюць такія здарэнні, каторых ніколі не можна забыцца, з цемры пройдзенага яны зіхацяць, як зоры з неба ў восеньскую ноч, і асвячаюць нам пуціну пройдзенага жыцця. Аглянешся назад і пры іх святле бачыш усё пражытае, як на далоні...

Даўно вучыўся ў Жыровіцкай бурсе, а ўсё помню, як цяпер... От ідзе ўрок арыхмецікі... вучыцель сярдзіты, прыдзіраецца, мы збіваемся ў лічбе. Бяда, вызвалі ўсіх на сярэдзіну класа, палажылі на ўслон дый давай цвінчыць розгамі. Плач, лямант... Але во, у цёмным калідоры заенчыў звонік, — пачалася перадышка. Мы, трошкі аправіўшыся, гуртам высыпалі на пляц і давай граць у снежкі. Усё адразу забыта: не чуваць ні енку, ні плачу, усе скачуць, смяюцца, спяваюць... Не было помсты і проці вучыцеля, бо тады ўсе верылі, што бярозавае вецце пры адукацыі не менш патрэбна, чым гусінае пяро.

Скончыў бурсу, перайшоў у Віленскую семінарыю... Вялікае места, шумлівыя вуліцы, новае таварыства, — усё гэта спачатку вельмі мяне цешыла, цікавіла. Началося вучэнне; як і ў бурсе, яно было сухое, прыкрае. Вучыцелі не мелі да сваіх пестуноў ні спогадзі, ні жалю. Праўда, секлі менш, чым у бурсе, але затое мацней.

Хутка ішоў час, год без спынку бег за годам, змяняючы адзін другога. Я вучыўся не кепска і от, дзякуй Богу, дабраўся ўжо да чацвёртаго класа. Помню, раз на Вялікадню скупілося нас таварышоў чалавек мо дзесяць, дый пайшлі мы на спацыр за Гостру Браму. Як добро змерклася, чорт нас торкнуў зайсці да Гітлі ў тракцір. Залезшы ў бакоўку, дзе нікога не было, мы стрэбавалі папярос, гарэлкі, мёду. От, пабалагурыўшы трошкі аб том ды аб сём, мы выпілі, закусілі, а потым зацягнулі вясёлую песню:



Чарка ўсё на свеце робіць,
З ёю добра жыці.
Ад нуды і ад хваробы
Можа пасабіці...
Што за золата яна
Ў полі і ў дарозе,
Як ту чарку п’еш да дна
Зімой на марозе.
І хто жыў, і хто умёр,
Чарка спамінае,
Хто жаніўся, хто хрысціўся —
Таго не мінае...

Якраз у гэты час раптам адчыніліся дзверы і да нас у бакоўку — шась ацец інспектар. Худы, высокі, як ражон, з гостранькаю рыжаю барадою. Песня ўзраз абарвалася. Інспектар паглядзеў на нас з-пад цёмных акуляраў дый кажа: «Віншую вас, рыцары, з першаю маёўкаю...» Мы скамянелі ад страху, і ў якой позе хто сядзеў, у такой і застылі: ніхто і пальцам не пашавяліў. Ацец інспектар дастаў са свае глыбокае кішэні маленькі леестрык і, занатаваўшы туды ўсіх нас, пайшоў сабе дадому.

Бяда! Неба над намі зацягнулася хмарамі, напаўзла грозная бура, трэ было чакаць грымотаў.

От на другі дзень нас паклікалі ў актавую залу і абвясцілі, што ўсіх нас дзесяцярых педагагічная рада пастанавіла за курэнне і лайдацтва сключыць з семінарыі. Гэты прыгавор гострым болем аддаўся ў нашых сэрцах. За што, — пыталіся мы, — зламана наша жыццё? За якую віну загублена гэтулькі працы і маладых гадоў?.. Хрыстос прашчаў разбойнікаў, блудніц, а яны, настаўнікі нашы, не даравалі нам, іх пестунам, нявіннай дуронасці. Ай, людзі, людзі, як у вас яшчэ многа звярыных нараваў!.. Толькі цяпер мы сваім сэрцам пазналі, што і ўзапраўды homo homini lupus est (чалавек чалавеку — воўк). Прасіць, каб перайначыла

педагагічная рада свой прыгавор над намі, — не прасілі, бо добра ведалі, што барджэй камень загаворыць, чым нашы настаўнікі літасць з'явяць да сваіх пястуноў.

После гэтае цяжкое прыгоды мы пазбіралі свае манаткі, злажылі ў мяшкі і, ўзваліўшы іх на плечы, пацягнулі з Вільні дадому. Адышоўшы, можа, вярсту ці дзве ад места, мы селі на кургане ля самае дарогі і, ускінуўшы апошні позірк на Вільню, моцна, колькі маглі грудзі, заспявалі:

Бадай тая Вільня
Пяском закурыла,
Як яна нас маладзенькіх
Дый з дарогі збіла.

Потым на развітанне распілі бутэльку гарэлкі, пацалаваліся адзін з другім дый разышліся па ўсіх канцах свае Мацеры-Беларусі...

Паня, налі яшчэ чарку... бо вельмі цяжка на душы.

От прыйшоў я дадому ў сваю Слонімшчыну... Маці як даведалася, якая нада мной страслася цяжкая бяда, горка старая заплакала дый кажа: «Што зрабіць? Усім кіруе Бог, проціў яго святое волі не папрэш... Цяпер табе, сынку, трэ падумаць аб сваёй будучыні. Бацька твой усё жыццё аддаў царкве, служыў дзякам, а ты спрабуй шчасце ў вучыцельстве, — паслужы дзеля народу».

Паслухаў старой, падаў просьбу ў гродзенскую дырэкцыю і зараз атрымаў паперу, што назначаюся пачатковым вучыцелем у мястэчка Зарніцу.

З радасці, зараз, па духоўнаму звычаю, ажаніўся і разам з жонкаю стаў працаваць на ніве народнай. На адной палавіне школкі я вучыў хлопчыкаў, а на другой жонка — дзяўчатак. У часе змены хлопчыкі і дзяўчаткі сходзіліся на гульні ды забавы, каторыя вяліся пад нашым кірункам. Божа! Якія гэта былі шчаслівыя хвіліны нашага жыцця...



Стары вучыцель схіліў голаў і замоўк... У старое пані закалыхаліся грудзі і з задуменных вачэй закапалі слёзы дробныя, як восеньскі дожджык. Старым жаль было пройдзенага жыцця...

— Стаў вучыць дзяцей, — думаў услых далей вучыцель, — царкоўнаму спеву. Праца мая спорылася, бо многа было хлопчыкаў здольных з высокімі чыстымі галасамі. Як заспявалі дзеткі ў цэркві на святой імшы, Божа мой! Колькі радасці было ў парафіян! Старыя і маладыя падыходзілі да мяне і дзякавалі цалуючы рукі. О, гэта народная падзяка, якім вялікім шчасцем яна напаўняе наша сэрца! Як яна высіць і шырыць наша смутнае, прыніжанае жыццё!.. Маючы тады дванаццаць рублёў жалавання, я лічыў сябе панам над панамі, багатыром над багатырамі.

Як толькі пачулі, што ў Зарніцкай цэркві пад кірункам пачатковага вучыцеля добра спяваюць, зараз па ўсім павеце пачалі мяне з хорам прызываць на спатканне архірэя, губернатара і другіх важных асоб. Адусюль хвала мне ідзе, адусюль падзяка. Вучняў маіх сталі з ахвотай прымаць у настаўніцкую семінарыю, у павятовае вучылішча і ў іншыя школкі. І шмат з іх выйшла вучыцеляў, пісараў, чыноўнікаў... Дзе вы цяпер, мае мілыя дзеткі? Дзе Сымон Лабейка, Лявон Лапацюк, Рыгор Кароцька, Антось Жыліч?.. Разышліся па ўсіх кутках белага свету!.. Ах, як я хацеў бы на апошніх днях свайго жыцця пабачыць вас, дзеткі, пагаварыць з вамі па душы!.. Але не: рассыпаўшы пацеркі на дарозе, не збярэш іх зноў...

Налівай, паня, яшчэ чарку, бо вельмі смутак душу агарнуў...

Выпіўшы чарку слівянкі, пан Трудоўскі далей казаў сам сабе:

— Усё йшло як належыць быць. Адна бяда: вельмі ўз'елася на мяне духавенства. Пачало без усякае дай рацыі шпігаць мяне з усіх бакоў, хоць не жыві на белым

свеце. Раз у зарніцкага бацюшкі быў з’езд духоўных асоб. Пазвалі мяне на з’езд дый кажуць: «Што ты гэта, пан Трудоўскі, робіш, нашто ты мужыцкіх дзяцей выводзіш у панства: калі мужыкі стануць вучыцелямі ды пісарамі, то што тады будуць рабіць нашы дзеці, быдла пасвіць ці што?..» — «Што зрабіць, — адказаў я, — розны ў людзей бывае лёс: адны йдуць на гору, а другія спушчаюцца з гары, хто быў апошнім, можа, Бог дасць, стане першым». — «От як, — кажуць бацюшкі, — не, пачакай, гэтак не будзе: мы даб’емся, што цябе прыпыняць». «Што Бог дасць, — кажу, — тое і будзе. Сам са свае дарогі не сыду: як верна служыў народу, так і буду служыць...».

Гэтак працуючы, пражыў я мо гадоў з трыццаць. Падарваў сілы, састарэўся, аслабеў, — адным словам, з’ездзіўся конь. Начальства, пабачыўшы гэта, раптам адвярнула нос...

От раз сяджу я сабе на ганачку і бачу: пад’язджае пад вучылішча нейкі панок. Прыглядаюся лепш. Ага! Пазнаю: гэта рэвізор, пан Пількоўскі... Вылез ён з брычкі, падышоў, прывітаўся дый кажа: «Я да вас па дзелу». Увайшлі ў кватэру маю, выпілі па шклянцы гарбаты і разгаварыліся. Рэвізор кажа: «Я вам, пан Трудоўскі, прывёз вельмі кепскую абвестку: дырэкцыя вам дае адстаўку». Я задрыжаў, як заяц у сабачых лапах. «А пенсія, — пытаюся, — будзе?». — «Не, — гаворыць рэвізор, — пачатковым вучыцелям не паложана пенсія ...»*. — «За якую ж віну вы мяне гоніце?» — пытаюся далей. «Трэ, — кажа, — апарожніць месты дзеля маладых вучыцеляў: гэн у гэтым годзе скончыла Свіслацкую семінарыю сорак маладых хлапцоў, дзе ж іх дзяваць?.. От вам і прадпісанне дырэкцыі», — дакончыў пан Пількоўскі, тычучы мне ў рукі паперу. Прачытаўшы гэтае прадпісанне, я аж самлеў і выпусціў паперу з

* Тады яшчэ пачатковым настаўнікам не давалі пенсіі.



рук, так яно было жорстка ды прыкра напісана. А пан Пількоўскі выйшаў паціху з мае кватэры, сеў у брычку і паехаў сабе далей...

Паня, яшчэ чарку, бо моцна пячэ ў грудзёх!

«От і падзяка за сяўбу на ніве народнай, — думаў далей услых стары вучыцель, — праўда кажуць: служы пану верна, то пан нос адверне. Добра, што ад бацькі дасталася такая сяліба, а то прыйшлося б сяўцу народнаму на старасці жабраваць ды сланяцца па чужых кутках...»

Пакінуў вучылішча і пераехаў сюды на бацькаўшчыну дажываць век... Цяжка жыць... Няма дастаткаў, няма здароўя, шчэзлі радасці і надзеі... Усё прайшло, шчэзла, як сон, як ясныя прамяні сонца...

Шчэзла безпаваротна, назаўсёды, на векі вечныя...

І, схіліўшы сваю сівую галаў на грудзі, горка заплакаў стары вучыцель, плача і жонка, на яго гледзячы. Плачуць абое старыя, як дзеці, плачуць аб пройдзеным жыцці, што яно ўжо не вернецца ніколі-ніколі.

*1914*

## Панас Крэнт

### *З беларускага жыцця*

Барада і галава ў Панаса сівыя, як мох на старой хвоі, твар панірпаўся, вочы выцвілі і запалі глыбока пад лоб, рукі ды ногі высахлі ў шчэпку і трасуцца як ляк. Абнядужаў Панас і зусім раскіс, а яшчэ нядаўна ён быў такім сілачом, што адным пальцам перакідаў брыку, даверху наложаную збожжам. Божа вялікі, як людзі хутка мяняюцца! Сягоння чалавек — дуб, а заўтра — сухая націна.

Цяпер Панас нікуды ўжо не выходзіць, ляжыць сабе ў запеку, скорчыўшыся, ды горка-горка плача. Нічога

не есць, мала з кім гаворыць і заўсёды боязна глядзіць мутнымі вачыма ўсё ў адно месца, на покуць, быдта чакае, што адтуль ось пакажацца надта страшнае...

Зусім Панас аслабеў і звіхнуўся з вума. Людзі кажуць, што Бог пакараў яго за тое, што ён вельмі крыўдзіў сваіх селякоў ды знушчаўся над роднымі дзецьмі. От падымем хоць трошкі заслону над яго жыццём ды паглядзіме, ці праўду людзі кажуць.

* * *

Панас Крэнт быў гаспадар сабе руплівы ды вельмі дбалы, ён дзень і ноч працаваў над сваёй гаспадаркаю: першым уставаў і апошнім ляжыўся спаць. Не скрыўдзіў Бог яго і шчасцем: праца яго добра спорылася, гаспадарка шырылася, паўнела. Завёў Панас пародзістых жарабцоў, быкоў, пераправіў на шляхоцкі шталт будоўлю, паставіў некалькі свіронкаў дзеля збожжа, — адным словам, стаў у сяле першым багатыром.

Трошкі-патрошкі завяліся ў Панаса ў машне і грошы. Пачаў ён купляць у акалічных збяднеўшых панкоў лес, зямлю, а потым купіў і цэлы маёнтак з вадзяным надта карысным млыном. І колькі Панас ні заграбаў у свае рукі зямлі, усё яму здавалася, што мала.

— Нашто табе гэтулькі многа зямлі? — пыталіся ў Панаса людзі, як ён збіраўся купляць маёнтак. — Ці ж мала табе той, што е?

— Дайце мне ўвесь свет, дый тады я не здаволюся, — адказваў ён.

Стаўшы багатым ды ўласным гаспадаром, Панас зусім забыў Бога і пачаў крыўдзіць сваіх сваякоў: зойдзе, напрыклад, чыя-небудзь карова ў яго сенажаць, або выламіць хто ў яго лесе дубец паганяць адстаўшую жывёлу, зараз, як паймае, здзярэ штраф з бедака, які захоча, а калі хто пачне спрачацца, дык на таго нападзе з парабкамі і прыб'е да паўсмерці.



Людзі плачуць, стогнуць, праклінаюць багатырадушагуба, а знайсці на яго справы не могуць, бо ён добра знаецца з усімі ўласцямі і ўсіх падкупае грашыма, каб трымалі яго руку. Усе ў ваколіцы баяцца Крэнта, як чорта. Дый не дзіва: ад чорта можна аджагнацца, а ад крывапіўцы гэтаго, як прычэпіцца, не адкараскаешся нічым.

Хоць Панас і паганы быў чалавек, але праз яго багацтва ўсюды яго паважалі, а свае селякі, хоць у сэрцы і праклінаді багатыра, а дзеля віду ўсё-такі шапталі перад ім.

У сваёй парафіяльнай царкве Панас заўсёды станавіўся наперадзе каля самага амбона, часта жагнаўся шырокім крыжам, біў моцна кулаком у грудзі і ставіў перад абразамі тоўстыя свечкі. Падчас імшы бацюшка ў рызах падходзіў да багатыра, жагнаў яго сваёю белаю, пухлаю рукою і дарыў яму прасфару. У валасной канцылярыі на сходках Панас садзіўся на крэсле каля стала плячо ў плячо з пісарам ды старшынёю. Станавы, суддзя ды нават міравы пасрэднік былі ў яго сваімі людзьмі. Усюды Панасу першае месца, усе яго слухаюць, усе яму патакваюць і ніхто не пасмее сказаць яму наперакор кепскага слова. Зазнаўся, загардзеў Панас, і падступіцца да яго страшна. Сваіх селякоў і ў грош не ставіць, крычыць на іх, лаецца, як той маскаль, самымі брыдкімі словамі. Божэ мой, як багацтва брыдзіць людзей!..

Не лепш Панас абыходзіцца і з сваёй сям'ёю. Жонка, сыны, дзве нявесткі — дрыжаць перад ім. Няхай хто асмеліцца сказаць яму наперакор слова, зараз за нагайку і пачне ўсёй моцы аплятаць бедака па спіне, што аж скура лопае. У нявестак ад гэтага заўсёды ўсё цела ў рубцах. У хаце багатыра ціха, як у магіле, ніхто не заспявае, ніхто не прамовіць лішняга слоўца, нават унукі, што яшчэ поўзаюць па падлозе, і тыя баяцца піскнуць, як дзед сядзіць у хаце.

Падчас абеду адно і чуваць, як за сталом грымае Панас на сваю чэлядзь:

— Парася! — крычыць ён на старшу нявестку, — нашто ты, шэльма, раскрышыла на стале хлеб, нябось гэта табе не цэгла якая, пазбяры зараз мне крошкі...

І Парася, агарнуўшы крошкі ў жменю, барджэй кідае іх у рот, бо добра ведае, што як гэтага не зробіць, то будзе па спіне гуляць нагайка.

— Ганулля! — крычыць стары на другую нявестку, — глядзі, гэн твой байструк разлівае па стале крупнік. Мо табе гэта памыі, ці што?.. А каб вас спрутак задавіў, як вы шануеце маё дабро!

І Ганулля моўчучы вырывае ў свайго хлопчыка місачку з крупнікам і нясе яе на прыпек, каб выліць рэшту ў гаршчок.

Усім Панас кіруе ў сям'і, усе яго слухаюць ды баяцца, як самага вялікага пана. Старшыя сыны ўжо даўно выраслі, пажаніліся, а жывуць разам з бацькам і проці яго волі і пары з рота не пусцяць. Адзін раз на Яна старшы сын Цімук паехаў з сваёю жонкаю, не спытаўшы ў бацькі, да Жырава на кірмаш, то як прыехаў дадому, стары, накінуўшыся, так збіў яго, што небарака цэлых паўгода кашляў кроўю.

Шчыра працуе Панасава сям'я. Гаспадарка яго ўсё больш ды больш шырыцца, паўнее скарбам, але адна бяда. Ніхто з яго чэлядзі не знае добрага жыцця, не мае ніякае весялосці ў сэрцы. Усе ходзяць як пад зямлёю, — смутныя ды прыдаўленыя, з заплаканымі вачыма.

Нагроб Панас столькі дабра ды ўсялякага скарбу, што аж не можа ўжо ўмесціць у сваіх высокіх, каштоўных харомах, але што з гэтага, калі ў яго хаце апрыч смутку, енку ды цяжкіх ўздыхаў нічога больш не пачуеш. Плача пана сама сям'я, плачуць у ваколіцы ўсе людзі, прыціснутыя ды моцна здаўленыя за горла заграбенчаю рукою багача-душагуба.



Ці ж доўга гэта будзе? Няўжо няма на свеце праўды? Не, настане вешні ясны дзень, сагрэты цёплымі прамянямі сонца, і на змену крыўдзе прыдзе святая праўда. Няхай каса косіць сабе траву ды рэжа бязвінныя кветачкі, але настане пара, што наскочыць яна на камень і сама разляціцца ў дрэбезгі...

* * *

Некалькі гадоў таму ажаніў Панас свайго апошняга сына Змітру, якога дражнілі зноскам, з дзяўчынаю са свайго сяла — Аленкаю. Аленка была беднага роду, але надта працавіта, здатна да ўсякае работы, цікава ды харошанька сабою, як лялька. Вясёлы прыхільны характар, чырвоныя, як вішанькі, шчочкі, русавыя косы ды сіняе, як вешняе неба, вочы ставілі Аленку паміж усіх дзяўчат на першае месца. З яе гарачага пагляду хлопцы дурэлі, і па першаму яе слову гатовы былі кінуцца ў агонь ды ў ваду. Была Аленка трошкі і адукавана, яна скончыла ў Езерніцы пачатковую школку і ўмела добра чытаць ды пісаць. У яе кубле, разам з сарочкамі і андаракамі, ляжалі і кніжкі, каторыя яна купляла калі-некалі ў павятовых кнігарнях і чытала, як мела час. Апроч таго Аленка была надта здатна да скокаў ды спеваў, голас у яе быў лепшы, чым у салаўя. Бывала, будучы яшчэ дзяўчынаю, як заспявае ўлетку на полі, дык жанцэ кінуць сярпа і слухаюць стоячы, як ўкопаныя...

Зрабіўшыся нявесткаю багатыра і апынуўшыся ў чужой сям'і, Аленка не змяніла свайго характару і сваіх звычаяў: заўсёды, як сонейка, вясёлая, да ўсіх прыхільная, яна калі заспявае, як мае час — паскача, а іншы раз, угледзеўшы што-небудзь смешнае, так зарагоча, што аж вокны ў харомах багатыровых задрыжаць. Праўда, за спевы ды выкрунтасы добра даставалася Аленцы ад свякрухі, але гэта не спыняла

яе, бо моладасць хутка забывае ўкоры. Свёкра свайго яна хоць і паважала, але не баялася, і не саромелася казаці старому, як трэба было, чысту праўду, хаця гэтая праўда і калола яму вочы. Няхай адно стары пры ёй пачне каго крыўдзіць, яна не сцерпіць ды раз і грымне:

— Ой, тату, памятай, што ёсць на небе праўдзівы Бог, здзірства тваё не давядзе цябе да дабра, адрыгнуцца табе чужыя слёзы...

— А табе якое да гэтаго дзела, шчанё задрыпанае, — крычыць стары на нявестку. — З жабрацкага роду ўпёрлася ў мой шляхетны дом ды яшчэ мне вочы, бэстыя, пячэш... Мо раўня табе я, паганка ты?..

— Усе, тату, людзі на зямлі роўныя, — адказвала Алена свёкру на гэту лаянку.

У сям'і Алену сяк-так цярпелі, але ніхто шчыра не любіў, бо яна не іх поля кветка. Толькі адзін Панасаў парабак Лявон, дзяцюк гадоў васямнаццаці, надта ўпадабаў яе за спевы ды скокі, бо і сам быў да гэтага вельмі ахвочы. Ён заўсёды заступаўся за Аленку, як багатырова сям'я яе чым крыўдзіла, і гатоў быў за маладзіцу ісці хоць на нажа.

Свёкар ды нявесткі часта крыўдзілі Аленку ды пяклі ёй вочы жабрацкім родам, і хоць яна гэту знявагу хутка забывала, але з часам у сэрца яе пачало закрадвацца чуццё цяжкай крыўды ды гневу. Трошкі па трошкі над сям'ёй Панаса пачалі ўсплываць цёмныя хмаркі, каторыя чым далей, тым болей шырыліся ды паўнелі, збіраючыся ў чорную хвілю*. Трэба было хутка чакаць грымот. Раз выпала ось якое здарэнне.

Было вялікае свята Багач ці Крыж, добра не памятаю. Аленка пад вечар паклікала да сябе ў госці сваіх равеснікаў, хлопцаў ды дзяўчат. Моладзь, выпіўшы па шклянцы гарбаты, пачала весяліцца як умела. Зараз

* Вельмі цёмная хмара з бураю ды навальніцаю.



ад гучнага гоману задрыжала ўся хата: хлопцы ў лад раптам заспявалі вясёлую песню:

> Ой пад гаем, гаем, гаем зеляненькім,
> Там гарала дзеўчыненька волікам чарненькім,
> Гарала, гарала, не ўмела гукаці,
> Ды наняла казачэнька на скрыпачцы граці...

Адзін хлапец вельмі добра стаў падыгрываць на скрыпцы, а другі пачаў пад тахт біць у бубен. Музыка дробнымі ладамі залівалася, як шалёная, віхрамі ўзлятаючы ўверх, і заахвочвала моладзь да скокаў. Аленка не вытрымала і, узяўшыся ў бокі, пусцілася аддзіраці казачка, за ёю, растапырыўшы рукі, прысядаючы ды прытопваючы, пусціўся віхрам па хаце парабак Лявон... Якраз у гэты вясёлы час адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў Панас. Акінуўшы ўсіх воўчым поглядам, ён зароў, як мядзведзь:

— Што вы, шчаняты, сабраліся тут зневажаць мой дом... Вон адгэтуль, шэльмы!..

Ніхто з хлопцаў і вусам не крануў на гэты крык, а Лявон яшчэ мацней, яшчэ драбней забарабаніў абцасамі па падлозе. Аленка прысядаючы і верцячыся ўюном, падплыла да свёкра і, топнуўшы нагою, моцна крыкнула:

— Тату, не мяшайся не ў сваё дзела! Я зазвала іх да сябе...

— Ах ты, дрэнь, спрачацца яшчэ будзеш? — крычаў сярдзіта Панас, — ось я табе пакажу! — І стаў з кручка знімаць нагайку. Музыка, як і раней, рэзала, адбіваючы дробныя каленцы.

Аленка схапіла з печы тоўсты кляновы апалонік і, падскакаўшы, прытупваючы ў такт да свёкра, стала проці яго замахнулася апалонікам ды кажа:

— Ось зачапі адно, тату, дык, даль Бог, гэтым апалонікам раскрою табе чарэп надвое...

І, сказаўшы гэта, змерыла яго сваім доўгім вострым паглядам. Панас не ждаў гэткага адважнага і стойкага адбою. Ён збялеў, як палатно, і, павесіўшы на кручок нагайку, моўчкі выйшаў з хаты. Услед яму хлопцы моцна зарагаталі, а Лявон, выкінуўшы крутое калена, так моцна грымнуў абцасамі, што аж падлога задрыжала.

З гэтае пары Панас зусім узненавідзеў сваю маладую нявестку і пачаў меркаваць, каб як можна барджэй аддзяліць свайго зноска з жонкаю на хутарскую сялібу. Доўга ждаці не прыйшлося. Праз некалькі дзён прыехалі ад землебудаўнічае камісіі каморнікі разбіваць зямлю на адрубы. Панас зрабіў гэтак, што першы і самы паскуднейшы атруб на голым балоце адрэзалі яго сыну Змітру.

Не адкладваючы надоўга, Панас зараз на адрэзанай сялібе збудаваў хатку, гуменца ды хлявец, і на Міхайла, па першым снезе, Зміцер са сваёй жонкаю ўжо пераехаў на новую гаспадарку. Як толькі рушылі коні, што везлі вазе са скарбам за вароты, Панас удагонку моцна крыкнуў:

— А што, нявестачка, цяпер паскачаш ты на Голым Балоце...

— Нічога, татулька, — адказала нявестка, — дасць Бог пражывем, як кольвек і ў беднасці, абы нікога не скрыўдзілі.

Праз дзён два ці тры, па ад’ездзе Змітра на новую сялібу, Панас, без дай рацi, прагнаў і парабка Лявона, ды яшчэ так моцна збіў яго, што небарака ледзьве-ледзьве дацягнуўся да бацькоўскай хаты, што стаяла ў самым канцы сяла, каля выгана.

Стаў Зміцер з маладою жонкаю самотна правіць сваёю гаспадаркаю. Завёў сякую-такую жывёлу, дастаў стрэльбу і пачаў хадзіць на паляванне, настаўляў па полю сілля ды лавіў усякіх птахаў, сяды-тады з падраду вазіў да Слоніма жыдоўскае збожжа — жылося яму нішто сабе, а жонка вельмі нудзілася. Выйдзе, бывала,



Аленка на ганачак, гляне смутнымі вачамі на Голае Балота, праз каторае працякала маленькая, з чыстымі злучынамі рэчка, ды голасна так заспявае:

Чаго, рэчка, смутна стала?
Чаго, дзеўча, моцна плачэш,
Ці маці набіла?
Мяне маці біць не біла,
Самі слёзы льюцца...

Спявае маладзіца ды горка плача, а чаго — і сама не знае... Так некі смутак апанаваў ды жаль вызывае.

Адзін раз Алена, прачнуўшыся рана, разбудзіла Змітра ды кажа яму:

— Ой, Змітручок, які я сёння паганы сон бачыла, не дай Бог, аж яшчэ і цяпер уся дрыжу.

— Які? Ну, кажы...

— Здавалася, што пайшла надта вялікая навальніца. Мутная вада патокамі хлынула з гары і знесла на балота ўсю нашу будоўлю. Мы з табою, каб утрымацца, пачапіліся на нейкі слуп, але зараз нехта, схапіўшы нас за ногі, стаў цягнуць у ваду. Хто гэта, думаю, хоча ўтапіць нас? Гляджу — стаіць ззаду бацька Панас. Тут я вельмі моцна спалохалася ды прачнулася...

— Паганы твой, жонка, сон, — сказаў Змітра, але не трэба баяцца, бо ўсякі сон, як мара, хутка гіне.

— Гэта праўда, але ўсё-такі мяне вельмі палохае нейкае нядобрае пачуццё.

На другі ці трэці дзень пасля гэтага Зміцер пайшоў з дому ў сяло да каваля гастрыць сякеру. Дома была адна Алена. Вечарам, як добра змяркалася, Алена, зірнуўшы ў акно, убачыла над сялом надта вялікае зарыва. Полымя біла да самага неба якраз у тым месцы, дзе стаяла будоўля свёкра. Іскры слупамі сыпалі ўверх і залатымі матылямі разляталіся ў начной цемры. Уся ваколіца зіхацела. Алена адразу сцікавала, што гарыць

сяло і, барджэй, накінуўшы кажух на плечы, пабегла на пажар.

Адбегчы гонаў чатыры ці, можа, і больш, яна ўбачыла на ўзгорку свайго Змітрука, ён стаяў і дзівіўся, як бушаваў на будоўлі агонь.

— Ой, Божа ж мой, што гэта робіцца, — залямантавала Алена, падбягаючы да Змітра.

— Бацька гарыць, — прамовіў ён без усякага жалю.

— Бяжым, Змітручок, ратаваці!..

— Куды! Не смей! Яшчэ бяду якую на сябе наклічам. Пойдзем... — сказаў ён уладна і, узяўшы жонку за руку, павёў яе дахаты.

У Панаса згарэла гумно, два свіронкі і хлеў. Апроч гэтага згарэла некалькі суседскіх хат ды гумен. У поўнач агонь залілі і пажар скончыўся. На другі дзень пайшлі па сяле языкі, што Панаса падпаліў яго сын Змітра ў падзяку за выселкі на адрубы. Знайшліся нават людзі, якія сведчылі, нібыта яны бачылі, як у сумеркі Змітра ішоў каля бацькаўскага гумна і засоўваў руку ў страху, бытта клаў што туды. З таго боку, дзе ён стаяў, зараз і ўспыхнула... Ой, языкі доўгія, брахлівыя, колькі зла вы добрым людзям робіце! Зараз аб Змітравым «падзякаванні» забубнелі па ўсёй ваколіцы. Далі знаць паліцыі. Як бачыш прыехалі станавы,ураднік і следчы. Пазвалі Змітрука на дазнанне.

— Дзе быў, — пытаюцца, — у дзень пажару?

— У сяле, гастрыў сякеру ў каваля.

— Калі вярнуўся дадому?

— Як добра змяркалася йшоў, бо каля яго ляжала сцежка.

— Ну, і падпаліў, прызнайся...

— Скарэй мяне, Божа, на душы, на целе, калі я хоць падумаў аб гэтым...

— Чаму ж людзі дасведчаюць?

— Гэта аблыжнікі, падкупленыя бацькам, няпраўду гавораць.



— Ну, гэтым не адапрэшся...

— Што зрабіць, уся надзея на пана Бога.

Не паверылі Змітруку, абвінавацілі на дазванні і падалі ў суд. Суд прысудзіў яго на два рокі ў астрог.

Зараз пасля памінальніцы адвезлі Змітра ў Слонім ды пасадзілі ў астрог, а Алена засталася на гаспадарцы адным-адна, як былiначка ў полі. Цяжка і смутна было яе жыццё. Бедавала адзінокая кабета, білася як птушка з падбітым крылом, плакала і за зіму так высахла-выпетрыла, што і глядзець не было на што: ад красы ды маладосці і звання не засталося. Ужо і спяваці не магла, голас зусім спаў. Гляне праз акно, бывала, на поле і хоча заспяваці, але нічога не выходзіць, толькі засохшыя вусны шэпчуць:

Ой, валэ мае дай палявыя
Чаму вы не арэце,
Ой, леты ж мае маладыя,
Чаму ж марна йдзеце...

Прыйшла вясна. Пасінела неба, пабольшаў, даў Бог, дзянёк. Заквецілася балота стракатымі кветачкамі, замуравілася поле траўкаю, голасна заспявалі жаваранкі, прыляцеўшы з далёкага выраю, — адным словам, усё Божа стварэнне весялілася, здавольнена сваім жыццём, а ў Аленкі на сэрцы ляжаў цяжкі камень. Гняце, небарачку, неадступна гора, заядае нуда, слабнуць сілы, а працаваць трэба многа дый цяжка.

От раз прывёз хлопчык з млына некалькі мяшкоў мукі. Мяшкі былі вялікія і надта вялікія, трэба было зняць іх з воза і ўнесці ў свіронак. Хлопчык знядужаў гэтага зрабіці, прыйшлося ўзяцца за работу самой Аленцы, а тагды яна якраз была ў цяжку. Звалакла маладзіца сяк-так адзін, другі ды трэці мяшок, узялася за чацвёрты, самы цяжкі, і над гэтым апошнім прыйшлося ёй так моцна натужыцца, што аж нешта ў жываце лопнула. Пад вечар у Алены занудзіла пад лыжачкай,

закалола ў баку, кінула перш у холад, потым у жар, і кабета зразу злегла ў пасцель. У поўначы ў яе радзіўся нежывы хлопчык, а на ранку, як стала світаць, і сама маладзіца аддала Богу сваю чыстую душу...

Багатыр свёкар са сваёй сям'ёй нават не прыйшоў на пахаванне. Абражалі і хавалі чужыя. Сышліся з сяла хлопцы і дзяўчаты, узялі на плечы труну з целам Аленкі і гуртам аднеслі на могліцы, дзе, пазваўшы бацюшку, і пахавалі яе, горка плачучы. Падняўшыся над яе долам гарбочак чорнае зямліцы быў раптам асыпаны вешнімі кветачкамі.

* * *

А багатыр сабе, як кажуць, і ў вус не дуў. Абдзіраючы людзей ды ссучы з іх апошнюю кроў, ён стараўся ўсё больш ды больш шырыць сваю гаспадарку, множыць свае скарбы. Цяпер ён меркаваў купіць паравы млын з валюшам і з гэтаю мэтаю збіраўся ехаць пад мястэчка Косава на торг да аднаго пана.

От сядзіць сабе Панас вечарам у сваёй хаце ды лічыць паціху грошы. Ужо добра змяркалася, і з яго сям'і ў гэты раз нікога не было дома, — усе пайшлі ў адрыну спаць. Перш дастаў Панас з капшука золата і, налічыўшы дзвесце рублёў, схаваў іх у жалезны куфар. Потым выцягнуў дзве новыя кацярынкі і, пацешыўшыся трохі, паклаў іх туды. Далей стаў лічыць старыя паперы, налічыў сто рублёў ды кажа сам сабе: «З гэных тры пяцьдзясят аддаць станавому ды дваццаць ураднiку за тое, што яны скасавалі жальбу Лявона. Гіцаль гэты скардзіўся на мяне, што я яго збіў да паўсмерці і ён цяпер не можа зарабляць сабе на хлеб. Але станавы з ураднікам добра ведалі, куды накіраваць гэту жалабу. За гэта трэба іх тлуста падшмараваці, каб не скрыпелі. О, грошы маюць пякельну моц! Маючы іх шмат, можна на людзях ездзіць верхам... А Лявона як злаўлю, то, даль Бога, жывога з рук не выпушчу. Заб'ю, гіцля і заплачу...»



Сказаўшы гэта, Панас стаў далей лічыць грошы. У гэту хвілю нехта з вуліцы забарабаніў у акно. Панас задрыжаў і збялеў ад страху, бо думаў, што прыйшлі разбойнікі якія. Схаваўшы куфар з грашыма ў патайнік, ён падышоў да акна і спытаўся:

— Хто там?

— Гэта мы, — пачуўся за вакном голас, — стараста ды выбарныя. Ці можна зайсці?

— А чаму ж, заходзьце.

У хату ўвашлі чатыры чалавекі: стараста ды трое выбарных, усе маладыя сумленныя дзецюкі. Прывітаўшыся як мае быць, яны з пазвалення Панаса прыселі ў рад супраць яго на ўслоне ды кажуць яму:

— Мы, дзядзюхна, прыйшлі да цябе па аднаму важнаму дзелу.

— А чаго ж вам без дзела да мяне хадзіці, ці мо я вам раўня? Прыйшлі — значыць, маеце некі інтэрас.

— Ці помніш, дзядзюхна, парабка Лявона, што ў цябе нядаўна служыў? — пачаў стараста.

— А то як жа гэтага злодзея не помніць, добра помню.

— Ён, можэ, гадзіну таму назад памёр...

— А вы прыйшлі на пахаванне прасіць? — перабіў старасту Панас.

— Не, дзядзюхна, другая мэта нашага прыходу.

— Якая, кажэця.

— Перад смерцю, можа за паўгадзіны, — казаў стараста далей, — ён паклікаў мяне з выбарнымі да сябе ды кажа...

— Што, што кажа? — дапытваўся багатыр сярдзіта, пабляднеўшы, як палатно.

— Ён казаў, — выкладаў стараста, — што спаліў дзядзьку Панаса не сын, а я... Я, кажа, спаліў яго, а Змітрука аблыгалі ліхія людзі, ён павінен у гэтым дзеле.

— Лжэ, злодзей! — закрычаў не сваім голасам Панас.
— А што гэта праўда, — казаў далей нам Лявон, — дык дзеля падкрэпы свайго слова цалую крыж.
— І пацалаваў, каторы ляжаў на яго грудзях крыжык, — дапоўніў адзін з выбарных.
— Апрыч таго, казаў, канаючы ўжо, што ад дзядзькавых рук ён і на той свет ідзе... — даказаў мову другі выбарны.
— Што ж вы, дрэні паганыя, прыйшлі палохаць мяне, ці што? — крычаў, як шалёны, Панас, — мо я каго баюся, пікніце адно, гіцлі, дык я вас усіх запакую ў астрог на векі вечныя!..
— Не, дзядзьку, мы не палохаем, а кажам табе праўду, як было, — адказаў стараста Панасу і, каб кальнуць яго, далей прыбавіў: — Чым мы можэмо дзядзьку спалохаці? Дзякуй Богу, ты над сваімі селякамі не знушчаўся і дзетак сваіх не пакрыўдзіў...
— А што нявестка замучылася ды сын сядзіць у астрозе, дык тутака тваёй віны няма, дзядзюхна, — дасказаў старшы з выбарных. І пры гэтых словах усе чацвёра селякоў так моцна зарагаталі, што аж хата задрыжэла. Панас збялеў, як крэйда, і пачаў трасціся ўсім целам, быццам яго опаць біла. Селякі выйшлі з хаты і ў сенях зноў моцна зарагаталі. У вачах Панаса стала туманіцца, галава круцілася, што ў сенях, на дварэ, у сяле і паўсяму свету людзі смяюцца з яго ды, торкаючы пальцамі ў вочы, пытаюцца:
— Ці ж праўда, Панас, што ты перад дзеткамі сваімі ні ў чым не вінен?..
Панас тросся ды вярцеўся, як вуж, прыціснуты асінавым калом да зямлі. Потым дзікім голасам закрычаў, як вар'ят:
— Ой, людзі, гэта злы дух з мяне насміхаецца! Згінь, мара, прападзі!..
І, абярнуўшыся на покуць, дзе стаяў абраз Божае Маці з дзіцяткам Ісусам, хацеў пахрысціцца, але ў гэту хвілю выступіла з туману нябожчыца нявестка ў белай сарочцы і ў белых цюньках з нежывым хлопчыкам на руках, выступіла ды стала перад ім з укорам, як жывая...



— Ой, людзі, ратуйце! — ускрыкнуў, задыхаючыся, Панас і, як падбіты навальніцаю сноп, зваліўся на падлогу...
На другі дзень рана знайшлі Панаса чуць жывым і пачалі адліваць халоднай вадою. Ачухаўшыся трошкі, ён устаў, паглядзеў мутнымі вачыма на сваю сям'ю ды, плачучы, кажа:
— Дзеткі і ўсе людзі скрыўджаны, а я надта выцягнуўся ды многа месца займаю на свеце...
І, сказаўшы гэта, пачаў корчыцца...
З таго часу Панас ляжыць на запеку, падагнуўшы пад сябе ногі, ды, корчачыся ў клубок, жаліцца, што дзеткі яго і селякі пакрыўджаны, а сам ён вельмі многа месца займае. Больш нічога не кажа, толькі дрыжыць, як асінавы ліст ў непагоду, ды баязліва паглядае на покуць.
Мусіць, такі праўду людзі кажуць, што Бог пакараў Панаса Крэнта за тое, што ён вельмі здзекаваўся з людзей.

*1913*

## Абмылка

Гэта было даўно...
Доля, каторая іншы раз так жа без спогадзі і жалю трэпле чалавека, як віхор сарваны з дрэва лісток, закінула мяне ў адну вёску, стаяўшую пад Белавежскай пушчаю, паміж старых, хмурных хвояў. З аднаго боку гэтае вёскі цягнулася поле, з рассыпанымі па ім кустамі заўсёды зялёнага, калючага ядлоўцу, а з другога — сцяною стаяў густы, цёмны бор.

Пакаленне схадзіла за пакаленнем, вёска некалькі разоў выгарала, некалькі разоў мяняла свой убогі, жабрацкі выгляд, а хмурны, маўклівы бор, задумаўшыся, ўсё стаяў без перамены, як зачараваны волат. Толькі ў восеньскую непагоду, пад націскам гуляўшага ветру, яго жорсткае, калючае вецце прачыналася ад сну і пачынала маркотна шаптацца паміж сабою...

Аб чым думаў хмурны бор, аб чым шапталася яго вечна зялёнае вецце, — застаецца глыбокаю таямніцаю...

Жыхары вёскі — маўклівыя, як бор, і прастадушныя, як дзеці, — будні нылі над работаю, а ў свята толькі елі ды спалі, іншых спраў, апроч здавальнення цялеснай патрэбы, у гэтых дзяцей прыроды не было. Дый хто мог разбудзіць іх ад вечнага спання і ўлажыць у іх душу вышэйшыя духоўныя інтарэсы, калі, апроч бору, яны праз усё сваё жыццё нічога больш не бачылі? Павятовы горад быў так далёка, што аб іх можна было толькі гадаць, як аб Абрамавым лоне. Нават мястэчка, дзе была царква і школка, прыходзілася ў пяцідзесяці вёрстах і дабрацца туды, асабліва ў разводзіцу, трудней было, чым да Паўночнага полюса.

Жыць у гэткай глухарні чалавеку, у каторага могуць быць, апроч яды і сну, іншыя, вышэйшыя патрэбы, так жа цяжка, як вольнаму чалавеку, каторы трапіў у адзінокую цямніцу. Самыя лепшыя мыслі і самыя кволыя пачуцці ў гэткім жыцці застаюцца без водгаласу, губляюцца і ўміраюць, як адгалоскі ў пустыні. Асабліва нуда заядае ў свята, як проці ночы дакучліва пачнуць лезці ў галаву ўспаміны пройдзенага жыцця сярод вясёлых сяброў і прыяцеляў сваіх, пры гэткіх успамінах нуда пераходзіць у цяжкую гнятучую муку. Тады чалавек рад бывае ўсякай нявіннай забаве.

От чаму я вельмі ўзрадаваўся, як на Тры Кролі зранку ад свайго сябра Тамаша Баравіка атрымаў цыдулку з запрашэннем прыехаць да яго на вечарынку.



Пан Баравік быў багаты шляхціч, ён жыў у лесе за 20 вёрстаў ад той вёскі, дзе я каратаў сваё жыццё. Яму было ўжо гадоў за 50, але ён лічыў сабе не больш 30 і вельмі зліўся, як хто-небудзь хоць ненарокам намякаў яму аб старасці. Ён кожны дзень чыста галіўся і надта добра даваў гандляваць венграм, у якіх часта купляў слоікі з памадкамі дзеля свайго туалета. Ад гэтых памадак яго бледны твар рабіўся чырвоным, а сівыя валасы на барадзе і галаве здаваліся цёмна-русымі. Наогул, пан Тамаш вельмі любіў маладзіцца. Дый не дзіва, у яго была надта маладая, лагодная і пекная жонка, от яму і трэ было зраўняцца з ёю, хоць з помаччу купленых памадак. Пан Баравік быў успыхчывы, як порах, але ўспыхнуўшы зараз адтухаў і станавіўся мяккім, як выцертая ганучка. Ён быў добры, прыхільны да ўсіх, і за гэта ўсе ў аколіцы яго любілі і часта з'язджаліся да яго ў госці.

Прачытаўшы цыдулку з просьбаю прыехаць у госці, я пазваў свайго суседа, крывога і сляпога на адно вока Цімука, і загадаў яму пайсці на вёску і наняць падводу, а сам стаў выбірацца да ад'езду.

Праз гадзіну можа з чым вярнуўся Цімук і, сумна паглядаючы на мяне сваім відушчым вялікім вокам, стаў пяцярнёю чухаць патыліцу. Гэта адзначала няўдачу.

— Ну, што? — ускрыкнуў я, дагадваючыся, што адказ будзе кепскі.

— Не выходзіць, як той казаў, дзела, — сіпеў Цімук, перабіраючы пальцамі сваю пляскатую, як блінец, шапку, — абышоў усю вёску, але ніхто не хоча... Врэмя, бач, паганае... Усе, як той казаў, пужаюцца...

— Я зусім не разумею, што ты кажаш, — крыкнуў я, — чаму ўсе пужаюцца?

— А хіба вы, паночку, не чулі, як той казаў, пра Бандарчука?

Тут Цімук збялеў і скорчыўшыся прытуліўся да сцяны, так што здалося, быццам яго нехта хоча пырнуць нажом у бок.

Як толькі Цімук напомніў мне пра Бандарчука, я адразу адгадаў, чаго ўсе «пужаюцца». Бандарчук быў разбойнік, душагуб. Ён некалі быў сасланы ў Сібір, але адтуль уцёк і, прыйшоўшы на бацькаўшчыну ў Белавеж, сабраў каля сябе шайку разбойнікаў і стаў з імі нападаць на людзей, асабліва на багатых паноў, грабіў, хто пападаўся ў яго рукі, і забіваў. Сярод людзей у вёсках пра гэтага разбойніка хадзілі самыя страшэнныя чуткі. Гаварылі, напрыклад, што пад першую Каляду Бандарчук прыкінуўся зблудзіўшым дзяком і папрасіўся ў аднаго свяшчэнніка на начлег. Добры бацюшка прыняў яго вельмі ласкава, накарміў і напаіў па горла, але разбойнік адплаціў яму за гэта па-свойму. Як адно пападдзя з дзецьмі пайшла спаць, «госць» выняў з халявы нож і, прыставіўшы да горла свяшчэнніка, шэпчучы, сказаў: «А падай сюды грошы...» Бацюшка, спалохаўшыся, адчыніў яму куфар і паказаў грошы. Бандарчук забраў іх і ўцёк.

Расказвалі таксама, што пад Новы год гэты бадзяга зайшоў да аднаго лесніка і звалок у пушчу яго маладую жонку, а праз два ці тры дні прывёз яе труп і кінуў таму ж лесніку ў акно.

Праўда, у гэтых расказах многа было выдумак вясковых бабак, здольных усяку бытавіну пер態тварыць у казку. Але ў іх многа было і праўды, людзей скрыўджаных, аграбленых і пабітых на смерць Бандарчуком было ў Белавежы не мала. Сваімі разбоямі ён навёў такі вялікі страх на ўсе вёскі, што жыхары нават удзень баяліся выязджаць за аколіцы. То й дзіва няма, што Цімук, будучы верным маім услужнікам, ніяк не мог знайсці ахвотніка ехаць са мною да пана Баравіка. Але я цвёрда пастанавіў: вечар на Тры Кролі правесці ў вясёлай кампаніі.



— Ты быў у карчмара Іцкі? — спытаўся я ў Цімука, каторы ўсё яшчэ стаяў, сагнуўшыся, каля сцяны і дрыжаў ад страху, — у яго, нябось, ёсць коні і ён не адкажацца паехаць са мною...

Цімук скрывіў свае тоўстыя мясістыя вусны і з’едліва ўсміхнуўся.

— Што гэта вы, як той казаў... — адказаў ён, прыплюшчыўшы сваё відучае вока, — калі нашы, як той казаў, пужаюцца, дык дзе ж тут жыдку паехаць... Ён цяпер, як той казаў, на двор з дома не выходзіць, нанач усе вокны забівае дошкамі...

— А ўсё-такі ты схадзі і пагавары з ім, — сказаў я ўладна Цімуку.

Цімук паціснуў плячыма і, страсянуўшы сваёю кудлатаю галавой, нехаця пайшоў да Іцкі.

Мяне надта цягнула да Баравіка. Мысль, што вечарам не пападу ў госці і вымушаны буду застацца адзін дома, як кляшчамі шчыміла маё сэрца і пякельна мучыла мяне. Мне вельмі хацелася праветрыцца, павесяліцца і хоць трошкі разагнаць сваю нуду. Апрыч таго мяне цягнула туды і другая прыманка...

Баравік унізе сваёй цыдулкі прыпісаў, што ў яго на вечарынцы неадменна будзе ружачка паненка Антося. Антося была дзяўчына асаблівай красы, вельмі прыхільная, сімпатычная, надта добра адукаваная, з мяккім, добрым сэрцам і паэтычнай душой. Яна артыстычна іграла на фартэпіяна і на скрыпцы, яе музыка прыводзіла ў салодкі настрой самых сухіх, жорсткіх людзей. Будучы вясёлай, пекнай і лагоднай, яна ўсюды мела многа прыяцеляў і залётнікаў, усе яе бажалі, любілі, а мужчыны старыя і маладыя ад палючых яе вачэй сходзілі з вума. Але на ўсе іх залёты і бажанні яна не звяртала ніякае ўвагі і нікому не ўдзяляла асаблівага чуцця. Як сонейка аднолькава ліе свае залатыя прамяні на пышныя ружы і на калючыя асоты, так і гэта добрая дзяўчынка з адным і тым жа поглядам звярталася, як

да дзецюкоў першае пекнаты, так і да брыдкіх старых мужчын. Быць з ёю, глядзець на яе пекнату, праменную постаць і слухаць яе незямную музыку было такім шчасцем, каторага словамі і выявіць цяжка. Сімпатыя да гэтай рэдкае паненкі, а можа быць і другое, болей сур’ёзнае пачуванне і было тым магнэсам, што ўладна цягнуў мяне да Баравіка на вечарынку.

З вялікім нецярпеннем і трывогаю я чакаў Цімука, але ён недзе запрапасціўся і яго доўга не было. Прайшло яшчэ некалькі цягасных хвілін, і от, чую, у сенях нехта дробна затупаў нагамі, зараз заскрыпелі і адчыніліся дзверы і ў хату ўкаціўся разам з марозам у парваным футры і ў цёплай рыжай шапцы сам Іцка. Высокі і сухі, як ражон, жыдок з рэдзенькаю бародкаю і з маленькімі, заўсёды слязяшчымі, мокрымі вачыма.

— Ай-вай-вай! Ну і верэмяцко пан выбраў ехаць у госці... Уф, якое верэмяцко!.. — затараторыў Іцка, размахваючы сваімі не ў меру доўгімі рукамі. — Цяпер ехаць да пана Баравіка ўсё роўна, што ісці на вайну... На дарозе мо дзе якраз сядзіць Бандарчук...

— Але хопіць табе малоць, — крыкнуў я, — кажы адразу: паедзеш ці не?

— Ай-вай! Як можна, як можна! — зноў затрашчаў Іцка.

— Кажы, колькі возьмеш? — перабіў я.

Іцка заміргаў слязлівымі вачыма і, выцягнуўшы ўперад галаву, як кот, убачыўшы кавалак сала, сказаў:

— Ну, з пана я дорага не вазьму, дасце 20 карбаванцаў — і з Іцка будзе досыць...

Я аблаяў жыдка скуралупам, але ў душы быў вельмі рады, што ён не адмовіўся, хоць узяў разбойніцку цану.

— Ідзі ж барджэй і запрагай! — крыкнуў я.

Жыдок пакланіўся і выйшаў.

Пад вечар на пары худых, заезджаных конях, запрэжаных у старыя, крывыя сані, пад’ехаў к ганачку хаткі, дзе я жыў, Іцка, закутаны з ног да галавы



ў лахмоцце, так што ён больш паходзіў на патарочу, каторую з гануч вясной ставяць на агародах, чым на жывога чалавека. Я выйшаў на двор. Сонца было ўжо на захадзе. Над борам з крыкам лётала плойма варон.

Я сеў у сані. Да мяне ціха падышоў Цімук і, працягнуўшы сваю мазалістую пяцярню ўдоўж дарогі, шэптам сказаў:

— Паглядзі, паночку, як той казаў, як пачынае круціць...

І, сапраўды, з лесу па дарозе ляцеў на нас, круцячы снежным стаўбом, віхор.

— Гэта, як той казаў, паночку, кепская прыкмета, — казаў далей Цімук, — добра, калі б паехалі са сваім чалавекам, а то з нехрысцем... Хоць бы, як той казаў, не здарылася, няхай Бог сцеражэ, якое бяды...

— Пустое, Цімук, — адказаў я і загадаў Іцку ехаць. Ён падабраў лейцы, улез на перадок саней і ўзмахнуў пугаю, коні рвануліся і пабеглі рыссю па роўным, наезджаным гасцінцы. Цімук доўга стаяў на дарозе, і косячы голаў, праваджаў нас сваім вялікім відушчым вокам...

Дарога ішла лесам. Па баках скрозь стаяў сцяною густы, высокі бор. Пачало вечарэць. Цені паміж дрэў усё больш ды больш згушчаліся, і зараз наступіла ноч. У лесе было ціха, толькі чутно было, як порскалі коні ды недзе далёка ў цемры жаласна крычала начная птушка. Іцка, сагнуўшыся ў тры пагібелі, дрыжэў са страху, як асінавы ліст у непагоду. Ён, едучы, не сказаў ніводнага слова, сядзеў быццам нямы, нават і коней не паганяў сваім «ны-ыы!», а, каб прымусіць іх барджэй бегчы, проста пароў іх пужальнём у балючыя месцы.

Далей памалу стаў радзець лес, дарога пашырэла, хвоі раптам разбегліся, паказаліся не небе зоркі, і мы адразу выехалі на шырокую паляну, на якой на ўзгорку купаю стаялі будынкі, — гэта і быў маёнтак пана Баравіка.

Увесь двор быў застаўлены санямі, а ў стайнях сапелі і порскалі, жвучы сена, коні. Каля ганку стаялі грамадкамі і дудукалі паміж сабою фурманы. Неба было чыстае і зорыстае. Мароз крапчэў...

У пана Баравіка быў вялікі з'езд. Да яго на вечарынку з'ехаліся ўсе навакольныя паны са сваімі жонкамі і дзецьмі. Асабліва было многа панічоў, прыехаўшых паглядзець на паненку Антосю і паслухаць яе музыку. Самае панны Маліноўскай яшчэ не было.

Госці грамадкамі сядзелі за расстаўленымі ў пакоі сталамі і вялі размовы пра свае інтарэсы. Таўсты, як бочка, з шырокаю лысінай пан Корняк расказваў, як ён перад Калядамі на паляванні каля пушчы застрэліў мядзведзя. Крывенькі з маленькаю галавой і доўстымі вушамі пан Скіба піскучым голасам распавядаў, як ваўкі, забраўшыся ў пілапаўку да яго аўчарні, перадушылі ўсіх авечак. Паня Зарэцкая расказвала шэпчучы на вуха пані Здановіч нейкі інтымны сакрэт. Але больш усяго гаварылі аб Багданчуку.

На сцяне засіпеў гадзіннік і прабіў восем. Пара б і вечарынку пачынаць, але гаспадарства не спяшалася, бо чакалі Маліноўскую.

— Дзе панна Антося? Чаму так доўга яе няма? — пыталіся адзін у другога панічы.

Тут нехта ўвайшоў з надворку ў пакой і сказаў, што коні пані Маліноўскай ужо пад ганкам. Усе раптам павесялелі. Мужчыны скупіліся каля дзвярэй, каб з пашанай сустрэць прыехаўшую госцю. Нехта з кавалераў трымаў букет жывых кветак, падрыхтаваны для панны Антосі.

У гэты час на двары пад акном, што выходзіла ў сад, раптам раздаўся моцны стук. Усе абярнуліся... У адпацеўшае шкло глядзеў брыдкі, з прыплюшчаным носам і доўгімі вусамі, жоўты твар. Дзеці са страху кінуліся пад стол, кабеты са страху прытуліліся да мужчын...



— Бандарчук!.. — шапярнуў нехта дрыжачым голасам.

Баравік засоўгаўся, хапіў дубальтоўку і, прыцэліўшыся ў акно, у каторае глядзеў брыдкі твар, выстраліў... Забразгацела разбітае шкло, пачуўся і зараз абарваўся стогн, і нешта цяжка звалілася на снег. Мужчыны раптам выбеглі на двор. І, Божа моцны, на снезе, як зрэзаная кветка, ляжала панна Антося... Каля яе валялася маска.

Яна цяжка дыхала і моцна ўздрыгвала плячмі. Па яе мілым тварыку цякла кроў. Няшчасную ўнеслі ў пакой і паклалі на пасцель. Дыханне яе з кожным мігам слабела... Потым панна Антося чуць падняла галаву, кінула апошні ласкавы позірк на знаёмых і ціха закрыла вочы навекі. Усе апусціліся на калені і, б'ючы сабе ў грудзі, сталі шаптаць малітвы. Пан Баравік дрыжачымі рукамі спыніў гадзіннік...

*1915*

## Кульгавы дзядзька Раман

*Беларускія тыпы*

Ці знала вы майго кульгавага дзядзьку Рамана? Не, вы яго не зналі. З пісьменных яго ніхто не знаў, але простыя, цёмныя людзі ўсе добра яго ведалі.

Ён жыў у канцы сяла Збочнага ў маленькай, запаўшай у зямлю па самыя вокны хатцы. Жыў не адзін, а са сваімі двума стрыечнымі братамі, з іх жонкамі і дзецьмі. Аб тым, каб жаніцца самому і абзавесціся сваім гняздом, Раман ніколі і не думаў. Дый якая б дурная кабета за яго пайшла, калі ён зусім не меў ног і не хадзіў па зямлі, як другія людзі, а поўзаў, за што і празвалі яго паўзуном. Ногі ў Рамана адняліся яшчэ ў дзяцінстве ад нейкай ліхой хваробы.

Адняўшы ногі, Бог узнагародзіў яго тым, што даў яму надта цікавы розум і здатныя да ўсяго рукі. На што, бывала, кульгавы ні гляне сваім вокам, — усё сам зробіць. Ды не магло знайсціся ў гаспадарцы такога дзела, каторага б ён не абдумаў, як трэба, і не справіў.

Жанкам Раман гастрыў нажы, шыў чаравікі, вязаў бёрды, мужчынам галіў бароды, кляпаў косы, правіў хамуты, падпраўляў старыя боты і рабіў шмат чаго іншага.

Апроч здольнасці да ўсяго майстэрства, Раман яшчэ і пісьменны быў, ён добра ўмеў чытаць друк па-польску і па-руску, разбіраў скорапіс і мог нават распісацца за няграматнага.

Усякі будзённы дзень Раман уставаў да свету і з пацерамі браўся за работу: рэзаў на кавалачкі калінавыя кіі, шчапаў іх на дранічкі, стругаў трысцё і вязаў бёрды, або са старых халяў шыў каму-небудзь башмакі, ці падшываў лапці. Вячарамі, дакончыўшы сваю работу, Раман дапамагаў жонкам братнім у іх рабоце: чысціў бульбу, крышыў капусту, малоў семянё або забаўляў плакаўшых дзяцей, каторых надта любіў і шкадаваў.

Не даваў сабе Раман спачынку і ў свята. Устаўшы з пасцелі раненька, ён па заведзенаму звычаю перш галіўся, потым умываўся і пачынаў маліцца. Маліўся доўга, набожна і з жалем вымаўляючы кожнае слова, а дакончыўшы маліцца, моцна біў сабе ў грудзі кулаком, кажучы: «Божа Вялікі! Адпусці мне цяжкія грахі, як вольныя, так і не вольныя... Ці словам, ці дзелам, ці памышленнем саграшыў проціў Цябе, Божа з высокасці, — злітуйся нада мною грэшным і адпусці мае цяжкія віны...».

Слухаючы збоку гэты набожны лямант, здавалася, што Раман на сваёй душы мае нейкі цяжкі грэх, што ён, можа, забіў каго або дапусціў сябе да якой-небудзь вялікай распусты. Але ўсім ведама было, што Раман ні ў чым не прашкапіўся і не тое, што чалавека, — мухі і



тае ніколі не скрыўдзіў, з сваёй убогай хаты нікуды не выпаўзаў і апроч сухога хлеба з бульбай ніякіх трункоў і ў вочы не бачыў.

Дарма, што Раман нікому не зрабіў ніякай крыўды, але ён лічыў сябе вялікім грэшнікам перад Богам, маліўся яму, як самы цяжкі злачынца, і стараўся, як можна больш рабіць людзям дабра, каб праз тое дагадзіць Богу.

У кожнае свята, па абедзе нізенькая і цёмная хатка Рамана напаўнялася простым, бедным людам, што з усіх вёсак прыходзіў да кульгавага дзядзькі на раду аб розных сваіх справах.

От прыйшоў, апіраючыся на тоўсты, сукаваты кій, дзед Якуб і, усеўшыся на лаве, жаліцца Раману, што над ім надта здзекуюцца стараста і старшыня, ды просіць напісаць на іх скаргу міравому пасрэдніку, каб ён разабраў гэту крыўду.

— Добра, — кажа кульгавы дзядзька, — напішам... Крыўду трэба звадзіць, каб і звання яе не засталося паміж людзей.

Клічуць суседскага хлопчыка, што ходзіць да школкі, і той пад Раманаву дыхтоўку піша пасрэдніку скаргу на старшыню і старасту.

Не паспеў дзед Якуб падзякаваць за просьбу і выйсці за парог, як скрыпнулі дзверы і ў хату ўваліліся таўстая кабета і, трошкі аддыхаўшыся, затараторыла:

— Раманка, мой ты саколік, палічы, колькі будзе таму рокаў, як умёр мой гаспадар. Справу гэту трэбуе ад мяне ненашта стараста, але я сама ніяк не магу злічыць.

Падумаўшы, Раман кажа жонцы:

— Пасля твайго гаспадара праз пяць гадоў і тры месяцы памёр Янка Сянькевіч, а пасля Янкі праз тры рокі і шэсць месяцаў адышоў на той свет Пятрусь Шчэрбацюк, а з таго часу, як умёр Пятрусь, прайшоў ужо адзін рок і тры месяцы, — значыць, ад смерці твайго

гаспадара прайшло дзесяць гадоў. Гэтак і скажы старасце.

— І гэта праўда, дзядзюхна, будзе?

— Праўда, — супакойвае Раман, — як аман у пацерах!

Тоўстая кабета, падзякаваўшы, ідзе сабе дадому. За ёю ў хату ўваходзіць маладая салдатка з пісьмом у руках і просіць дзядзьку, каб барджэй прачытаў яго. Дзядзька ледзьве-ледзьве разбірае пісьмо па складах. Жонка, схіліўшыся над ім, слухае і пацíху плача, бо яе мужык-салдат у пісьме жаліцца, што цяжка служыць у чужой старане, што здароўе надта благое...

Дачытаўшы пісьмо да канца, Раман, згарнуўшы яго, аддае салдатцы, тая хавае яго за пазуху, пасля, выцершы хустачкаю заплаканыя вочы, кажа:

— Я яшчэ да цябе, дзядзюхна, маю просьбу, будзь ласкаў, скажы, ці можна будзе ў аўторак на той нядзелі, што прыйдзе, сушыць сена, якая на гэты дзень выпадае пагода?

Кульгавы дзядзька дастае з паліцы старую, запэцканую ў сажу кніжку і, разгарнуўшы яе, доўга разглядае там нейкія слупкі, лічбы і надрукаваныя кружочкі, пасля абярнуўшыся да кабеты, кажа:

— У панядзелак на тым тыдні, што будзе, месяц мае рушыць з поўня. Якая будзе пагода ў панядзелак, гэткая будзе пагода і ў аўторак. Калі ў панядзелак не будзе дажджу — у аўторак смела ідзі растрэсаць капіны сена.

Кабета дзякуе і ідзе дадому.

Вечарамі кожнае свята мужчыны з усяго сяла збіраюцца да Рамана галіцца, стрыгчыся, а то і так пабалагурыць аб тым і сім.

Гэтак і праходзіла ўсё Раманава жыццё. Буднямі ён рабіў бёрды, шыў чаравікі, набіваў вёдры, кляпаў косы, а ў свята чытаў салдацкія пісьмы, дапамагаў суседзям у іх гаспадарскіх рахунках, абвяшчаў наперад пагоду, галіў і стрыг мужчын, — адным словам, кульгавы дзядзька дзеля бедных вясковых гаспадароў быў залаты чалавек.



Але, працуючы на людзей і дзень і ноч, як у будні, так і ў свята, Раман усё ж такі не меў добрага заработку, і ў хаце яго не тое што якой акрасы, часам не было нават і чорнага хлеба. І ўся яго сям’я часта галадала. Дзе ж тут што зарабіць, калі да яго йшлі адны бедакі, ці галышы, як іх называюць у Беларусі пад Слонімам. Зробіць, бывала, кульгавы дзядзька берда або сшые боты, і яму за гэта дасць паўзлотку, многа — злоты, а то і проста кавалак хлеба, а другі і гэтага не дасць, а, узяўшы пад паху работу, толькі скажа:

— Не гневайся, майстрэньку, па восені, можа Бог дасць, будуць лішнія медзякі, то ўжо тады і заплачу табе...

Аднак прыходзіла і адыходзіла восень, за ёю паўзла маразлівая зіма, а медзякоў лішніх ні ў кога не было, і Раману за работу ніхто не плаціў...

Часта да Рамана заязджалі жабракі з Палесся і падбухторвалі яго, каб ён з імі ехаў жабраваць.

— Як паедзеш з намі жабраваць, — гаварылі яны яму, — то азалоцішся. На Палессі будзеш у кірмашны дзень збіраць не менш як рублёў дзесяць або дваццаць, бо там надта людзі добрыя і жаласлівыя.

— Не, браткі, — адказаў ім Раман, — гэтага не будзе, каб я пайшоў жабраваць... Хоць адняў у мяне Бог ногі, але даў моцныя і да ўсяго здольныя рукі. Пакуль буду жыць, датуль буду працаваць і Бога хваліць.

І жабракі, не дабіўшыся нічога, з вялікім сорамам ад’язджалі дадому.

От ужо і састарэўся Раман. Зніклі сілы, работа з рук валіцца, стаў часта хварэць, а пасля і зусім занядужаў. Ляжыць кульгавы дзядзька ў лахмоцці на запеку і цяжка стогне. Твар пазеленеў, вочы патухлі і ўваліліся, сам ледзьве-ледзьве дыхае. Сабралася каля хворага

ўся сям'я, плачуць. Раман раскрыў вочы, глянуў на радню і кажа:

— Выбачайце, мае саколічкі, можа, каго абідзеў. Я ўжо паміраю. Бывайце здаровы. Там, пад зацекам, у кутку закапаны чатыры злоты. Я іх прыхаваў на пахаванне. Злоты аддасцё Адаму, каб зрабіў труну. Два злоты — бацюшцы за адпяванне, а злоты падзеліце паміж жабракамі, каб памянулі маю грэшную душу...

Сказаўшы гэта, Раман цяжка ўздыхнуў і навекі закрыў свае вочы.

*1913*

## Лес шуміць...

Шуміць цёмны, густы лес, шуміць і дзень, і ноч без перастанку, заўсёды на адзін лад. Хмурныя хвоі, задумаўшыся, памаленьку ківаюць сваімі калматымі галовамі і ціха-ціха аб нечым паміж сабою шэпчуцца, і здаецца, што яны адна другой пераказваюць нешта вялікае, таёмнае. І гэтым іх ціхім, таёмным шаптаннем напоўнены ўвесь лес і ўся яго бязмерная шыр. Калі-некалі па-над лесам праляціць віхар, лес задрыжыць, затрашчыць, загудзе, і тады здаецца, што ў ім свішча, раве і галосіць незлічоная сіла дзікіх звяроў ды птахаў. А як заціхне віхар, у лесе зноў пануе адзін хвойны шопат. І гэтак усякі дзень і ўсяку ноч ад самае праднечнасці.

Без звычкі жыць у лесе надта нудна. Але хто звыкся, той жыве сабе сяк-так, пакуль не надарыцца якое бяды або пан Бог не пашле смерці.

У лесе на палянцы, ацененая старымі калматымі хвоямі, стаіць убогая хатка, заваленая, як цукар, снегам да самае страхі. У гэтай хатцы дажывае свой век стары ляснік. Максім ледзьве-ледзьве ходзіць. Ён даўно пакінуў служыцці і перадаў лясніцтва свайму сыну



Петрусю, што са сваёй сям'ёй жыве цяпер у дваццаці мілях ад бацькі.

Сядзіць Максім сабе ў сваёй хатцы і, схіліўшы на грудзі сівую галаву, прыслухоўваецца, як шуміць лес. Божа вялікі, як ужо даўно ён слухае гэты ціхі таёмны шум! Лесавы шум быў першаю песняю над яго калыскаю. Гэты шум праводзіў яго да шлюбу, як ён ехаў туды са сваёй Таклюсяю. Гэты ж шум будзе да сканчэння веку гусці пад-над яго магілай, як ляжа ў сырую зямлю. І як ён любіць гэту жалобную лесавую музыку! З якім чуццём і ўпоем ён слухае яе цягучы напеў.

— Ах, Таклюся, як сягоння, бач, складана шуміць лес, — кажа Максім, абярнуўшыся да сваёй жонкі, якая, нагнуўшыся, мыла начоўкі каля печы. — Здаецца, цэлы век, бач, слухаў бы...

— Не, Максімка, сёння лес, моўлю, шуміць нядобра, — адазвалася Таклюся, павярнуўшыся да старога сваім зморшчаным, як печаны грыб, тварам. — Я, лежачы на прыпеку, гэтак, як і ты, прыслухоўвалася, і мне пачулася, моўлю, што ў цемры лесу нешта надта страшна гудзела. У мяне ад страху, моўлю, аж мурашкі па целе папаўзлі. Ох, нядобра, моўлю, сёння шуміць лес...

— Ведам, — адказаў Максім жонцы, — што ты, бач, баязліва як заяц, ды ў цябе і слух, бач, не лепшы, як у глушца якога. Ты птушынага піску, бач, не распазнаеш ад скрыпу дрэва. Можа, вецер зашумеў, бач, пад акном, а табе паказалася, бач, Бог ведае што.

— От мне Бог даў, бач, добры слух, — далей гаварыў Максім, — за мілю магу распазнаць, бач, на якім дрэве сук трэсне. Ці ведаеш ты, Таклюсю, што ўсякае дрэва мае, бач, свой асобны звяк, і па гэтых звяках я магу, бач, разлічаць Божыя дрэвы, як знаёмых людзей па голасе. Дальбо праўда. Скажу больш, па звязку і скрыпу дрэва я табе, бач, гадаю, колькі да яго будзе крокаў. От што...

— Ну, ну, растрашчаўся, моўлю, як сыры ядловец у печы, — перабіла жонка лесніка, — пара перастаці малоць дарма языком.

Максім замаўчаў і, схіліўшы на грудзі сівую галаву, зноў стаў слухаць лесавы шум. А лес без перастанку ўсё цягнуў сваю нудную песню.

— Што гэта доўга няма нашага Петруся? — загаварыла жонка леснікова, прарваўшы маўчанку. — Даваў слова, што сёння прыедзе.

Ляснік падняў галаву, працёр кулаком свае мутныя вочы і, паглядзеўшы ў акно, сказаў:

— Яшчэ рана, як добра змеркнецца, тады і прыедзе.

— Ах, каб, Бог даў, барджэй прыехаў, мне, моўлю, надта хочацца пабачыць унучку Альжбетку. Я цікаўлю, што ён з ёю прыедзе.

— А як жа, ведама, з ёю ды з жонкаю. А ты, бабуся, не траць, бач, дарма часу, зачынай пекчы блінцы, трэба будзе дзетак, бач, пачаставаць, чым Бог паслаў. Сягоння, бач, памінальніца, ці, як кажуць маскалі, масленіца, дык без блінцоў ды масла абысціся няможна.

— У мяне ўжо ўсё гатова, — адказала жонка, — ось, моўлю, затаплю адно печ і зараз буду пекчы. А ты, Максім, моўлю, запалі лучыну, бо ўжо цёмна.

Ляснік чыркнуў сернічак, запаліў доўгую, шырокую лучыну і ўставіў яе ў святляк. Таклюся затапіла печ ды, памяшаўшы цеста, пачала пячы блінцы. Пасядзеўшы трошкі, Максім расаслаў на лаве свой кудлаты кажух і лёг адпачываць. У хаце было ціха, як у магіле. Калінікалі патрэсквала гарэўшая лучына ды на прыпеку верашчала сала, якім Таклюся мазала гарачую патэльню.

Раптам недзе далёка-далёка штось нібы загуло. Максім уздрыгнуў, падняў галаву і стаў прыслухоўвацца...

— Чуеш? — загаварыў ён да жонкі.

— Што, едуць?..

— Дурману ты, бач, наелася ці што, слухай лепш...

Бабуся прыліпла вухам да сцяны і пачала слухаць.



— Хоць забі мяне, моўлю, нічога не чую...

— Выюць, бач, чуеш?..

Бабуся задрыжала, як падстрэленая птушка, і стала яшчэ лепш прыслухоўвацца. Выццё ўсё блізілася і станавілася галаснейшым.

— Чую, чую, Максімка! Гэта, моўлю, выюць ваўкі, — здагадалася бабуся.

— А каму і быць, бач, як не ім, паганым, — сказаў Максім, — у памінальніцу яны заўсёды мандруюць, бач, па лесе цэлымі табунамі.

— Божа літасцівы, укрый, моўлю, нашых дзетак ад бяды, — уздыхнула цяжка бабуся, паглядаючы ў печ, дзе пякліся блінцы. Раптам выццё зразу парвалася і заціхла. Ляснік, крэкчучы і стогнучы, расцягнуўся на лаве і захроп. Праз чатыры або пяць хвілін зноў пачалося страшэннае, дзікае выццё, і на гэты раз так блізка, што нават і Таклюся пачула яго без асаблівага высілку свайго мужа.

— Максімка, чуеш, моўлю? — крыкнула яна, спалохаўшыся, як не сваім голасам.

— Гэта яны ось тут недалёчка выюць, на палянцы, дзе расце, бач, паганая груша, — з трывогай гаварыў ляснік, устаючы з лавы. У гэту хвілю ў лесе загудзеў выстрал, адзін, потым другі...

— Ой, Езу Марыя, прапалі, моўлю, нашы дзеткі! — плакала бабуся, і слёзы, як боб, каціліся адна за другою па яе хмарным, маршчыністым твары.

— Здурэла ты, бач, Таклюся, ці што. Хіба наш Пятрусь, бач, не справіцца з ваўкамі? Першы раз ён спаткаўся з імі ці што? — суцяшаў Максім сваю палахлівую жонку, але і сам дрыжаў ад страху, як асінавы ліст у непагоду.

Якраз у гэту пару на дварэ зарыпеў снег і пачуўся конскі храп. Ляснік ледзьве паспеў накінуць на плечы кажух і без шапкі папоўз на двор. Каля самюсенькіх варот храпелі і дрыжэлі Петрусёвы коні з пустымі

перакінутымі ўверх дном саньмі. Старога як абухам стукнула па галаве...

— Жонка! — закрычаў ён дзікім, як не сваім галасам, — няма іх, няма, бач нашых дзетак... Бяжэм, Таклюся, на паляну да праклятае грушы, яны, бач, там.

І стары ляснік, шырока размахваючы рукамі, без шапкі пусціўся, колькі дазвалялі яго сілы, да праклятае грушы, дзе, як ён цікаваў, вылі ваўкі. За лесніком плачучы, паўзла яго жонка.

— Сюды, сюды! — крычаў ляснік, задыхаючыся ў рыхлявым снезе. — Ось паляна, от, бач, і праклятая груша, — паказваў ён на крывое дрэва, што расло пры дарозе. — Тутака, бач, і шукай. Ой, Божа ж мой, кроў! От і кавалкі падзертае адзежы, ось і Петрусёва стрэльба, а вось валяецца і чаравічак Альжбеткі... Божа Найвышэйшы, за які ж грэх ты гэтак моцна пакараў нас!.. — лямантаваў Максім і, як падбіты сноп, зваліўся на акрываўлены снег. Каля яго збоку, ламаючы рукі, білася ў снезе Таклюся...

Высока па-над лесам плыў, задумаўшыся, поўны месяц і сваім фосфарным праменем пасерабрыў і лес, і паляну, куды, пачуўшы свежую кроў, з шумам зляталіся начныя птушкі-кравапіўцы і сваім дзікім клёкатам заглушалі лямант лесніка і яго жонкі.

А лес, як перш, без перапынку ўсё шумеў сабе ды шумеў на адзін лад.

*1913*



## Маці і дзеці

*Пасвячаю на добрую памяць роднай мацеры — Таклюсі Лейка*

Кожны дзень яна горка плача і цяжка ўздыхае. Аб чым? Аб сваёй нядолі. Галодныя дзеці, гнілыя, абдзёртыя будынкі, благі ўраджай, з усіх бакоў здзірства, сціск і ў дадатак нікчэмны гаспадар, — як жа тут не плакаць...

Просіць Бога, просіць людзей, кленчыць перад панамі, каб памаглі, каб далі які-небудзь спосаб да жыцця, але ніхто — ні неба, ні людзі — не звяртаюць увагі на яе бяздолле. Бягуць дні за днямі, ідзе рок за рокам, а яна усё мучыцца, усё бядуе...

Адзінокая, усімі забытая, яна як пчолка ў вулейку б’ецца, хлапоча над сваёю гаспадаркаю, каб паддзяржаць яе, каб выгадаваць і давесці да розуму сваіх дзетак.

Згушчаюцца над ёю хмары, ідуць цёмныя хвілі з бліскавіцамі, з грымотамі, сякуць у вочы дажджы, размываюць і зносяць дабро навальніцы, а яна, не звяртаючы ўвагі на ўсе гэтыя няўзгоды, усё працуе і дзень і ноч...

Растуць дзеці сярод убоства, сярод гразі, у галадзе і холадзе праходзіць іх жыццё, і хоць целам яны благія, але — дзякуй Богу — духам дужыя і моцныя. Сваёю кроўю, сваімі апошнімі сокамі корміць іх маці, корміць і вучыць, як трэ працаваці, як трэ жыць, паважаючы сябе і шануючы добрых людзей. Растуць дзеці, пераносячы ўсе тыя няўзгоды, што пераносіць іх маці. Растуць — і пад цяжарам свайго горкага жыцця гартуюцца, як сталь у агні...

Усё аддала ім маці — і сілы, і чуццё, і жыццё...

Аддала ўсё — і сама абнядужала, старая.

От выраслі дзеці і, убраўшыся ў сілу, кажуць мацеры:

— Саколка ты наша! Ты давяла нас да розуму, ты аддала нам свае сілы, сваё сэрца, ты ўжэ ўтамілася, — пара табе аддыхнуць, цяпер мы будзем працаваці, цяпер наша чарга зарабляці хлеб пад тваім кірункам...

І выйшлі дзеці гуртам рана на шыроку ніву, каб абрабляць яе, як навучыла іх родная маці...

З-за лесу цёмнага выступіла на чыстым небе яснае сонечка і сваімі залатымі праменямі асвяціла і ніву, і маладых працаўнікоў, засяваўшых сваю зямельку...

— Бог вам на помач, дзеткі! Працуйце на радасць і шчасце сваёй змучанае мацеры!..

## Грэх скупляецца смерцю

Старая ўдава Траяніха яшчэ на Тройцу дала афяру пайсці ў наступную восень да Кіева, пакланіцца там святым угоднікам Божым, папрасіць у іх адпушчэння грахоў і адслужыць закупную імшу за ўпакой змерлых душ.

Гаспадаркі свае яна не баялася кінуць на некалькі месяцаў, бо ў яе была ўжо дарослая дачка Прузына, каторая магла як найлепей і ў хаце ўправіцца, і худобу даглядзець.

На Багача Траяніха надзела на сябе чыстую бялізну, апранула новую сярмягу, накінула торбачку з хлебам дый, выходзячы ў дарогу, кажа сваёй дачцэ:

— Ну, Прузынка, я іду да Кіева на адпуст, а цябе пакідаю дома на гаспадарцы. Глядзі ж, нікуды не швэндайся, асабліва не займайся з хлопцамі, каб, не дай Бог, не выйшла якога паклёпу на цябе або не нарабілася сораму.

— Не, матухна, — адказала дачка, — нікуды і нагою са свае хаты не выйду. Будзь спакойна.



Як толькі Траяніха зайшла за аколіцу, да яе дачкі зараз прыцягнуўся папоўскі парабак Пятрусь. Пятрусь быў хлопец выртлявы, лагодны, але вельмі брыдкі, у сяле яго дражнілі рабым, мусіць, з таго поваду, што ён меў твар зусім зрыты воспаю.

Адкуль Пятрусь быў родам — ніхто не ведаў, а як дзяўчаты дапытваліся, скуль ты, Пятрусько, ён адказваў: стуль, гдзе на полі каменнё расце, а ў вадзе рыба спявае.

Пятрусь і да гэтага часу не раз заходзіў да Прузыны і спрабаваў вызываць яе на залёты, але старая Траяніха кожны раз праганяла яго з хаты, бо бачыла, што ён зусім не падходзіць пад пару яе Прузыне.

Цяпер без старое Пятрусь не стрымоўваўся і трымаў сябе вольна, як распутаны конь. Ён сеў на лаве поруч з Прузынаю дый кажа ёй:

— Ведай, Прузынка, што кахаю цябе больш ўа ўсё на свеце. За цябе і душу сваю гатоў аддаць. Ты павінна быць маёю, а як адкажаш, то — дальбог — павешуся альбо ўтаплюся, бо без цябе я жыць не магу...

Сказаўшы гэта, ён ахапіў Прузыну за шыю і, прыцягнуўшы да сябе, стаў цалаваць яе ў губы. Прузына ўзмятнулася, як укушаная асвою, і крыкнула:

— Пайшоў вон з хаты, рабы чорт! А то як вазьму качаргу, дык жывога месца на табе не астаўлю.

Пятрусь схапіўся, стаў перад Прузынаю на калені дый кажа:

— Прузынка, ягадка мая, зжалься нада мною, не гані мяне. Я буду цябе кахаць і шанаваць да самае смерці, у гэтым табе клянуся. Звярні ўвагу, глянь на мяне ясным поглядам, сонейко маё незаходнаё...

Прузына стрымалася. Пятрусь стаў перад ёй на каленях і плакаў. Маладое сэрца дзяўчыны размякла. Прузыну ахапіў жаль, яна палажыла рукі на голаў Петрусю і, гладзячы кучаравыя валасы, стала разважаць яго:

— Ну, перастань, Пятрусько, плакаць, — гаварыла дзяўчына, кідаючы на хлопца ласкавыя погляды. — Ты гэдакі нешчаслівы, заўсюды адзінокі, мне цябе вельмі шкада.

«Каго дзяўчына пашкадуе, таго і пакахае», — кажуць старыя людзі. І гэта праўда. Праз хвіліну Прузына з Петрусём сядзелі, абняўшыся, на лаве і, цалуючыся, спявалі:

Чаго ж нам баяцца, чаго ж нам тужыць —
І радасць, і шчасце нам жыццё суліць,
Нуду мы і гора ў каханню забудзем,
Мы з сонейкам рана станем уставаці,
Дома і на ніўцы ўмеці працаваці,
Хай жа ў нашым жыццю нам Бог памагае
І нашыя душы навекі з’яднае.

З гэтага часу Пятрусь стаў кожны дзень наведвацца да Прузыны і часта праводзіў з ёю цэлыя ночы.

Чарункі першага кахання як хмельным віном п’янілі Прузыну, муцілі яе розум, і яна не ўтрымалася ў тых межах, якія ўкладам жыцця дзяўчыне забаронена пераступаць. Пайшло новае жыццё... Праўда, трошкі боязна было, каб чаго не выйшла, але затое колькі радашчаў, колькі шчасця ад любоўных патуг ды уздрыгаў!..

Ах, як добра было б, каб маці надалей затрымалася ў Кіеве, бо як вернецца, то добра не будзе — старыя нігды не спагадаюць маладым. О, дзявоцкае шчасце, які кароткі твой век! Ты як птушка пералёцістая — прыляціш, пабудзеш трошкі і ўзлятаеш зноў, ужо назаўсёды... Праз некалькі месяцаў Прузына пачулася, што у ценжы.

Па сяле пра дзяўчыну ужо хадзіла кепская ганьблівая мова. Перад самымі Калядамі вярнулася з Кіева маці і, даведаўшыся, якога сораму нарабіла яе дачка, з гора захварэла і зараз памерла.



Пятрусь хоць і прысягаўся, што да самае смерці будзе кахаць Прузыну, але прэнтка забыў сваю прысягу і, як адно старыя жанкі пачалі прымушаць яго пакрыць грэх і жаніцца з дзяўчынаю, уцёк з сяла, і ніхто аб ім нічога не знаў.

Праўда, раз было прынёс нехто чутку, што Пятрусь згубіў прытомнасць і жыве ў лесе асабнём, як воўк, але гэтаму ніхто не паверыў,— мала што людзі гавораць.

Прузына засталася адна са сваёю нудою і горам.

Плача дзеўчына, лямантуе, праклінае сваю горкую долю, але забыць свае бяды не можэ.

Наступіў час родаў. Божа, які сорам: усе даведаюцца, што дзяўчына прашкапілася. І хоць апрыч самой сябе яна больш нікому сваім выпадкам не прычыніла шкоды, але усё ж такі нядобра людзі асудзяць, аганьбуюць, знойдуцца і такія прайдзісветы, што ўслых на вуліцы будуць смяяцца і абзываць брыдкімі словамі.

О, як дарага Прузына заплаціла б, каб можна было ўсё тое, што зрабілася, скрыць ад людзей, замітусіць усе канцы, затаптаць усе сляды і зрабіць так, быццам нічога не было, — усё чыста, гладка. Мыслі аб скрыцці канцоў свайго дзявоцкага абмылку часта западалі ў голаў Прузыны, але яна ні разу не дадумвала іх да канца, — зрывала, бо апошняе звяно гэтых мысляў наводзіла яе на нешта вельмі цяжкое і страшэннае.

От Прузына ужо ледзьве-ледзьве ходзіць і кожны дзень з вялікім страхам чакае развязкі. Яна ўжо прызапасіла ўсё, што трэба было на гэты час, і ўсё добра абдумала, нават і тыя цяжкія мыслі, якія дагэтуль палохалі яе, цяпер былі даведзены ёю да самага канца і павінны былі, як яна рахавала, збыцца, чаго б гэта ні каштавала. Як толькі Прузыну схапілі першыя сударагі і пацягі перад родамі, яна з хаты выйшла ў адрыну і тамака зашылася ў салому. Быў вечар, і ужо пачынала цямнець. Прузыну зараз схапілі патугі, корчы, і праз некалькі цяжкіх хвілін нарадзіўся поўненькі

здаровенькі хлопчык. Маці ўзяла пялюшкі, спавіла яго і, абгарнуўшы цёплым каптаном, паклала на саломе. Што ж далей рабіць? О, яна ведае, што... «Ну, не марудзь, барджэй, ды глядзі не палохайся, — усё будзе добра», — шаптаў нехта, як здавалася Прузыне, над самусенькім яе вухам. Устаўшы, яна накінула на сябе кажух, паклалала за пазуху спавітага хлопчыка і, крадучыся, як кошка, выйшла на двор.

Ноч была ціхая, цёплая, на небе ясна, як свечачкі, гарэлі зоркі. Аглядзеўшыся наўкруг, Прузына борзда пайшла цераз агароды на рэчку, што цякла ўздоўж сяла. Над рэчкаю ляжаў густы, як ляк, сівы туман. У сяле ужо ўсе спалі. Берагі свае рэчкі Прузына знала добра, і месца, якое ёй трэба было, яна знайшла прэнтко, без асобае турбацы. Яна выбрала самы высокі, страмністы бераг, пад каторым у рэчцы быў вір, дзе заўсёды вада круцілася, як у кіпячым гаршку. Узышоўшы на бугор і стаўшы над самаю кручаю, яна расхіліла кажух, пералажгнала хлопчыка, налажыла на яго масяндзовы крыжык, пацавала моцна ў твар і, расшугаўшы на руках, як непрытомная, узмятнула яго ад сябе наперад у самую гушчу туману... Усподзі хлюпнула вада, і болей нічога, — ціха, ніякага следу...

Пастаяўшы хвіліну над кручаю, Прузына абярнулася назад і, хістаючыся, як п’яная, пайшла дадому. Але адышоўшы ад рэчкі на некалькі крокаў, яна раптам стала і зжагнулася, бытта ўгледзела нешта вельмі страшэннае.

Гэта Прузына зразу, як па Божаму зваленню, ясна зразумела, які подлы і звярыны поступ яна толькі што ўчыніла.

— Што ж гэто зрабіла? Дзе ж мая совесць? — каялася яна, рвучы на сабе з гора валасы.

Дзявоцкі сорам, якім дагэтуль Прузына мучылася, раптам кудысьці счэз. Цяпер сэрца яе білася новым чуццём, якога да гэтага часу яна яшчэ не знала, — чуццём мацеры.



— Дзе ж маё дзяцятко, дзе ж маё мілае? — убівалася яна, ломячы рукі. І ў гэты момант ёй здавалася, што няма на свеце нічога лепшага, як быць мацераю і пеставаць сваё дзіця. —Бач, баялася сораму, а не пабаялася збыць са свету сваё роднае дзіця, паскуда! — бічавала далей сама сябе Прузына. Маці!.. Якая я маці!.. Я душагубка!.. Смерць мне за гэта! — ускрыкнула нарэшце як не сваім голасам Прузына і, абярнуўшыся назад, як шалёная пабегла на рэчку...

У віру зноў хлюпнула вада, і потым зноў наўкруг стала ціха...

Цёплая зорыстая ноч, як і раней, моўчачы адбывала сваю чаргу і не звяртала ніякай увагі на тую цяжкую прыгоду, якая адбылася на рэчцы.

На другі дзень, як выцягвалі з віру грамадзяне ўтопленнікаў — Прузыну і яе хлопчыка, дзеці, бегаючы каля рэчкі, у альшынніку наткнуліся на вісельніка і, разгледзеўшы добра, апазналі, што гэта быў труп Петруся, папоўскага парабка.

## На надворку і ў хаце

Жонка разаслала на надворку радно і рассыпала на ім жыта, каб прасушылася перад узмолам. Як адно яна адышла ад радна, зараз з загумення прыляцелі на жыта два вераб’і: адзін малады, жвавы і спрытны, а другі стары, вахлаты, з крывымі перабітымі нагамі.

Малады сеў на жыта і, падскокваючы, пачаў кляваць зярняты, а стары стаяў каля радна і сумна глядзеў на свайго таварыша, як той коўтаў смашную страву. Хацеў і ён клюнуць зярнятка, але нахіліўся на крывых нагах і ледзь не ўпаў.

Малады верабей, наеўшыся жыта, абярнуўся да старога, нешта джыўкнуў яму і стаў зноў кляваць жыта. Набіўшы зярнятамі поўную дзюбку, ён падскочыў і сеў проці старога вераб’я. Стары прысеў і шырока разявіў

свой роцік, а малады падняў галаву і пачаў кідаць з свае дзюбкі ў рот старому зярняты. Як адно стары наеўся, абодва вераб'і падняліся і, джыўкнуўшы весела, паляцелі зноў у загуменне.

У хаце на запеку ў пасцелі сядзела падслепаватая бабуся і ела з міскі крупнік. Рукі яе дрыжалі ад старасці, і яна аблівала крупнікам сеннікі і радно, якім укрывалася. Сынавая, угледзеўшы гэта, падышла да старое і закрычала:

— Зноў запэцкала ўсю пасцель, сляпая сава... Толькі і работы, што за табою даглядай кожны дзень. І калі ўжэ цябе спрутак возьме, дармаедка...

Аблаяўшы старую, сынавая вырвала з яе рук міску з крупнікам і паставіла на палічку. Бабуся сядзела галодная і горка плакала.

## Юрко і бусел

Звіў бусел на Юркавым гумне гняздо. Бусліха нанесла яец і выседзела дзяцей. Як адно бусляняты вылупіліся з яец, бусліха паляцела на балота шукаць ім смачнае стравы. На балоце над бусліхаю страслася бяда: нейкі дрэнны хлопчык, падкраўшыся, разбіў ёй каменем галаву, і яна пазбавілася жыцця. Бусляняты засталіся сіратамі.

Бацька іх, стары бусел, пабедаваў трошкі, пагараваў і ўзяўся гадаваць сваіх дзяцей: ён кожны дзень па некалькі разоў лётаў на балота, збіраў, што знаходзіў там лепшайшага дзеля стравы, і адносіў у гняздо сваім дзеткам. Бусляняты ў дабры раслі, паўнелі і вучыліся лятаць пад даглядам свайго бацькі. Падросшы, яны пачалі самі сабе здабываць яду.

Зараз пасля Усплення буслы сталі збірацца на адлёт у вырай. На ўзгорку, недалечка ад Юркавага гумна, зляцелася іх мо штук з дваццаць. От і стары бусел



зняўся з Юркавага гумна і паляцеў са сваімі сынамі да таварышаў. Прыляцеўшы да гурту, ён спусціўся на зямлю і заклекатаў, бытта гаворачы:

— Паглядзіце, браткі, якіх я вам маладцоў прыставіў!

Буслы, падняўшы галовы, клёкатам радасна прывіталі маладых таварышоў. На другі дзень старыя і маладыя буслы зняліся і ўсе разам паляцелі ў вырай.

На Тройцу памерла Юркава жонка і пакінула асірацелымі двух хлопчыкаў: Зыдарка пяці гадоў і Гарасімка трох гадкоў. Хлопчыкі хадзілі голыя і галодныя, бо бацька іх штодзень зранку да поўначы сядзеў у карчме, лайдачыў, а на дзяцей сваіх не звяртаў ніякае ўвагі. Калі галодныя дзеці прасілі хлеба, Юрко крычаў:

— Дзе я вам вазьму хлеба, гіцлі, — мне самому нечага жраць... Ідзіце жабраваць, шчаняты!..

Без догляду дзеці не маглі доўга жыць. Зыдарка ўпаў у рэчку і ўтапіўся, а Гарасімка памёр з голаду. Хавалі хлопчыкаў чужыя людзі, а родны бацька ляжаў у карчме п'яны.

## Без хлеба

*Віленскі абразок*

Ён стаіць, апёршыся, аб сцяну і заплаканымі вачыма глядзіць у неба, шэпчучы малітву дрыжачымі вуснамі. Ля яго праходзяць нейкі абарванец, паня, а там ізноў пан...

Просіць ён аб літасці, даць колькі грошы, каб мог купіць у народнай кухні стравы для галоднай жонкі і дзяцей... але ніхто на яго ўвагі не звяртае.

— Божа, мой Божа! Няўжо ж не знойдзецца які літасцівы чалавек? Цэлы дзень хаджу, работы нідзе няма, а жонка і дзеці ад учора не мелі ў вуснах ні драбінкі хлеба...

І зноў пагружаецца ў думках… Папраўляе пілу і тапор на сваіх плячах. Такі ён стаў яму цяпер цяжкі, а ўсё ж такі — ён і не стары, і не хворы…

* * *

Дзве асобы сунуцца па Свята-Юрскім праспекце, гутараць між сабою аб свабодзе, роўнасці ды аб апошнім выйгрышы пры «зялёным».

— Паночкі даражэнькія! Памажыце беднаму… Цэлы дзень хаджу, шукаючы працы, і нідзе яе знайсці не магу. Жонка і дзеткі млеюць ад голаду!..

Але асобы звольна пасоўваюцца… Аб свабодзе і роўнасці ўжо ні слова. Урэшце іх цень і толькі гоман іх слоў аб «зялёным» і нейкім вялікім выйгрышы адбіваецца рэхам аб вуха беднага дрывасека…

* * *

Б'е на катэдральнай званіцы дзесяць гадзін. А ён ўсё стаіць. Раптам, сціснуўшы кулакі, пасылае моцнае пракляцце багатым і моцным гэтага света і іх справядлівасці…

А там?..

Там галодныя дзеткі чакаюць хлеба, там бедная маці пацяшае іх, што прыйдзе бацька і прынясе хлеба.

Дзеці супакойваюцца і, прытуліўшыся да матчыных кален, раз у раз паглядаюць на дзверы. Раптам даюцца чуць чыесь прыспешаныя крокі. Дзверы з шумам адчыняюцца і ён стае ў дзвярах…

Дзеці з балючай усмешкай на вуснах, быццам бы хацелі высказаць свой жаль, што так доўга чакалі хлеба, затрымліваюць свае вочы на бацьку і разам кідаюцца да яго з радасцю. Але раптам з жахам адкідваюцца назад. Бацька стаіць з дзікім поглядам, са сціснутымі вуснамі і кулакамі, ажно, не вытрымаўшы болю, пачынае горка, горка плакаць…



Урэшце падыходзіць да дзяцей, садзіцца на зэдлік і пачынае прытуляць іх да свайго збалелага сэрца. Слёзы капаюць па яго зморшчаным твары і падаюць на ясныя галоўкі дзетак.

Агонь у грубе пачынае гаснуць, робіцца цёмна і страшна ў хаце беднага дрывасека. Цішу і спакой перарывае толькі надрываючы сэрца плач.

Яны засынаюць галодныя, яны спяць, дрыжучы ад холаду і голаду, чакаючы лепшага заўтра.

А заўтра?

Заўтра іх чакае, быць можа, другое такое «заўтра»!..

* * *

Дзве асобы ў вялікім пакоі пры шампанскім у вясёлай гутарцы і смеху сядзяць, абняўшыся з дзяўчатамі. Што ім гора, што ім голад бедных людзей, яны свабодныя, багатыя і карыстаюцца з поўнай чары жыцця!

Яны п'юць за свабоду і роўнасць, за лепшую яшчэ… для іх будучыню! Яны п'юць і п'юць, не зважаючы на тое, што віно неяк зрабілася горкім на дне шклянцы…

На дно гэтай шклянкі патрапілі горкія слёзы галодных людзей.

*1919*

## Бабуся

*З натуры*

Восеньскі дзень адходзіў на спачын, пачынаўся вечар. Неба, як гэта часта бывае ў восеньскую пару, зацягнута было сівымі калматымі хмарамі. З поўначы дуў халодны, востры вецер.

Я ішоў па вуліцы аднаго ўкраінскага мястэчка. Насустрач мне паўзла, апіраючыся на сухаваты кій, старэнькая, убогая кабета. Яна апранута была ў нейкае

запэцканае брудам шкумацце, ад якога цягнуліся па ветры, як павуцінне, выпацканыя ніткі. Ногі яе, замест башмакоў, былі акручаны каравымі анучамі і абмотаны войлакам, галаву яе пакрывала брудная хустачка, больш падобная да анучы, якою добрыя гаспадыні дастаюць гаршкі з печы, чым да жаночага ўбору. Гледзячы на ўбогую кабету, здавалася, што гэта не чалавек ідзе, а паўзе калматае страшыдла, якое выпусцілі на вуліцу, каб пужаць людзей.

Праз дзіркі і распоркі лахманоў вецер, не маючы перашкоды, без усякага жалю рэзаў худое, жоўтае цела бабулькі, і яна ад сцюжы дрыжэла, як асінавы ліст ў непагоду. Сівая, як хваёвы мох, галава бабусі, твар у зморшчынах, выпучаны паміж лапатак на спіне горб з добры бохан, запаўшыя глыбока пад лоб вочы, — усе гэтыя дары жыцця сведчылі, што ўладарка іх надта многа гадоў ужо працавала. І на працягу свайго жыцця бачыла шмат бяды ды смутку.

Параўняўшыся са мною, кабета глянула ў мой бок сваімі падслепаватымі вачыма і, схіліўшы галаву, пакорліва сказала:

— Пахвалёны, паночку.

— Навекі, — адказаў я.

Па яе прывітанні я здагадаўся, што жанчына гэта мусіць быць з нашае старонкі, з Беларусі роднай. І, каб зусім упэніцца ў гэтым, запытаўся:

— Скуль ты, бабуська?

— З Горадзеншчыны, паночку, з-пад самага Ваўкавыску, — адказала яна.

— Як жа ты сюды папала?

— А гэтак, паночку, упіхнулі мяне ў Баранавічах у вагон дый прывезлі ў Харкаў, а стуль прыгналі сюды да мястэчка. Казалі, што тутака будзе добра жыць.

— Што ж, не ашукалі? — дапытваўся я.

— Дзе ж там, — скардзілася старая, — якое нам тут жыццё? Пойдзеш жабраваць і нічагусенькі не дастанеш, заўсёды з пустою торбаю прыходзіцца варочацца дамоў. Ужо другі дзень і расіначкі ў роце не было. Хоць памірай з голаду, — жалілася кабета.



— А чаго было, бабуська, забівацца ў чужы край? Ці ж не лепей было б застацца на бацькаўшчыне і там чакаць смерці? — сказаў я.

— Ай, паночку, хіба мы па сваёй ахвоце выйшлі з бацькаўшчыны, нас сілком з хат павыпіралі. На Спаса прыскакалі да нас казакі, падпалілі вёску і давай бізунамі нас гнаць у Расею. Ось паглядзелі, паночку, які мне гасцінец гіцлі на памяць пакінулі.

І бабуся, раскрыўшы сваё рыззё, паказала на целе шнур ад нагайкі.

— Дык ось якімі ласункамі нас з бацькаўшчыны сюды зманулі, — закончыла старая сваю са мной размову і пацягнулася далей, бразгаючы сваім кіем па бруку.

— Куды ж ты, бабуська, спяшаешся? — спытаўся я ўжо наўздагон.

— А, пайду ў цэркаўку ды памалюся Божухну, каб барджэй смертухну за мной прыслаў, мо на тым свеце будзе лепш, — кінула мне старая ў адказ, адходзячы.

Мо праз гадзіну якую або трошкі больш я вяртаўся дамоў той самай вуліцай, на якой сустрэў, ідучы ў мястэчка, бабусю-бяглячку. Недалёчка ад таго месца, дзе мы са старою размаўлялі, я ўбачыў гурток людзей, якія стаялі паўкругам ля самага раўчака, што йшоў з краю вуліцы. Хоць ужо пачынала цямнець, але яшчэ добрыя вочы дасканальна маглі разгледзець абрысы людзей і па іх тварах дагадацца, што яны нечым устрывожаны, перабіваюць адзін аднаго і, ківаючы галовамі, паказваюць пальцамі на нешта калматае, што ляжала ўздоўж раўчака. Па ўсім было відаць, што тут здарылася нешта. Падходжу і я да гуртка і праз жывую сцяну людзей ледзь-ледзь прабіваюся да раўчака. Пачынаю разглядаць ляжачае шкумаццё і... Божа мой, што я бачу! Моцна сціснутыя губы і векі, скамянелы твар,

выцягнутыя ўздоўж цела рукі сведчылі, што жыццё ўжо пакінула яе.

— Такі яе лёс, — сказаў нехта з чарады.

— Мусіць, памерла з голаду, — адклікнуўся другі.

— Ішла бабка з царквы, — пачала расказваць адна дзяўчына, — паслізнулася, бубухнула ў раўчак і адразу Богу душу аддала. Дальбо, праўда, усё сама сваімі вачыма бачыла.

Паміж гуртка пайшлі перасуды ды спрэчкі, як, што і адчаго здарылася з бабусяю-бяглячкаю гэтакая цяжкая прыгода.

А бабуся ляжала, выцягнуўшыся ў раўчаку. І труп яе паказваўся цяпер даўгім-даўгім. Смерць выцягнула яе, быццам хацела зраўняць з другімі, каб хоць па смерці яна не засталася ў крыўдзе і займала столькі месца, колькі займаюць іншыя.

Падышлі два паліцэйскія з пісакамі пры баку і з кнігамі запісаў пад пахамі. За імі зараз пад'ехала калымага, запрэжаная дрэнным, аблезлым канём. Паклалі труп бабусі на воз і павезлі ў паліцыю на дазнанне. Праз хвіліну-другую ад'язджаючая калымага шчэзла ў цямноце. Людзі моўчкі разышліся. І на вуліцы ўсё сціхла, толькі недзе далёка-далёка ў цемры ночы нехта голасам, поўным жалю і нуды, пяяў:

Адным-адна яна жыла
Ускрай чужога поля,
На гасцінцы, ўпаўшы, памярла,
Цяжка яе доля.
Як хавалі, плахтай чыстай
Воч ёй не закрылі,
Без пацераў прад Прачыстай
У дол апусцілі.

Ідучы дамоў, я доўга думаў аб бабусі-бяглячцы, і здавалася мне, што ў смерці яе павінна ўсё мястэчка,



усе тыя людзі, што так пільна рупяцца толькі пра саміх сябе.

*1921*

## Ліса-шахрайка

*Казка*

Жылі сабе дзед ды баба. От раз спякла баба пяць пірагоў. Пачалі старыя пірагі тыя дзяліць між сабою. Дзялілі яны, дзялілі і ніяк не змаглі іх пароўну падзяліць: возьме баба сабе два пірагі — дзеду застанецца тры, пакладзе сабе тры — у дзеда стане два. Меркавалі, круціліся — нічога не выходзіць, усё застаецца лішка. Бяда ды і толькі. Пачалі старыя спрачацца ды сварыцца. У гэты час зайшла да іх у хату ліса і кажа:

— Чаго вы, старэнькія, сварыцеся? Калі хочаце, я падзялю пірагі між вамі пароўну.

— Ну, добра, толькі глядзі, каб без усякага шахрайства, — папярэдзілі старыя.

— Хай Бог сцеражэ! Мае дзед і бацька не займаліся шахрайствам і мяне не вучылі гэтаму, — запэўніла ліса.

— Калі так, — сказалі старыя, — дзялі!

Ліса падышла да пірагоў і кажа:

— Дзеду пірог, бабе пірог, а мне, лісе, тры за парог...

Узяла шахрайка тры пірагі і пайшла з хаты. У дзеда з бабаю засталося па адным пірагу. І старыя былі вельмі рады, што ліса падзяліла пірагі між імі пароўну.

*1912*

## На споведзі

Хлопчык пайшоў на споведзь да ксяндза. Ксёндз прызнаваў толькі польскую мову, а хлопчык гэтае мовы не разумеў. Ксёндз пытаецца:

— Яке у цябе, хлопчэ, ест гжэхі?

— Бацьку, маці не слухаў, гаршчок адзін раз разбіў, — сказаў хлопчык і стаў успамінаць, што ён яшчэ кепскае зрабіў. Ксёндз, пачакаўшы трошкі, і пытаецца:

— А венцэй цо?

— І венцы*, пане ксёнджэ, разбіліся, — адказаў хлопчык.

*1921*

## Паймала і пазнала

Прыйшла жонка да старшыні на скаргу, што ноччу хлопцы абабралі яе садок.

— Пане дабрадзею, — казала яна, кланяючыся старшыні, — прыгразі ты гэтым гіцлям, каб яны больш не крыўдзілі мяне, не траслі па начах маіх грушаў.

— А ты паймала хоць аднаго? — спытаўся старшыня.

— А як жа, мой дабрадзей, паймала і пазнала.

— Хто ж гэта быў, скажы, кабетка? — дапытваўся старшыня.

— Альбо Тодар, альбо Марко, альбо хто іншы, — адказала кабета.

* Венцы — закручына, якая робіцца зверху гаршка.

# Драматургія



# Снатворны Мак

*Сцэна для дзіцячых тэатраў*

*Пасвячаю гэту сваю працу вясковым дзецям Слонімскага павета*

## Асобы

Снатворны Мак.
Царыца Ружа.
Лясная Кветка-Званочак.
Дзед Лесавік.
Мурашка-працаўніца.
Рэзеда-жабрачка.
Асва.
Пчала.
Мятлік.
Скакунец (страказа).
Хлопчыкі Цыпрыянка і Гарасімка.

Усе асобы прыбрацць можна ў кітайскую каляровую паперу пры помачы дратоў.

## Сцэна першая

Адбываецца ўсё гэта ў садку, абгароджаным тынам: пасярэдзіне садка роўненькі плац, дарожкі высыпаны жоўтым пяском; кругом плаца грады з кветкамі. У тыне, перад публікай, пералаз, а збоку яго дзверцы, каторыя выходзяць на

вуліцу. Ад іх у садок ідзе вузкая сцежка. М а к у чырвоным адзенні стаіць на градзе з левага боку.

М а к (*падняўшы вочы ўверх, з вялікім чуццём гаворыць сам сабе*). Як сягоння ласкава свеціць сонейка! Люблю я яго залацістыя, цёплыя прамяні! Гэтыя прамяні даюць мне радасць ды сілу. Сонейка ўсіх нас гадуе: кветачкі яно адзявае ў харошанькія ды багатыя апраткі, дрэвам дае салоткі сок і акрывае іх густым ды зялёным лісцём. Вялікая слава яму!.. Вясна — гэта наша вялікае свята. Сягоння ў гонар вясны я зраблю ў сябе вечарынку. Пасклікаю кветкі, мурашак, хлопчыкаў, няхай усе разам павяселяцца. (*Сходзіць з грады, бярэ венік і пачынае чысціць сцежкі.*)

Нехта стукае ў дзверы. Мак адчыняе, уваходзіць З в а н о ч а к.

Мак, Званочак.

З в а н о ч а к. Пахвалёны табе, Снатворны Мак!

М а к. Навекі. Куды цябе Бог нясе, Званочак?

З в а н о ч а к. З лесу прыйшоў да цябе ў садок, шаноўны Маку. У нас у лесе цяпер надта страшна ды сумна: адны совы крычаць ды ваўкі выюць.

М а к. А чаму ж, дабрадзею, не распацешыш лесу сваімі вясёлым галаском? Заспяваў бы ты нам песню якую ці што...

З в а н о ч а к. Не ідуць мне на думку песні, паночку. У мяне на сэрцы ляжыць вялікі смутак.

М а к. З чаго ж ён узяўся? Ці не скрыўдзіў хто цябе там у лесе?

З в а н о ч а к. Але, паночку, мяне вельмі моцна крыўдзіць у лесе касавокі зайчык.

М а к. Ну, ну, кажы, як гэта было...

З в а н о ч а к. Ось паслухайце, паночку... Жыў я ў лесе пад зялёнымі кусцікамі са сваімі трыма братамі. Добра нам тамака жылося, уночы мы сабе спалі на



мяккіх падушачках, а ўдзень цешыліся сонейкам, купаючыся ў цеплаце яго залатых прамянёў. А як сонейка хавалася за горы і на зямлю спушчаўся святы вечар, да нас прыходзіў дзядуля Лесавік і шаптаў нам свае цікавыя казкі. От раз да нас пад кусток забраўся касавокі зайчык, абнюхаў нас сваёю пыскаю, а потым без усякае прычыны — гым!.. пазрываў галовы з маіх брацікаў і пабег сабе, як шалёны, у цемру густога гаю... З таго часу, як прылучылася гэтае няшчасце, я не магу жыць у лесе, надта мне ўжо шкада сваіх брацейкаў (*плача*).

М а к. Не плач, дзецючок, слязамі бядзе-гору не паможаш. Аставайся жыць у мяне ў садку.

З в а н о ч а к. Дзякую, вяльможны Маку, за добрае слова і ласкавы прытулак. (*Нізка кланяецца.*)

Нехта стукае ў дзверы. Званочак адчыняе. Уваходзіць Р у ж а.

Мак, Званочак, Ружа.

Р у ж а. Пахвалёны табе, Снатворны Мак! Як жывеш, сусед?

М а к. Дзякуй Богу, жыву сабе без бяды ды напасці... Надта рад цябе бачыць. Ружа пахучая!

Р у ж а (*аглядаючы Мак*). Але які ты стаў важны ды статны, як той кароль.

М а к. Дзе ж там... Лепшай вопраткі, як у цябе, суседка, ні ў каго няма. Ты першая паміж нас па багацтву свайго ўбору. І калі я — кароль, ты, суседка, — праўдзівая царыца.

Р у ж а. Дзякуй табе за добрае слова!

М а к. Як маешся, суседка?

Р у ж а. Па праўдзе сказаць, грэх Бога гнявіць, жывецца вясёла і шчасліва, але чую сэрцам, што шчасце маё працягнецца нядоўга.

М а к. Навошта ты, суседка, цемніш сваё жыццё цяжкімі думкамі? Адкуль яны ў цябе бяруцца?

Р у ж а. Гэтыя сумныя думкі я ўдыхаю разам з цеплатою вясенніх дзён. Цяпер вясна стаіць вельмі харошая: сонейка штодзень ласкава глядзіць з неба на зямлю і грэе яе сваімі цёплымі прамянямі. Я расцвіла і зрабілася пышнаю кветкаю. Над маёй галавой уюцца клубы пахнючага водару. Людзі не могуць нацешыцца маёй красою, не могуць надыхацца маім водарам. Але як яны глядзяць на мяне ды хваляць, я бачу ў іх вачах воўчую прагавітасць. Мне так і здаецца, што вось хто-небудзь з іх выцягне руку і адкруціць мне галаву, тады і канец майму жыццю.

М а к. Праўда твая, пахучая Ружа, людзі — непрыяцелі нашы, яны губяць нас без ніякага жалю... Але не будзем сягоння думаць аб благім, лепей паскачам ды павяселімся: сягоння ў мяне ў гонар вясны вечарынка.

Р у ж а. Гэтаму я надта рада.

М а к. Званочак, заві гасцей сюды.

З в а н о ч а к (*адчыняе дзверы і крычыць*). Кветачкі пахучыя, матылі лятучыя, мурашкі паўзучыя і вы, хлопчыкі-малойчыкі, збірайцеся на вечарынку да пана Мака!

Мак, Званочак, Ружа і М у р а ш к а - п р а ц а ў н і ц а.

М у р а ш к а (*упаўзаючы*). Ці жыў-здароў, чырвоны Мак?

М а к. Жывём, а як, васпане, гадуешся?

М у р а ш к а. Нічога сабе, цягаемся пакуль што па свеце... Прыйшла да цябе на скокі ды на спевы.

М а к. Вельмі рад бачыць цябе на сваёй вечарынцы. Толькі, будзь ласкава, да мяне блізка не падпаўзай, бо вы, мурашкі, хоць і працаўніцы добрыя, але падчас і кусацца можаце, як сабакі.

М у р а ш к а. Ой, мой дабрадзею, каб гэтака думка і запала мне ў галаву, то, дальбог, не магла б споўніць, бо зубоў няма — усе ад старасці выкрышыліся. (*Убок сама сабе.*) Але каб мне ўдалося забіцца пад яго апратку, я так спякла б яму бакі, што ён памятаў бы да страшнага суда. (*Поўзае каля Ружы і моцна яе кусае ў нагу.*)



Ружа адскаквае на адной назе і крычыць.

Тыя, што былі, і М а т ы л ь са С к а к у н ц о м.

М а т ы л ь і С к а к у н е ц (*разам*). Паклон табе, Снатворны Мак. З далёкіх палёў ды з зялёных лугоў ляцелі мы да цябе на вясёлу бяседу.

М а к. Я шчаслівы, што бачу вас на вечарынцы. Як, сябры, пажываеце?

М а т ы л ь і С к а к у н е ц. З ранку да ночы лятаем, аддухі не маем, сонечкам любуемся, з кветачкамі цалуемся. Схіліся, вяльможны пан Мак, мы цябе пацалуем.

М а к. Не магу, госці дарагія, нахінуцца, надта спіна баліць.

М а т ы л ь і С к а к у н е ц. А-ёй, як жаль, што не можам пацалавацііся з табою, наш добры паночак... (*Убок самі сабе.*) От калі б дабраліся да яго поўных чырвоных шчок, выцягнулі б з іх увесь сок. (*Адыходзяць убок.*)

Тыя, што былі, і А с в а з П ч а л о ю.

А с в а і П ч а л а (*уваходзяць разам, абняўшыся*). На зазыў твой, снатворны Мак, спяшылі мы з далёкай стараны. Пахвалёны табе, паночку!

М а к. Навекі... Надта рад, што бачу вас у вялікім прыяцельстве. Ці даўно сышліся?

П ч а л а. З першай вясны. У Асвы нехта спаліў хату з усім скарбам: яна з голаду памірала. Я зжалілася, дала ёй прытулак у сябе і накарміла. З тае пары і прыяцельства ў нас завялося. Цяпер мы не можам адна без другой жыць.

А с в а (*сама сабе*). Пакуль Пчала будзе мяне карміць, нізашто не адыду.

М а к. А дзе вы жывеце?

П ч а л а. У мяне ў вуллі. Робіма кожная па сабе, а ямо разам.

А с в а (*сама сабе*). Твой салодкі мёд.

М а к. Хвалю вашу прыязнь.

А с в а  і  П ч а л а (*разам*). А пазволь, вяльможны Мак, завясці прыяцельства з табою. Мы сядзем каля твайго вуха ды заспяваем табе сваю песню. Ось гэтак: бз-бз-бз-бз-бз!..

М а к (*затыкаючы вушы*). Дзякую вам, прыяцелькі, няхай калі-небудзь іншым разам, а цяпер не трэба...

А с в а. А шкада, што шаноўны Мак не дазваляе пацешыць сябе нашымі спевамі. (*Сама сабе.*) Ой, з якой бы я ахвотай запусціла ў яго шчокі сваё вострае жыгала!..

Асва і Пчала адыходзяць.

Тыя, што былі, і  Р э з е д а.

Р э з е д а. Да ног тваіх кладу паклон, вяльможны Мак! От і я, нябога, прыйшла да цябе на вечарынку.

М а к. Дзякую, пані, што не заганьбавала маім зазывам... Як жа цябе Бог хавае?

Р э з е д а. У бядзе ды горы, мой пане, пакутую ўсё сваё жыццё... Ось і цяпер Бог паслаў вельмі цёплую вясну, усюды напладзілася такая цьма рознай машкары, што ліку няма ёй. І што ж вы думаеце, ад гэтае праклятае погані мне жыцця не стала: яна зусім аблапошыла ўсю маю апратку, і цяпер я хаджу, як жабрачка якая.

М а к. Бачу, што адзенне на табе не багата, але гэта, суседка, не вяліка бяда: тваё багацце не ў адзенні, а ў пахучасці, якой зайздросцяць табе ўсе кветкі.

Р э з е д а (*крыўдуючы*). Якая мне карысць з гэтае пахучасці? От калі б у мяне былі харошыя вопраткі, тады б я была шчаслівая!..

М а к. Што зрабіць, будзь здаволена, суседка, тым, што маеш.



Р э з е д а. Дзякую пану за добрую параду. (*Сабе самой.*) От каб я дабралася да твае кудлатае галавы, добра палапошыла б кудлы. (*Адыходзіць убок.*)

Тыя, што былі, ды  х л о п ч ы к і  Ц ы п р ы я н к а  і  Г а р а с і м к а.

Х л о п ч ы к і  ўваходзяць, абняўшыся, аглядаюць кветкі, а потым глядзяць на Мак.

Ц ы п р ы я н к а. Гля, які лапушысты мак.

Г а р а с і м к а. Які зухаваты!..

Ц ы п р ы я н к а. Гарыць, як вогнішча.

Г а р а с і м к а. Як даспее, галава будзе ў яго з добры жбанок...

Ц ы п р ы я н к а. Не, з гаршчок.

Г а р а с і м к а. А можа, з бочку!..

Ц ы п р ы я н к а  і  Г а р а с і м к а (*разам*). Кладзём табе, Снатворны Мак, паклон да самае зямлі.

М а к. Надта рад бачыць вас на сваёй вечарынцы. Вы, здаецца, жывяце тутака недалёчка?

Ц ы п р ы я н к а. Ось тутачка, зусім блізка.

Г а р а с і м к а. За тыночкам гэтым, пане.

М а к. Ага, пазнаю! Гэта вы тутака штодзень ходзіце ды прасоўваеце ў садок праз тынок рукі, каб штонебудзь сарваць...

Ц ы п р ы я н к а. Пільнуем твой садок, салодкі Мак.

Г а р а с і м к а. Даглядаем, каб якія зладзеі цябе, паночку, не абакралі...

М а к. Дзякую вам, хлопчыкі, за вашу суседскую прыхільнасць. Цяпер я буду з вашага боку спакойны, а то я ўсё думаў, што вы хочаце мяне скрыўдзіць.

Ц ы п р ы я н к а  і  Г а р а с і м к а (*разам*). Няхай Бог крые... Ці ж мы якія шыбельнікі, каб цябе скрыўдзілі...

М а к. Ну, ну, дай Божа, каб было гожа.

Ц ы п р ы я н к а і Г а р а с і м к а (*разам, самі сабе*). От як даспееш, добра цябе, ягомасць, устрахнём. (*Адыходзяць у другі бок.*)

Усе тыя, што былі. Мак у місачках гатуе страву.

Р э з е д а. Паміраю без вады, дайце піць...

М у р а ш к а. Есці так хочацца, што, здаецца, зжор бы мядзведзя...

А с в а. Глядзі, ягомасць, каб не ўдавіўся...

П ч а л а. Ой, есці хачу...

Р э з е д а. Ой, піці хачу...

С к а к у н е ц. Есці і піці хачу...

М а к. Я пачастую вас, панове, тымі стравамі, што вы любіце. (*Раздае страву.*) От табе, пахуча Ружа, місачку вячэрняе расы. Для цябе, Рэзеда, жбаночак крынічнае вады. Мурашку-працаўніцу пачастую цукровым пясочкам. Дзеля Пчалы ды Асвы прызапасіў місачку мёду. Матыля і Скакунца пачастую сокам палявых кветак. А вас, хлопчыкі, пачастую мінулагоднім макам.

Усе ядуць.

М у р а ш к а. Панове, глядзіце не аб'ядайцеся, а то зараз будземо скакаці.

П ч а л а. Хіба ж мурашкі скачуць? Здаецца, яны адно поўзаць умеюць...

А с в а. Ах ты, цыганка задрыпаная! (*Падбягае да Мурашкі і кусае яе ў спіну.*)

М у р а ш к а. Ратуйце, разбойніца Асва кусаецца!..

Паміж гасцей пачынаецца сварка ды разбой. Хлопчыкі б'юцца кулакамі. Пчала з Асваю кусаюцца. Скакунец ганіцца за Матылём. Званочак стараецца памірыць гасцей, але нічога не можа зрабіць.

М а к. Панове, кіньце сварку. Лепш павяселімся да паскачам...



Пачынае граці музыка. Усе скачуць і спяваюць «Гой, мае грычанікі!..».

Канец першай сцэны.

З а с л о н а.

## Сцэна другая

Абстава тая, што і была. З в а н о ч а к адзін, сядзіць на ўслоне і стружа сабе цяганчыкам* кіёчак.

З в а н о ч а к. Мак пайшоў у госці да Ружы. Як добра па-брацку яны жывуць між сабою: нічога не робяць адно другому наперакор, не зайздросцяць, расінку і тую падзеляць паміж сабою пароўну. Люблю я гэткае брацкае жыццё... (*Глядзіць на неба.*) Як ясна сягоння свеціць сонейка! Кветачкі так і цягнуцца да яго, як дзеткі да свае мацеры. І як яно багата і пышна адзела ўсіх. Наш Мак што ні дзень, то ўсё харашэе. А Ружу цяжка ўзнаць — гэткая стала чырвона ды пышна!.. Куды ні ўскінеш вокам — усюды ўсё расце, паўнее, красуецца. Хвала сонейку за яго вялікую міласць і шчодрасць!..

Я настружу кіёчкаў ды падапру імі слабейшыя кветачкі, каб яны ад ветру не хіліліся на зямлю. (*Званочак задумваецца, а потым пачынае спяваць сумную песню.*)

Нехта стукае ў дзверы. Званочак адчыняе. Уваходзіць Д з е д Л е с а в і к.

Званочак, Дзед Лесавік.

Д з е д. Божа памажы, хлопча!

З в а н о ч а к. Дзедка, мілюсенькі, гэта ты? Як жа я рад, што ўбачыў цябе! (*Лашчыцца да яго і абдымае.*)

Д з е д. Ну, як цябе тутака Бог гадуе?

* Цяганчык — ножак.

З в а н о ч а к. Грэх што кепскае сказаць — жывецца як найлепей, толькі надта маркочуся па табе, дзедку. (*Садзіцца побач на ўслоне.*)

Д з е д. Як тутака ў вас усё пекна: кветак шмат і дух лёгкі ды пахучы...

З в а н о ч а к. Але, дзядусю, тут усё такое пекнае, што як узглянеш, то здаецца — усё гэта намалявана.

Д з е д. А ў каго ж ты, дзецючок, тут жывеш?

З в а н о ч а к. У Мака, мой дзедку! Ён надта добры і не здзекуецца з мяне.

Д з е д. Я надта рад, што ты найшоў сабе тутака добры прытулак.

З в а н о ч а к. А скажы, дзедку, што ў вас робіцца там у лесе?

Д з е д. У лесе ў нас цяпер пайшлі, дзецючок, вялікія непарадкі. Дужэйшыя душаць слабейшых, а слабейшыя нападаюць на тых, хто слабейшы за іх саміх. Хто хітрасцю ды абманам жыве, а хто зладзействам ды разбоямі. Надоечы мядзведзь з воўкам счапіліся і давай адзін аднаму бакі мяць. Ледзьве-ледзьве я іх разбараніў.

З в а н о ч а к. Дык ты, дзедку, і цяпер усё гамуеш* буйных звяроў?

Д з е д. А што ж рабіць, дзецючок, трэба стрымоўваць іх зладзейскую натуру.

З в а н о ч а к. Дзедку мой мілюсенькі, людзі кажуць, што ты ведаеш, што добрага і благога робіцца на свеце. Скажы ж мне, мой мілюсенькі, ці ўгледжу я калі-небудзь сваіх браткоў-нябожчыкаў...

Д з е д. Пакуль жыў будзеш, не пабачыш, а як памрэш, то на тым свеце ўгледзіш.

З в а н о ч а к. Ах, як жаль мне мне маіх брацейкаў!.. Дзедку, мой саколік (*шэпча*), я чуў, што ў цябе ёсць жывая вада, каторaю можна ажыўляці нябожчыкаў.

---

* Гаймаваць — утаймоўваць.



Дай, дзедку, мне хоць капельку гэтае вады, каб я мог ажывіць сваіх брацейкаў.

Д з е д. Людзі, Званочак, шмат моўляць няпраўды, і гэтакае вады ў мяне няма. А ёсць толькі дзівадзейныя парашкі ды звонік чароўны.

З в а н о ч а к. Ось што!.. А скажы, дзедку, якую сілу маюць твае парашкі ды звонік?

Д з е д. Сіла ў маіх парашках гэтакая, дзецючок. Як хто іх прыме нанач, той у сне, як наяве, будзе ўсё чуць ды бачыць, і да такога ніякі ліхадзей або чараўнік не прыступіцца... А звонікам можна ўсялякія чары ад людзей адводзіць, зачараваны сон адводзіць...

З в а н о ч а к. А-ёй, як усё цікава!..

Д з е д. Дык ты, сакалок, прыходзь сягоння да мяне ў лес, я дам табе гэтых парашкоў ды звонік.

З в а н о ч а к. Добра, дзедку, прыйду, дальбо, прыйду.

Д з е д (*падымаючыся з услона*). Засядзеўся я ў цябе, хлопча, пара ўжо ісці дадому. Бывай здароў!..

З в а н о ч а к. Як жаль, што ты, дзедку, адходзіш!..

Д з е д. Дык глядзіце ж, дзецючок, прыходзь сягоння вечарам да мяне, я буду чакаць цябе на палянцы пад густым дубам, недалёчка ад таго месца, дзе ты жыў са сваімі брацейкамі. (*Выходзіць.*)

З в а н о ч а к (*адзін*). Які гэты дзедка добры! Як шчыра я люблю яго! Ён нікога не скрыўдзіць, не абсудзіць, нікому ганьбы не дасць. Не тое што чалавека, але мурашкі і тае не скрыўдзіць. Кветкі або былінкі і тых шкадуе, і нікога не стопча нагою. (*Садзіцца на ўслоне і ізноў пачынае стругаць кіёчкі.*)

Нехта стукае ў дзверы. Званочак адчыняе. Уваходзяць П ч а л а, М а т ы л ь, С к а к у н е ц, М у р а ш к а, Р э з е д а і два х л о п ч ы к і.

Званочак і ўсе тыя, што ўвайшлі.

А с в а. Пахвалёны табе, маляваны панічок!..

М у р а ш к а. Чалом б'ю табе, мудрагель наш, да самае сырое зямлі...

М а т ы л ь. Мы прыйшлі да цябе, срэбны Званочак, з адной важнай справай!..

П ч а л а. І вельмі сакрэтнай...

С к а к у н е ц. Ды надта цікавай.

З в а н о ч а к. З усёй душой гатоў служыці вам, чым магу, але ведаю, чаго вы ад мяне хочаце.

У с е. Дзякуем за добрае слова.

М у р а ш к а. Панове, вы ўсе малакасосы і не ўмееце сваёй мовы скіраваць на лад. Пазвольце мне вытлумачыць Званочку, з якой справай мы прыйшлі да яго.

У с е. Кажы, кажы, наш мудрагелька.

М у р а ш к а. Не буду марна траціць слоў. Пайду напрамік да свае мэты. (*Абярнуўшыся да Званочка.*) Панічык каханы, мы агулам просім цябе вось аб чым (*шэпча*), як Мак будзе ноччу моцна спаці, ты паціху ўпусці нас да яго ў садок і не забараняй нам ані словам, ані дзелам узяць у яго ўсё, што каму спадабаецца.

Р э з е д а. Я ўсе пялюсткі ў яго павырываю ды ўквечу сабе касу. От будзе хараша.

А с в а. Дальбог, увесь сок з яго выцягну.

П ч а л а. Увесь залаты пылок забяру ў яго ды аднясу ў свой вулей...

М у р а ш к а. Гэй, вы, трашчоткі, змоўкніце! (*Да Званочка.*) Калі ты, маладзічок каханы, не будзеш дурнем ды ўважыш нашу просьбу, то за гэта дамо багатыя падарункі.

Х л о п ч ы к і (*разам*). Мы табе купім свістун за грош.

А с в а. Мы з пчалою прынясема табе залатога пясочку дзеля забавы.

М а т ы л ь. Я місачку ранняй расіцы дам.

М у р а ш к а. Я табе адвалю цэлы бохан хлеба.

З в а н о ч а к. Панове, ваша гутарка збянтэжыла мяне і цяжкім каменем лягла на маё сэрца! Вы хочаце



падбіць мяне на цяжкі грэх... Не, прыяцелі, я не загублю сваёй душы. Я служыў верна Маку, так і буду служыці. Чысты я радзіўся, чыстым і ўмру... Выбачайце, панове, больш нам не аб чым гаварыці...

Усе, апроч Званочка, збіраюцца разам і аб нечым раяцца.

М у р а ш к а (*да Званочка*). От што, месяц ты наш ясны, за тваю турбацыю мы згаварыліся даць табе падарунак, якога не тое што ты, але і бацька твой у сне не бачылі: мы дамо табе жывой вады...

З в а н о ч а к (*у вялікай радасці*). Вы здабудзеце для мяне жывой вады, катораю я магчыму ажывіці сваіх нябожчыкаў брацейкаў!.. І гэта праўда? Ай-ёй, як я рад!.. Добра, панове, няхай будзе па-вашаму. Зраблю ўсё, што вам трэба.

У с е (*разам*). Ой, якая вялікая радасць! Гой-гой, мілы дзецючок!.. Дзякуем табе...

М у р а ш к а. Чаго пажадалі, таго й дачакалі... Дзякую табе! А за падарункам прыйдзеш тады, як ён у нас будзе...

Усе кланяюцца і адыходзяць. Званочак адзін.

З в а н о ч а к (*задумаўся*). Папаўся ў вялікі грэх... Які я стаў паганы ды абрыдлівы. Не стрымаўся: здрадзіў Маку. Сабака і той верна служыць свайму гаспадару, а я... (*Пацiху плача, а потым, гледзячы на сонейка, гаворыць сам да сябе.*) Яснае сонейка! Ты ўжо адыходзіш на спакой начны і аддаеш свае апошнія ласкавыя позіркі цэлай зямлі. Паглянь на мяне, як сіраціну адзінокага, ды навучы мяне, неразумнага, як выбіцца з цяжкага грэху. (*Задумваецца моцна, а потым спахапіўшыся, кажа.*) Бач, якая шчаслівая мысль мне прыйшла ў цям!.. Пайду да лесавога Дзеда, вазьму ў яго чароўных парашкоў і дам іх перад сном Маку. Ад гэтых парашкоў ён будзе ў сне, як наяве, усё чуць і бачыць, і калі яго яны захочуць скрыўдзіць, то ён не

дасца, ён абароніцца. Хвала сонейку, што яно дало мне здагад, як выратавацца ад найстрашнейшага ў свеце грэху — здрады. Калі яны захочуць Маку зло зрабіць, то ён спазнае толькі, якіх мае прыяцеляў, і застыдзіць іх... Іду да ляснога дзеда, ён мяне выведзе з бяды. Бывайце здаровы, мае кветачкі!.. (*Кланяецца і выходзіць.*)

З а с л о н а.

## Сцэна трэцяя

Абстава тая, што была. Вечар. М а к размаўляе з Р у ж а ю. З в а н о ч а к збірае з кветак расу на вячэру для мака.

Ружа, Мак.

Р у ж а. Мінуўшай ноччу мне сніўся надта цяжкі сон.

М а к. А я заўсёды вельмі моцна сплю і ніякіх сноў не бачу.

Р у ж а. Я, бач, заўсёды дрыжу за сваё жыццё і з таго надта баязліва сплю.

М а к. А што ж табе, пахуча Ружа, снілася?

Р у ж а. Мой сон быў надта страшны і меў стычнасць з табою, сусед.

М а к. Авохці мне! Раскажы, суседка. Мяне вельмі цікавіць твой сон.

Р у ж а. Нанач не след было б і гаварыць пра такія страхі. Але няхай на гэты раз будзе, як ты жадаеш.

М а к. Кажы, кажы, суседка, буду слухаці...

Р у ж а. Здавалася, што стаіць надта цёплая вясна. Мы з табою, гэтак, як і цяпер, сядзелі тутка ў садку ды аб чымсьці гутарылі. З цёмнага неба на нас глядзелі дзеткі сонейка — ясныя зоркі. З далёкага поўдня несліся сюды ціхія вецяркі ды, ласкава абвяваючы нас, шапталі нам свае чароўныя казкі. Паміж нас густымі хмаркамі клубіліся запахі маладой вясны. Срэбная раса



сваім халадком свяжыла нас. Мы з табою былі зусім здаволеныя, шчаслівыя... Потым, не табе гаворачы, напалі на нас нейкія страшныя мары і, абступіўшы, пачалі здзіраць з нас апраткі. Я надта спалохалася і адразу прачнулася.

М а к. Але, суседка, ты надта брыдкі сон бачыла. Адным толькі можна сябе пацешыці, што сны надта рэдка збываюцца.

Р у ж а. Гэта праўда... Але ўсё-такі, суседзе, трэба асцерагацца.

М а к. У мяне ёсць шчыры служка — Званочак.

Р у ж а. Не давярайце, Мак: бывае, што нашыя першыя прыяцелі аддаюць нас у рукі нашых ворагаў.

М а к. Сягоння ў цябе, суседка, у галаве надта нудныя думкі.

Р у ж а. Сэрца маё чуе нешта нядобрае. (*Устае.*) Пара мне дадому. Бывайце здароў, сусед!.. (*Выходзіць.*)

М а к. З Богам... Няхай табе Бог пашле вясёлыя думкі ды шчаслівыя сны...

Званочак сыпле ў місачку з расою парашкі, што прынёс ад Дзеда-Лесавіка, і, размяшаўшы, падае гэту страву Маку.

Званочак, Мак.

(*Есць і кажа.*) Якая смачная страва! Сцюдзёная раса дадае мне сілы, падымае ў галаве добрыя думкі, вясёлыя пачуцці. (*Звяртаючыся да Званочка.*) А чаму гэта ты, хлопча, не вячэраеш?

З в а н о ч а к. От зараз, паночку, і я буду...

М а к. А чаму ты сягоння гэтакі хмурны, ці не ўвязалася да цябе, хлопча, якая напасць?..

З в а н о ч а к. Не, паночку... крыху нездаровіцца. От нап'юся халоднай вады — і ўсё пяройдзе. (*П'е ваду.*)

М а к (*павячэраўшы, кладзецца спаць і сам сабе кажа*). Якая сягоння пекная ноч!.. Як ласкава глядзяць на зямлю зоркі! А якая пахучасць стаіць усюды!..

Вясёлая ды шчаслівая пара... Хвала высокаму небу!.. (*Засынае.*)

Званочак паціху выходзіць з саду на вуліцу. Ноч цямнее. Потым адразу адчыняюцца дзверы, і ў садок урываюцца ў масках А с в а, П ч а л а, М а т ы л ь, С к а к у н е ц, М у р а ш к а ды д в а х л о п ч ы к і. Мак хоць і спіць, але, прыняўшы страву з чароўнымі парашкамі, усё чуе і бачыць у сне, як наяве. Як адно да Мака прыторкнуліся, ён адразу схапіўся ад сну і моцна закрычаў.

Стойце, зладзеі! Ні кроку ўпярод! Вы хацелі мяне абакрасці?! Ах вы, шыбельнікі, душагубы! За гэта я вас зачарую вечным сном. (*Падымае рукі і кажа заклінанне.*) Спіце, моцна пачывайце, ды ніколі не ўставайце!.. (*Дзьмухае на зладзеяў.*)

Усе пачынаюць слабець і хіліцца на зямлю.

Р э з е д а. А-ёй, як спаці хочацца!..

А с в а. Сон валіць на зямлю.

М у р а ш к а. Вочы зліпаюцца, як у п’янай...

Усе кладуцца і засынаюць. Уваходзіць Р у ж а, а за ёй З в а н о ч а к.

Ружа, Мак, Званочак.

Р у ж а. Ніяк не магла сягоння заснуць. Нейкае цяжкае чуццё надта таміла мяне... Дай, думаю, адведаюся да свайго суседа Мака, ці не прылучылася з ім якое бяды...

М а к. Сон твой, суседка, быў праўдзівы. Ось зараз, як ты выйшла адгэтуль, я, павячэраўшы, лёг спаць. Не паспеў яшчэ сплюшчыць вачэй, як зараз сюды ўціснуліся нейкія зладзеі, закрыўшыся чорнымі маскамі, і давай зрываць з мяне апраткі. Яны маглі сцягнуць з мяне ўсё да апошняй ніткі, бо я сам, а Званочак выйшаў чагось-то на вуліцу. Але нейкім дзівам сягоння ў сне я ўсё чуў ды бачыў, як наяве. І от зладзеяў гэтых я злавіў ды зачараваў іх вечным сном. От яны ўсе тут ляжаць, разбойнікі гэтыя...



Р у ж а (*паднімаючы маскі*). Ба! Ды гэта ўсё нашы знаёмыя: вось Мурашка, вось Асва з Пчалою, вось Матыль і Скакунец, а гэта хлопчыкі!..

М а к. Вось дык прыяцелі!.. Ну, цяпер канец іхнім зладзействам: яны ніколі ўжо не прачнуцца.

З в а н о ч а к (*кланяючыся*). Вяльможны Мак, мне надта шкада іх... Як яны любілі светлае сонейка! Як вясёла гулялі ў яго залатых і цёплых прамянях! А цяпер ляжаць, як нябожчыкі, без усмешкі, без пахілкі... Цяжкая іх доля!.. Пашкадуй іх, вяльможны Мак, даруй ім віну, знімі з іх закляцце сваё. Будзь, як сонейка, каторае ніколі нікога не карае, а на ўсіх добрых і благіх свеціць і ўсіх грэе сваім цяплом.

Р у ж а. Званочак кажа праўду: нам усім трэба быць чыстымі, як сонейка...

М а к. Не праціўлюся гэтаму, але ж не трэба забываць, што зладзейства павінна быць пакарана.

З в а н о ч а к. Праўда, шалёнцы гэтыя павінны быць пакараны, але трэба зрабіць, каб гэтае каранне не было здзекам над стварэннем Божым і каб яно не ўносіла сваркі ў жыццё ды разрухі. Лепей хай будзе шчасце... Няхай лепей усе радуюцца, весяляцца.

Р у ж а. Надта добра прыдумана...

М а к. Лепшага нічога не прыдумаеш... Але ўся бяда ў тым, што зачараваці сном я магу, а адчараваці не ўмею: няма ў мяне на тое сілы. Як жа тут быць?..

З в а н о ч а к. Гэта я магу з вялікай радасцю зрабіць. Вось гэтым звонікам. (*Звоніць чароўным звонікам.*)

Усе прачынаюцца і ўстаюць. Усе радзеюць.

М а т ы л ь. Ізноў жыццё!..

С к а к у н е ц. Ой, якая радасць! Ізноў буду весяліцца...

Р э з е д а. Я буду цяпер шчаслівая і без багатае адзежы...

А с в а. Ой радасць! Я вырываю сваё жыгала!

П ч а л а. І я зраблю па-твойму...

Х л о п ч ы к і. Больш ніколі не будзем нікога крыўдзіць.

М у р а ш к а. Ізноў праца і прыемны адпачынак. Ой, лопну з радасці. Музыка, барджэй грай! Панове, збірайцеся на скокі ды спевы!..

Музыка грае. Усе бяруцца за рукі і скачуць, спяваючы.

Падушачкі, падушачкі,
Ды ўсе пухавыя!..
Малодачкі, малодачкі,
Ды ўсе маладыя!..
Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,
Падушачку пухавую
Таму падарую!..

З а с л о н а.

*1912*

# Каментар

Творы Кандрата Лейкі, якія ўвайшлі ў гэту кніжку, паходзяць з розных друкаваных і архіўных крыніц. Празаічныя — у асноўным з газеты «Наша ніва», у якой пачынаючы з 1911 года Кандрат Лейка друкаваўся. Вершы — з беларускай перыёдыкі, якія з'явіліся ў друку ў канцы XX стагоддзя, знойдзены складальнікам гэтай кнігі, а таксама дасланы пляменнікам Кандрата Лейкі Уладзімірам Іванавічам Лейкам з горада Здалбунава Ровенскай вобласці Украіны, і з Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

## Паэзія

Вершы «Бусел», «Сарока», «Над калыскаю» друкуюцца паводле часопіса «Вясёлка», 1988, № 12.

Вершы «Песня ластаўкі», «Дзед і баба», «Ядзерац», «Рабко», «Песня працаўнікоў» друкуюцца з архіва складальніка кнігі і з рукапіснага аддзела Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (ф. 21, адз. зах. 254–258).

Вершы «Журавель», «Верабей», «Павук», «От плісачкі з ластаўкамі» друкуецца паводле часопіса «Беларусь», 1990, № 10.

Вершы «Птушкі», «Муха» друкуюцца паводле газеты «Слонімскі веснік» ад 13 чэрвеня 1995 года.

Верш «Пчолы» друкуецца паводле часопіса «Вожык», 1988, № 21.

Верш «Зязюлька» друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню быў апублікаваны 27 кастрычніка 1911 года.

Верш «Навальніца» друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню быў апублікаваны 13 лютага 1914 года.

Вершы «Напрадвесну», «Апошнія хвіліны» друкуюцца паводле газеты «За перамогу камунізму» (Слонім) ад 7 кастрычніка 1989 года.

## Проза

*Успамін*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 20 кастрычніка 1911 года.

*Ганулька*

Друкуецца паводле часопіса «Маладосць», 2007, № 9, дзе было апублікавана ўпершыню.

*Таклюся-сухотніца*

Друкуецца паводле «Нашай нівы» ад 28 чэрвеня 1912 года.

*Сляпы дзед Якаў*

Друкуецца з асабістага архіва складальніка.

*Пан Трудоўскі*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 25 красавіка 1914 года.

*Панас Крэнт*

Друкуецца паводле кнігі «Беларуская дакастрычніцкая проза» (Мінск, 1965). Упершыню апавяданне было апублікавана ў «Нашай ніве» 7 і 14 лістапада 1913 года.



*Абмылка*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 29 мая і 5 чэрвеня 1915 года.

*Кульгавы дзядзька Раман*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 19 красавіка 1912 года.

*Лес шуміць...*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 3 кастрычніка 1913 года.

*Маці і дзеці*

Друкуецца паводле часопіса «Беларусь», 1990, № 10.

*Грэх скупляецца смерцю*

Друкуецца паводле зборніка «Велікодная пісанка». Вільня,1914.

*На падворку і ў хаце*

Друкуецца паводле часопіса «Беларусь», 1990, № 10.

*Юрко і бусел*

Друкуецца паводле часопіса «Беларусь», 1990, № 10.

*Без хлеба*

Друкуецца паводле «Беларускай думкі», дзе ўпершыню было апублікавана 2 чэрвеня 1919 года.

*Бабуся*

Друкуецца паводле «Нашай нівы», дзе ўпершыню было апублікавана 14 студзеня 1921 года.

*Ліса-шахрайка*

Друкуецца паводле часопіса «Вясёлка», 1994, № 11–12.

*На споведзі*

*Паймала і пазнала*

Друкуюцца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (ф. 21, адз. зах. 254–258).

## Драматургія

*Снатворны Мак*

Друкуецца паводле асобнага выдання: Кандрат Лейка. Снатворны Мак. Вільня: «Артель печатного дела», 1912.



## Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Лейка** Кандрат Тодаравіч

# Пан Трудоўскі

*З літаратурнай спадчыны*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана ў друк 4.02.2015. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул. выд. арк. 4,43. Ум.-друк. арк. 6,72.
Наклад 100 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.